**Глагол** (*грам.*)—дзеяслоў.
**Глагольный**—дзеяслоўны.
**Гладиатор**—глядыятар.
**Гладильный**—прасавальны.
**Гладильня**— прасавальня.
**Гладить** 1)—гладзіць, раўнаваць; 2) *белье*—прасаваць.
**Гладкий**—гладкі, роўны.
**Гладко**—роўна.
**Гладкость**—гладкасьць, роўнасьць.
**Гладь**—гладзь, роўнядзь.
**Гладыш** (*зоол.*)—грабец.
**Глажение** (*утюгом*)—прасаваньне.
**Глаз**—вока; *близорукий*—вока папанІклівае, вока нізкае; *дальнозоркий*—вока далёказрочнае; *нормальный*—вока звычайнае; **глаза** (мн. ч.)—вочы, зёркі, бельмы; *зоркие*—быстрыя вочы; *за* **глаза**—заачы; *в* **глазах**—уваччў; *на* **глаз**—на вока; *з* **глаз** *на* **глаз**—сам-на-сам; *видеть собственными* **глазами**—на свае вочы бачыць; **глаза** *разбежались*—вочы забегалі; *выходить с* **глаз**—зьнікаць з вачэй; *с дурным* **глазом**—ліхі на вока; *пустить пыль в* **глаза**—пусьціць туману; *сомкнуть* **глаза**—заплюснуць вочы; *стрелять* **глазами**—зіркаць; *хлопать* **глазами**—лыпаць вачыма; *щурить* **глаза**—шчэліцца; *окинуть* **глазом**—скінуць вокам; *не на чем* **глаза** *остановить*—нейдзе й вокам зачапіць; *прочь с* **глаз**—прэч з маіх вачэй; **глаз** *нельзя оторвать*—аж вочы адбірае.
**Глазастый**—лупаты, зіркасты, вірлавокі.
**Глазение**—зірканьне.
**Глазеть**—зіркаць, разьзяўляцца, дзівавацца
**Глазет**—глязэт.
**Глазировать** (*о посуде*)—паліваць; глянсаваць;-**зированный** (*о посуде*)—паліваны.
**Глазной**—вочны;-**ное** *яблоко*—вочнае яблыка, вірла.
**Глазок**—вочка;-**зок** *спящий*—вочка сьпячае (*б. т.*)
**Глазомер**—вокамер.
**Глазурь** (*для посуды*)—паліва.
**Глас**—*см.* **Голос.**

**Гласить** (*юрид.*)—казаць, гаварыць.
**Гласно**—галосна, на людзях.
**Гласность**—галоснасьць, яўнасьць.
**Гласный**—галосны, яўны;-**ый** *звук*—галосны гук.
**Глафира**—Глапіра.
**Глашатай**—зьвястун, заклікач.
**Глеб**—Глеб.
**Глетчер**—ледавік (г.-к. т.).
**Глина**—гліна; *горшечная*—ганчарная; *лепная*—разьбярная; *жирная*—тлустая; *осадочная*—пластовая; *фарфоровая*—парцалянка (г.-м. т.).
**Глиний**—алюмінь, гліняк.
**Глинистый**—гліністы;-**стая** *земля*—глей.
**Глиновал**—глінар.
**Глиновальня**—глінарня.
**Глинозем**—гліназём.
**Глинокопня**—глінішча.
**Глист**—гліст.
**Глистогон** (*бот.* Santonina L)—цытвар.
**Глицерин**—рыцына.
**Глицериновый**—рыцынавы.
**Глобус**—глёбус.
**Глог**—*см.* **Спиж.**
**Глодать**—грызьці, жвакаць.
**Глотание**—глытаньне, каўтаньне.
**Глотать**,-**тнуть**—глытаць, глынуць; каўтаць,-тнуць,-тануць.
**Глотка**—горла, глотка
**Глоток**—глык, каўток, сёрб.
**Глохнуть**—глухнуть.
**Глубже**—глыбей.
**Глубина**—глыбіня, глыбачыня, глыбокасьць; *в* **глубину, глубиною**—углыбкі; *до самой* **глубины**—да споду.
**Глубокий**—глыбокі, глыбачэнны; -**кий** *траур*—вялікая жалоба; -**кая** *печаль*—засмучэньне;-**кая** *тишина*—надзвычайная ціша; *до* **глубокой** *ночи*—да познае ночы.
**Глубоко**—глыбока.
**Глубоководный**—глыбокаводны.
**Глубокомысленность**;-**мыслие**—удумлівасьць, разважнасьць.
**Глубокомысленный**—удумлівы, вельмі разважны.
**Глубокость**—глыбокасьць.
**Глубокоуважаемый**—вельмі паважаны, шаноўны.

**Глубочайший**—найглыбшы;**-шее** *уважение*—шчырая пашана.
**Глумиться**—зьдзеквацца, кпіць (з каго).
**Глумление**—зьдзек, зьдзекі, глум, кпіны.
**Глупенький**—дурненькі, анікаваты.
**Глупенькая**—дурненькая, дурніца.
**Глупеть**—дурнець, бязглуздзецъ.
**Глупец**—дурань, дурны, дурыла; ёлуп, таукач.
**Глупить**—дурыць.
**Глупо**—падурному, неразумна, неразважна, з дурнога розуму, кепска.
**Глуповатый**—прыдуркаваты, анікаваты.
**Глупость**—1) дурата, дурота, дурнота, дурны розум, блазнота; 2) глупства.
**Глупый**—дурны, бязглузды, неразумны, на розум небагаты; **глуп** *как пробка*—дурны як пень
**Глупыш**—*см.* **Глупец.**
**Глухарка**—глушыца.
**Глухарь** (Tetrao)—глушэц.
**Глухо**—глуха.
**Глуховатый**—глухаваты, недачутлівы.
**Глухой**—глухі; глушэц, тукала.
**Глухонемой**—глуханямы.
**Глухота**—глухата; *неполная*—недачуваньне.
**Глущица** (*бот.* Lamium album L)—яснотка белая (б. т.).
**Глушить**—глушыць.
**Глушь**—глуш, глушыня.
**Глыба** камлыга, скіба, брыла, ком
**Глядение**—глядзеньне, бачаньне, пазіраньне.
**Глядеть**—глядзець, бачыць, пазіраць.
**Глядь!**—бач!, зір!, зірк!
**Глядя**—глядзячы.
**Глина**—гліна.
**Гнать**—гнаць, ганіць, выганяць, турыць; паганяць; *выгнал из дома* выжануў з хаты.
**Гнаться**—гнацца, імкнуцца.
**Гнев**—гнеў, гневаньне, сердаваньне.
**Гневаться**—гневацца, сердавацца, злавацца.
**Гневливость**—гняўлівасьць.
**Гневливый**—гняўлівы.
**Гневный**—гнеўны, сярдзіты.

**Гнедко**—гнеды.
**Гнедой**—гнеды.
**Гнездиться**—гнязьдзіцца, кублііцца
**Гнездо**—гняздо, кубло; *беличье*—хайлук.
**Гнездовка** (*бот.* Neottia L)—гняздоўнік (б. т.).
**Гнёздышко**—гнязьдзечка, кубельца
**Гнейс**—гнэйс.
**Гнести**—гнесьці, гнясьці, цісьнуць, уціскаць.
**Гнет**—уціск, уціскаьньне, ціск, прыціск; *орудие для увязки снопов*—рубель, рубліна.
**Гнида**—гніда.
**Гниение**—гніцьцё.
**Гниловатый**—пагнілы, гніленькі.
**Гнилой**—гнілы, трухлявы, трупехлы спарахнелы.
**Гнилостный**—гнілотны, гнойны.
**Гнилость**—гнілота, трухлявасьць, трупехласьць, спарахнеласьць
**Гниль**—гніль, гнільлё, гной, тлень
**Гнильё**—гнільлё.
**Гнить**—гніць; *о дереве*—трухлець, прухнуць, парахнець
**Гноение**—гнаеньне.
**Гноетечение** гнояцеча.
**Гной**—гной; бруд, матэрыя; *затянуться* **гноем**—загнаіцца.
**Гнойник**—гнаяўка, валасень.
**Гнойный**—гнойны.
**Гноить**—гнаіць.
**Гноиться**—гніць, гнаіцца.
**Гном**—гном.
**Гномон**—гноман, ляска.
**Гноючесть**—гнаістасьць.
**Гноючий**—гнаісты.
**Гну** (*зоол.* Antilope gnu)—гну.
**Гнусавец**—гамзель, гомза.
**Гнусавить**—гамзаць, гугнявіць, гугніць.
**Гнусавость**—гамзатасьць, гугнявасьць
**Гнусавый**—гамзаты, гугнявы.
**Гнусно**—гідка, брыдка, ганебна, паскудна.
**Гнусность**—гідота, ганебнасьць, паскудзтва.
**Гнусный**—гідкі, ганебны брыдкі, паскудны, плюгавы.
**Гнуть**—гнуць, гбаць, хіліць, згінаць
**Гнуться** гнуцца, хіліцца, схіляцца.
**Гнушаться**—грэбаваць, брыдзіцца, перабіраць.

**Гнущийся**—гнýткі.
**Гобой**—габой.
**Говельщик**—гавéльнік.
**Говение**—гавéньне.
**Говеть**—гавéць.
**Говор** 1) *диалект*—гаворка, гýтарка; 2) *шум голосов*—гоман.
**Говорение**—гаварэньне, балáканьне, гамонка.
**Говорильня**—гаварыльня.
**Говорить**—гаварыць, казáць, мовіць; *беседовать*—размаўляць, гаманіць, гýтарыць, зюзюкаць; *несерьёзно*—балáкаць, дудýкаць; **говорить** *скороговоркой*—як гарохам сыпаць; *не с тобой* **говорят**—не да цябé кáжуць; **говорить** *в шутку*—казáць на жарт.
**Говорится**—гаворыцца; *как* **говорится**—як кáжуць.
**Говорливость**—гутарлівасьць.
**Говорливый**—гутарлівы, гаманлівы, гаваркі.
**Говорун**—гаварок, раздабáра, болбат.
**Говорунья**—гаварýха, балбатýха.
**Говядина**—ялавічына.
**Говяжий**—ялавічы.
**Гоголь** (*птица*)—гогаль; *ходит* **гоголем**—ходзіць пéўнем, задрáўшы нос.
**Гоготать** 1) *по гусиному*—гэгаць; 2) *кричать*—гойкаць, галёкаць; 3) *смеяться*—рагатáць.
**Год**—год, лéта, рок; *високосный,*—год перастýпны, перастýп; *текущий*—сяголéтні, бягýчы год; *в этому* **году**—сёлета; *в прошлом* **году**—лéтась; *на другой* **год**—налéтась; *в позапрошлом* **году**—пазалéтась.
**Година**—гадзіна, час, часіна.
**Годичный**—гадавы, рочны.
**Годность**—ужытачнасьць, ужытнасьць, прыдáтнасьць, здáтнасьць.
**Годный**—ужытачны, ужытны, гожы, прыдáтны, здáтны.
**Годовалый**—аднагодак;-**лый** *теленок*—пярэзімак.
**Годовать**—векавáць.
**Годовой**—гадавы, рочны;-**вой** *ребенок*—адналéтак.
**Годовщина**—угодкі, гадавіна.
**Голавль**—галавéнь.
**Голенастый**—цыбáты.
**Голенище**—халява.
**Голень**—галёнка, лытка;-**ная** *кость*—цэўка.
**Голенький**—галюсенькі.
**Голик**—дзяркáч.
**Голить,-ться**—галіць,-ліцца.
**Голландец**—галяндыец.
**Голландия**—Галяндыя.
**Голландский**—галяндыйскі, галяндэрскі.
**Голо**—гола.
**Голобородый**—галабароды, безбародзька.
**Голобрюхий**—галапýзы, галапýзік.
**Голова**—галавá, голаў; *рубить, срубить* **голову**—сьцінáць, сьцяць галавý; *ломать* **голову**—марочыць галавý; *павесіць* **голову**—спусьціць, схіліць галавý; *покачать* **головой**—пакруціць галавой; *очертя* **голову**—стрымгалоў; *сорви* **голова**—шыбенік, вісус, вырвас; *терять* **голову**—ня даць сабé рáды; *голова не в* **порядке**—у галавé ня ўсе клёпкі; *сколько* **голов**, *столько умов*—што галавá, то розум; *как снег на* **голову**—неўспадзéўкі.
**Головастик**—1) галавáн; 2) (*зоол.*)—апалонік, палонік.
**Головастый**—галавáты, мазгавáты.
**Головешка, головня**—галавéшка, галаўня, галýза.
**Головище**—верхавіна, пачáтак (ракі).
**Головка**—галоўка; *маку*—мáкаўка.
**Головной**—галаўны;-**ной** *платок*—хýстка.
**Головня**—*см.* **Головешка**.
**Головокружение**—зáмарака, запамарока.
**Головоломка**—галаваломка, ламаніна.
**Головомер**—галавамéр.
**Головомойка**—нагонка.
**Головоногий** (*зоол.*)—галаваног.
**Головорез**—галаварэз, шыбенік, вісус, галіна
**Головушка**—галовачка.
**Головчатый**—галоўчаты.
**Гологоловый**—галамоўза.

**Голод** – голад; *заморить* **голод** – угамаваць голад, перакусіць.
**Голодание,-дать**—галадаваньне, -даваць.
**Голодно**— голадна.
**Голодный** – галодны;**-ный** *год*—няхлебны год, бясхлебіца.
**Голодовка**—галадоўля, галадаваньне.
**Голодуха** – галадуха.
**Гололедица**—вобліў, галашчок, галалёд, галялёд.
**Голоногий** —галаногі.
**Голоперый**—галаперы, галапупік.
**Голопятый**—галапяты, галадранец.
**Голорукий** – з голымі рукамі.
**Голос**—голас, мат; *совещательный*— голас дарадчы; *понижать* **голос** – зьніжаць голас; *повышать* **голос**—падвышаць голас; паднімаць голас; *кричать во весь* **голос**—гарлаць, гарланіць; *в один* **голос**—аднагалосна; *подавать за кого* **голос**—галасаваць за каго.
**Голосеменные** (*бот.* Gymnospermae)—голанасенныя (б. т.).
**Голосистость**—галасістасьць, галасьлівасьць.
**Голосистый**—галасісты, галасьлівы, звонкі.
**Голосить**—галасіць, выць, лементаваць.
**Голословно**—бяз довадаў, без падставы, бязгрунтоўна.
**Голословность**—бяздоваднасьць, беспадстаўнасьць, бяздаказнасьць, бязгрунтоўнасьць.
**Голословный** – бяздовадны, беспадстаўны, бездаказны, бязгрунтоўны.
**Голосование**—галасаваньне.
**Голосовать** – галасаваць (за каго).
**Голосовой** – галасавы;**-вой** *звук* (*грам.*)—гучны (звонкі) гук; **-вая** *связка*—галосьніца.
**Голосок**—галасок.
**Голоусый**—галавусы, галавус.
**Галоштанник** – галадранец.
**Голубёнок**—галубяня.
**Голубец** 1)—блакіт, блакітная фарба, 2) кобец.
**Голубизна**—блакіць.
**Голубика** (*бот.* Vaccinium uliginosum L)—буякі (б. т.), дурніцы.
**Голубиный**—галубячы, галубіны.
**Голубить** – мілаваць, песьціць.
**Голубичник** – буячнік.
**Голубка** (*ласкат.*)—галубка.
**Голубой** (*цвет*) – блакітны, васільковы.
**Голубочек**—галубок.
**Голубушка**—галубка, мая каханая.
**Голубчик**—галубочак.
**Голубь** (*зоол.* Columba)—голуб; **голубь** *каменный*—(Columba livia) —дзікі голуб; **голубь** *воркун* (C. tympanisans)—турчык, турок.
**Голубятник,-тня** – галубоўнік, -боўня.
**Голый**—голы; **голыми** *руками* - галаруч; **голая** *праўда*—шчырая праўда; **гол,** *как сокол*—голы, як бізун, як бубен.
**Голытьба**—галота, галытва; злыдні.
**Голыш**—голы, галяк, галыш; галадранец, злыдзень.
**Голь**—галеча, злыдні.
**Гомель** (*гор.*)—Гомель.
**Гомельский**—Гомельскі;**-ская** *губерния*—Гомельшчына.
**Гомеопат**—гамэапат.
**Гомеопатия**—гамэапатыя.
**Гомер**—Гамэр.
**Гомерический**—гамэрычны, заходзісты; *смеяться* **гомерическим** *смехом*—рагатаць, аж заходзіцца.
**Гомогенный** – аднародны (пс.-л. т.)
**Гомографический**—аднапісны.
**Гомоним**—аднайменьнік (л. т.).
**Гомонимия**—аднайменнасьць (л. т.).
**Гомонимный**—аднайменны.
**Гон**—гон; *в* **гоны** – навыперадкі.
**Гонг**—гонг.
**Гонение**—ганеньне, гнацьцё, пагон, уціск.
**Гонец**—1) ганец, пасланец; 2) *раст.* (Sedum acre L)—расходнік востры (б. т.).
**Гонимый**—гнаны.
**Гонитель**—напасьнік, вораг.
**Гонительница**—напасьніца.
**Гонка**—гон, сплаў лесу.
**Гонобобель**—*см.* **Голубика.**
**Гонор** —гонар.
**Гонорар**—ганарар, аўтарская плата.
**Гонорроя**—ганарэя.

**Гонт**—гонт, гонты.
**Гонтовый**—гонтавы.
**Гончар** - ганчáр, гаршкáль.
**Гончарничать**—ганчаравáць.
**Гончарный**—ганчáрны;**-ный** *промысел*—ганчáрніцтва.
**Гончарня**—ганчáрня.
**Гончий**—гончы;**-ная** *собака*—ганчáк.
**Гоньба**—гнацьцё, пагон.
**Гонять**—ганяць, гнáць, ганíць, турыць.
**Гоняться**—ганяцца, гнáцца (за чым) імкнýцца (да чаго), лавíць (што).
**Гора**—гарá; *под* **гору**—з гары; в **гору**—на гору; *ходить по* **горе**—хадзíць гарою, пагары; *как* **гора** *с плеч*—як кáмень ад сэрца; **гора** *денег*—сíла, бéзьліч грошай; *у него* **гора** *денег*—у яго грошай кýры ня клююць.
**Горазд**—прыдáтны.
**Гораздо**—шмат, далёка, багáта.
**Горб**—горб.
**Горбатый**—гарбáты;**-того** *исправит могила*—малéнькі сабáчка да сьмéрці (да вéку) шчаня.
**Горбик**—гарбок.
**Горбина**—гарбíна, гарбавíна.
**Горбить**—горбіць, гарбáціць.
**Горбиться**—горбіцца, гарбáціцца.
**Горбун**—гарбáты, гарбáч.
**Горбунья**—гарбáтая.
**Горбушка** (*хлеба*)—акрáец, акрáйчык.
**Горбыль** *(вид тёса)*—аполак.
**Горделивость**—гардавáтасьць, фанабэрнасьць
**Горделивый**—гардавáты, фанабэрны.
**Гордец**—горды, гардýн, надýцік, амбíт, пышка.
**Гордиться**—гардзíцца, надзімáцца пышыцца, ганасíцца, задавáцца, амбíціцца, фанабэрыцца; мець многа мух у носе *(Як. Кол.)*.
**Гордость**—гордасьць, пыха, фанабэрыя.
**Гордый**—горды, пышны, амбíтны, фанабэрысты.
**Гордыня**—гардыня, гардота.
**Гордячка**—гордая, пышная, надýтая, фанабэрыстая.
**Горе** 1) гора, лíха; 2) **жаль, смýтак**, тугá; **горя** *не знает*—жывé ані гáдкі; *на* **горе**—на жаль; *изведать* **горе**—зазнáць гора; *с* **горя**— з жáлю.
**Горевание**—гаравáньне, бедавáньне
**Горевать**—гаравáць; *печалиться*—тужыць, нýдзіцца, сумавáць; *бедствовать*—бедавáць.
**Горелка** (*у лампы*)—палíлка.
**Горение**—гарэньне, палéньне.
**Горелки** (*игра*)—гарэлкі, гарыпні.
**Горелый**—гарэлы, пáлены.
**Горемыка**—гаротнік, гарапáшнік, небарáка, бядáк.
**Горемычный**—гаротлівы, бяздольны.
**Горенка**—сьвятлíчка, пакойчык.
**Горестно**—балéсна, тужлíва.
**Горестный**—гаротны, тужлíвы, прыкры;**-ная** *жизнь* злыдні.
**Горесть**—гаротнасьць, гарэча; жаль *(м. р.)*, туга, смýтак.
**Гореть**—гарэць, палíцца; цяплíцца; сьвяцíцца;**-реть** *нетерпением* прагчыся; **горит** *во рту*—пячэ ў роце.
**Горец**—гарняк.
**Горец** (*бот.* Polygonum)—драсён (б. т.); *аптечный* (Pol. bistorta L)—рáчыкі, рáкавыя шыйкі; *узловатый* (Pol. convolvul vus L)—дрост, драсён павойны.
**Горечавка, горчанка** (*бот.* Gentiana L)—гарычка (б. т.)
**Горечь**—горкасьць, гаркатá, ёлкасьць;**-чью** *отдает*—гарэніць.
**Горизонт**—кругавíд, пазéм.
**Горизонталь**—пазéмнік (г.-к. т.).
**Горизонтальный**—пазéмны.
**Горилла** (*зоол.*)—гарыля.
**Гористость**—гарыстасьць.
**Гористый**—гарысты, узгоркаваты.
**Горицвет** (*бот.* Lychnis dioica L)—сьвéтнік (б. т.), гарыцьвéт.
**Горка**—горка; *Красная горка*—Рáдаўніца, вясновыя дзяды.
**Горлан**—гарлáч.
**Горланить**—гарлáніць, гарлáць.
**Горластый**—гарлáсты.
**Горлач** (*кувшин*)—гладыш.
**Горлец**—*см.* **Горец**.
**Горлица** (*зоол.* Columba turtur) тýрчык, турок.

**Горло**—горла, гарля́к, гарля́нка; зеў, жарало; *кричать во все* **горло**—гарла́ць, гарла́ніць.
**Горловина**—гарлаві́на, жарало.
**Горловой**—гарлавы́.
**Горлодёр**—гарла́ч.
**Горлышко**—горлачка, шы́йка.
**Горлянка** (*бот.* Cucurbita lagenaria L)—гарля́нка.
**Горн** 1) *на заводах*—горан; 2) *муз.* горн.
**Горний**—вы́шні.
**Горнило**—горан.
**Горнист**—гарні́сты.
**Горница**—пакой, сьвятлі́ца.
**Горничная**—пакаёўка.
**Горнозаводский**—гісэрневы (г.-к. т.)
**Горнокаменный**—горнакаме́нны.
**Горнорабочий**—гарня́к, шахцёр.
**Горнопромышленник**—нетракапа́льнік.
**Горнопромышленность**—нетракапа́льная прамысловасьць (г.-к. т.).
**Горностай** (*зоол.* Mustella)—гарнаста́й.
**Горный**—горны, гаравы́, гарні́чы; **-ное** *масло*—на́фта, зе́мны але́й.
**Город**—ме́ста, горад; *ни к селу ни к* **городу**—ні да скла́ду, ні да ла́ду.
**Городить**—гарадзі́ць;**-дить чушь**—плявўзгаць, чаўпсьці́.
**Городище**—гарадзе́ц.
**Городовой** 1) *прил.*—ме́скі, гарадавы́; 2) *существ.*—міліцыянэр.
**Городок**—гарадок, мястэчка.
**Городской**—гарадзкі́, ме́скі.
**Городчастый** (*лист*)—зарубча́сты, (б. т.).
**Горожанин**—гарадча́нін, мешчані́н.
**Горожанка**—гарадча́нка, мяшча́нка.
**Гороообразование**—гораўтварэньне, (г.-к. т.).
**Гороскоп**—гараскоп.
**Горох**—гарох; *место, где рос горох*—гарохавішча; *гороховая солома*—гарохавіны.
**Гороховина**—гарохавіна.
**Гороховинка**—гарохавінка.
**Гороховый**—гарохавы.
**Горошек**—гарошак; *посевный* (*бот.* Vicia sativa L)—ві́ка се́ўная (б. т.).
**Горошина**—гарошына.
**Горошинка**—гарошынка.
**Горст**—горст.
**Горсть, горстка**—жме́ня; *льна*—мы́чка.
**Гортанный**—гарта́нны.
**Гортань**—гарта́нь, гарля́нка.
**Гортензия** (*бот.* Hortensia L)—гартэнзія.
**Горчейший**—найгарчэйшы.
**Горчица** (*бот.* Sinapis L)—гарчы́ца.
**Горчичник**—гарчы́чнік.
**Горчичница**—гарчы́чніца.
**Горчичный**—гарчы́чны.
**Горшечник**—гаршка́ль, гаршкалёп.
**Горшечный**—гаршэчны.
**Горшок**—гаршчок (р.—гаршка́); *с узким горлышком*—гляк.
**Горшочек**—гаршчочак, гаршэчак, гарну́шак.
**Горький**—горкі, е́лкі.
**Горькнуть**—гарка́вець, гарчэць, ялчэць.
**Горько**—горка, е́лка; пры́кра.
**Горьковатость**—гарка́васьць, елкава́тасьць.
**Горьковатый**—гарка́вы, елкава́ты.
**Горькость**—горкасьць, е́лкасьць.
**Горы-Горки**—Горкі.
**Горюн**—гару́н, мармыту́н.
**Горючесть**—гару́часьць, па́лкасьць
**Горючий**—гару́чы, па́лкі, пяку́чы; **-чие** *слезы*—горкія сьлёзы; **-чий** *материал*—па́ліва.
**Горюшко**—горанька, горачка.
**Горячечный**—гара́чкавы.
**Горячий**—гара́чы, пяку́чы, па́лкі; **горячий** *человек*—на ім аж ску́ра гары́ць, гара́чы чалаве́к.
**Горячиться**—гарачы́цца, запаля́цца, распаля́цца, азардава́ць.
**Горячка**—гара́чка, гару́чка.
**Горячность**—гара́чнасьць, пал, запа́л; *в работе*—руплі́васьць, агнёвасьць.
**Горячо**—горача, па́лка.
**Госпиталь**—шпіта́ль.
**Госпитальный**—шпіта́льны.
**Господин**—пан; **господа**—панове, паны́; *собир.*—па́нства.
**Господский**—па́нскі;**-ский** *дом* гаспода, двор.
**Господство,-вование**—панава́ньне.
**Господствовать**—панава́ць па́нстваваць.

**Господь**—гаспод, пан бог.
**Господствующий**—панýючы; пераважны.
**Госпожа**—пáня; *дома* (*хозяйка*)—гаспадыня.
**Гостеприимный**—гасьцíнны.
**Гостеприимство**—гасьцíннасьць.
**Гостинница**—гасьцíніца, гатэль.
**Гостить**—гасьцявáць, гасьцíць.
**Гость**—госьць.
**Гостья**—госьцейка.
**Государственность**—дзяржáўнасьць, гаспадáрнасьць.
**Государственный**—дзяржáўны, гаспадáрны;**-ная** *казна*—скарб.
**Государство**—дзяржáва; гаспадáрства, пáнства.
**Государыня**—валадáрка, пáня, каралéва.
**Государь**—гаспадáр, пан; *милостивый* **государь**—Вáша мíласьць.
**Гот**—гот.
**Готика**—готыка.
**Готический**—гатычны.
**Готовальный,-льня**—гатавáльны, -льня.
**Готовить**—гатавáць, рыхтавáць, лáдзіць.
**Готовиться**—гатавáцца, рыхтавáцца.
**Готовление**—гатавáньне.
**Готовность**—гатовасьць; *в готовности*—напагатове.
**Готовный,-вый**—гатовы, ахвочы.
**Гощение** гасьцявáньне.
**Граб** (*бот.* Carpinus)—граб.
**Грабаздать**—лáпаць, хапáць.
**Грабёж**—грабéж, рабýнак, драпéжніцтва.
**Грабелина**—грáбліна.
**Грабельщик**—грабéц.
**Грабитель**—грабежнíк, рабоўнік, драпéжнік, зьдзíрца.
**Грабительский**—грабéжніцкі, рабоўніцкі, драпéжніцкі, зьдзíрскі.
**Грабительство**—рабоўніцтва, драпéжніцтва, зьдзíрства; рабавáньне, гвалт.
**Грабить**—грáбіць, рабавáць, драпéжнічаць.
**Грабли**—грáблі.
**Грабовый**—грáбавы.
**Гравий**—жвір, жарствá.
**Гравилат** (*бот.* Geum)—гарлачоўка.
**Гравировальный**—грававáльны.
**Гравировальня**—грававáльня.
**Гравировка**—грававáньне.
**Гравюра**—гравюра.
**Град**—град.
**Градация**—ступенявáньне (л. т.).
**Градобитие**—градабíцьце.
**Градоначальник**—начáльнік гораду, (мéста), бурмíстар *(устарелое).*
**Градской**—гарадзкí, мéскі.
**Градуирование**—падзéл на грáдусы.
**Градус**—грáдус, ступéнь.
**Градусник**—грáдуснік.
**Гражданин**—грамадзянін.
**Гражданка**—грамадзянка.
**Гражданский**—грамадзянскі, цывíльны.
**Гражданственность**—грамадзянскасьць.
**Гражданственный**—грамадзянскі.
**Гражданство**—грамадзянства.
**Грамм**—грам.
**Грамматик**—граматысты.
**Грамматика**—грамáтыка.
**Грамматический**—граматычны.
**Грамота** 1)—грáмата, пісьмо; 2) *юрид.*—грáмата, прывілéй, унівэрсáл, дэкрэт, ліст; *охранная* **грамота**—абаронны, ахоўны ліст; *дарственная* **грамота**—даравáльны ліст.
**Грамотей**—грамацéй, пісьмéнны.
**Грамотка**—пісýлька, цыдýлка.
**Грамотность**—грáматнасьць, пісьмéннасьць.
**Грамотный**—грáматны, пісьмéнны.
**Гран** (*аптеч. вес*)—гран.
**Гранат** (*бот.* Punicum granatum L)—гранáт.
**Граната** (*воен.*)—гранáта.
**Гранатный**—гранáтавы, гранáтны.
**Гранатометчик**—гранатамётнік.
**Грандиозность**—вялíзáрнасьць, вялічэзнасьць.
**Грандиозный**—вялíзáрны, вялічэзны, вялічэзны.
**Гранение**—шліхавáньне.
**Гранёный**—шліхавáны.
**Гранильный**—шліхавáльны.
**Гранильщик**—шліхавáльнік.
**Гранильный**—шліхавáльны.
**Гранильня**—шліхавáльня.

**Гранит**—граніт, зярняк (г.-м. т.); **гранит** *гнилой*—граніт вы́петралы.
**Гранитный**—гранітны.
**Гранить**—шліхавáць.
**Граница**—граніца, мяжá, рубéж, кардон; *выйти из* **границ**—перабрáць мéрку.
**Граничить**—гранічыць, межавáцца (з чым), упінáць (ува што).
**Граничный**—гранічны, сумéжны, рубéжны, кардонны.
**Гранка**—шпáльта.
**Грань**—сьцéнка (м. т.).
**Граф**—граф, грап.
**Графиня**—графіня, грапіня.
**Графа**—графá; шпáльта.
**Графин**—карáфа.
**Графинчик**—карáфка.
**Графит**—графіт.
**Графить**—лінавáць.
**Графический**—графічны, пісоўны.
**Грациозность**—павáбнасьць, стройнасьць.
**Грациозный**—павáбны, стройны.
**Грация** 1) *мифол.*—грáцыя; 2) вáбнасьць, стройнасьць, прыгожасьць.
**Грач** (*зоол.* Corvus)—грак.
**Грачёнок**—грачаня́.
**Гребёнка**—шчотка.
**Гребень**—грэбень; „*волны*—грэбень хвáлі;“ *горной цепи*—грэбень горнага ланцугá (г.-к. т.).
**Гребец**—грабéц, вясьля́р.
**Гребешок**—грабянéц, грабéнчык.
**Гребной**—вясловы.
**Гребник** (*бот.* Cynosurus L.)—грэбнік (б. т.).
**Греза**—вяроза (Як. Кол.); мáра.
**Грезить**—вярозіць (Як. Кол.), мáрыць.
**Грезиться**—мáрыцца, вярзьціся.
**Грек**—грэк.
**Грековосточный**—грэкаўсходны.
**Греметь** 1)—грымéць; 2) *о посуде*—зьвінéць, бразкатáць; 3) *об экипаже*—тарахцéць.
**Гремучий**—грымучы; *гремучая змея*—грымýчка, бражджоўніца (з. т.)
**Гремушка**—брáзкаўка.
**Гренадер**—грэнадзéр.
**Гренадерский**—грэнадзéрскі.
**Гренок**—грэнка.
**Грести** 1) *веслом*—грабці, гарнýць, веславáць; 2) *граблями*—грабці.
**Греть**—грэць.
**Грех**—грэх, вінá, правіна; *загладить* **грех**—адпакýтаваць; *с* **грехом** *пополам*—так-ся́к.
**Греховность**—грахоўнасьць.
**Греховный**—грахоўны.
**Греховодник**—грахаводнік.
**Грехопадение**—праграшэньне.
**Греция**—Грэцыя.
**Греча, гречиха** (*бот.* Polygonum fagopyrum L.)—грэчка, гры́ка, грэка.
**Гречанка**—грачáнка.
**Греческий**—грэцкі.
**Гречневый**—грэцкі;**-вая** *солома*—грачáнка.
**Грешить**—грашы́ць, рабіць грэх.
**Грешник**—грэшнік, грахаводнік.
**Грешница**—грэшніца, грахаводніца.
**Грешный**—грэшны.
**Грешок**—грашок, правінка.
**Гриб** (*бот.* Fungus)—грыб; *белый* (Boletus bovinus)—баравік, шчы́ры, праўдзівы грыб; *дожджевик*—порхаўка; *масленик*—казёл; *сыроежка*—суравéжка, сыраéжка; *опенок*—апенькі (мн. л.).
**Грибастый**—губáты, губáр, губáч.
**Грибница**—грыбня́ (б. т.).
**Грибной**—гры́бны.
**Грибовидный**—грыбáсты.
**Грибозвон**—цымбáлы.
**Грибок**—грыбок.
**Грива**—гры́ва.
**Гривенник**—дзеся́тка.
**Гривка**—гры́ўка.
**Григорий**—Рыгор, Грыгор.
**Грим**—грым.
**Гримаса**—грымáса, крывáя міна, гімора.
**Гримасничать**—грымáсьнічаць, рабіць гіморы, міны.
**Гриф** (*зоол.*)—грыф.
**Грифель**—гры́фель.
**Грифельный**—гры́фельны.
**Гроб**—трунá, дамавіна; *вогнать в* **гроб**—на той сьвет загнáць.
**Гробница**—надгробак.
**Гробовой**—трýнны, дамавінавы.
**Гробовщик**—трунáр.
**Гробокопатель**—грабакоп.
**Гродно** Горадня, Горадзен.

**Гродненский**—Горадзенскі.
**Гроза**—навальнiца, бура.
**Гроздь**—гранка, грона, пук.
**Гроздевый**—гранкавы, гронавы.
**Грозить**—пагражаць (каму), страшыць (каго), гразiць.
**Грозно**—грозна, з пагрозаю.
**Грозность** — грознасьць, страшэннасьць.
**Грозный**—грозны, страшэнны.
**Грозовый** — навальнiчны, громавы; **-вая** *ночь*—вераб'iная ноч.
**Гром**—гром (р.*-му*), грымоты; *удар* **грома**—пярун.
**Громада,-дина**—вéлiч.
**Громадность** — вялiзарнасьць, вялiчэзнасьць.
**Громадный** — вялiзны, вялiзарны, вялiчэзны, вагромнiсты.
**Громила**—грамiла.
**Громить**—руйнаваць, бурыць, нiшчыць, пустошыць, разбурваць.
**Громкий**—голасны, галасьлiвы, гучны, зычны, моцны; вырáзны, слаўны.
**Громко**—голасна, галасьлiва, гучна, зычна, моцна, выразна; **громко** *кричать*—благаць.
**Громкость**—голаснасьць, гучнасьць, зычнасьць.
**Громовержец**—грамавiк.
**Громовой**—пяруновы.
**Громовый**—гучны, зычны (голас).
**Громогласие** — галоснасьць, гучнасьць.
**Громогласный**—галосны, гучны.
**Громоздить**—накладаць, награмаджаць.
**Громоздкий** — няўкладзiсты, грамозны.
**Громоотвод** — пярунавод, пярунньнiк.
**Громыхание**—грукат, грукатаньне, тарахценьне.
**Громыхать**—грукаць, тарахцець.
**Громыхнуться**—*см.* **Грохнуться**.
**Гросс**—грос.
**Грот**—пячора.
**Гротеск**—гратэск.
**Гротовый**—пячорны.
**Грохнуть** — грукнуць, грымнуцца, бухнуць.
**Грохнуться**—грукнуцца, грымнуцца, бухнуцца, упасьцi.
**Грохот**—грукат.
**Грохотанье** — грuканьне, грукатаньне.
**Грохотать**—грукаць, грукатаць, тарахцець.
**Грош**—грош, шаг, шэлег.
**Грошевой**—грашовы, шаговы.
**Грубеть**—цьвярдзець, калянець, шурпацець, грубнуць.
**Грубить,-биянить**—грубiць, грубiянiць.
**Грубо**—груба, па-грубiянску, па просту, нязграбна.
**Грубоватый** 1)—трохi грубы; 2) *о ткани* — жорскi, шурпаты, цўбкi.
**Грубость**—грубiянства.
**Грубый** 1)—грубы, грубiянскi, просты, недалiкатны; 2) *о ткани*—жорскi, шурпаты; 3) *о работе*—нязграбны.
**Груда**—груда, купа, брыла, мноства.
**Грудастый**—грудзiсты.
**Грудина**—грудзiна.
**Грудинка**—грудзiнка.
**Грудной**—грудны, пéлькавы; **-ная** *клетка* (*анат.*)—агрудзьдзе.
**Грудобрюшная преграда** (*анат.*)—плява.
**Грудь**—грудзi (*только в множ. ч.*); пéлькi; (*сосцы*)—цыцкi; *взяться за* **грудь** *в драке*—узяцца за грудкi.
**Груз**—цяжар.
**Груздь** (*бот.* Agaricus piperatus)—грузд.
**Грузин**—грузiн.
**Грузинка**—грузiнка.
**Грузинский**—грузiнскi.
**Грузить**—класьцi, накладаць; пакаваць.
**Грузия**—Грузiя.
**Грузно**—цяжка, важка.
**Грузный**—цяжкi, важкi; *человек*—тоўсты, гладкi.
**Грузнуть**—грузнуць, загрузаць.
**Грузовой**—цяжаровы, пакоўны, пакавальны.
**Грузчик**—пакоўнiк, пакавальнiк.
**Грунт**—грунт.
**Грунтование,-товка**—грунтаваньне, кiтаваньне.
**Грунтовать** *(готовить фон)*—грунтаваць, кiтаваць.
**Группа**—група, купа, гурток.

**Группирование,-ровка** —групава́ньне, гуртава́ньне.
**Группировать**—групава́ць, гуртава́ць.
**Групповый**—гру́павы.
**Грустить**—смуці́цца, сумава́ць, смуткава́ць, журы́цца, ну́дзіцца.
**Грустно**—сму́тна, су́мна, журблі́ва, маркотна.
**Грустный**—сму́тны, су́мны, журблі́вы, маркотны.
**Грусть**—журба́ (пс.-л. т.), сму́так, маркота, туга́.
**Груша** (*бот.* Pyrus)—ігру́ша.
**Грушевидный**—груша́сты.
**Грушевый**—ігру́шавы.
**Грушовка**—грушоўка.
**Грыжа**—кіла́.
**Грыжевой**—кілава́ты; кілу́н.
**Грыжник** (*бот.* Herniaria glabra L.)—гладу́н (б. т.).
**Грызение**—грызе́ньне.
**Грызня**—грызьня́, сва́рка, згрызоты, гы́рканьне.
**Грызть**—гры́зьці; *семечки*—луза́ць.
**Грызться**—гры́зьціся, свары́цца, гы́ркацца.
**Грызуны** (*зоол.* glires)—грызуны́.
**Гряда**—1) града́; 2) загон.
**Грядка**—гра́дка.
**Грядущее**—бу́дучына.
**Грядущий**—бу́дучы, патомны, насту́пны.
**Грязевой**—гра́зевы.
**Грязелечебный**—гразяле́кавы.
**Грязи** (*мед.*)—гра́зі.
**Грязнить**—бру́дзіць, брудзя́ніць.
**Грязно**—бру́дна, балотна.
**Грязнуха**—плю́ндра, лаху́дра, задры́па, няхлю́йка.
**Грязный**—бру́дны, балотны, нячы́сты.
**Грязь**—гра́зь, бру́д, балота.
**Грянуть** 1) *о громе*—гры́мнуць, гру́кнуць; 2) *о пушке*—бу́хнуць, ба́бахнуць.
**Грянуться**—*см.* **Грохнуться.**
**Губа**—гу́ба; **губы**—гу́бы, ву́сны; *насмешливо*—грыбы́, цымба́лы; *дуть* **губы** закапы́льваць гу́бы; *сжать* **губы**—сьці́снуць гу́бы.
**Губа** (*залив*)—затока, за́вад.
**Губан**—губа́р, губа́ч.
**Губастый**—губа́ты, грыба́сты.
**Губернатор**—губэрна́тар.
**Губерния**—губэрня.
**Губернский**—губэрскі.
**Губитель**—згу́бнік, згу́бца.
**Губительный**—згу́бны, згу́блівы.
**Губительство**—згу́ба, зьнішчэньне.
**Губить**—губі́ць, ні́шчыць, пагубля́ць, звадзі́ць.
**Губка**—гу́бка.
**Губной**—губны́.
**Губошлёп**—разя́ва, разява́ка.
**Губчатость**(*ткани*)—губкава́тасьць.
**Губчатый**—губкава́ты.
**Гувернер**—гувэрнёр, выхава́льнік.
**Гувернантка**—гувэрна́нтка, выхава́льніца.
**Гугнивый**—*см.* **Гнусавый.**
**Гудение**—гудзе́ньне.
**Гудеть**—гусьці́, гудзе́ць.
**Гудок**—гудок.
**Гуж**—гуж; *гужом*—гу́жам.
**Гужевой**—гужавы́.
**Гул**—гудзе́ньне, гук, гул.
**Гулёж**—гульня́.
**Гулкий**—гу́чны, галосны.
**Гулко**—гу́чна, галосна
**Гульба**—*см.* **Гулёж.**
**Гульбище**—ігры́шча.
**Гуляка**—гуля́ка, гульта́й, лодар, латру́га, буса́йла.
**Гулянье**—гу́лі, гульня́, гуля́ньне, ігры́шча.
**Гулять** 1)—гуля́ць; 2) *лентяйничать*—гультая́ва́ць, латрава́ць, (*ср.* **Баклуши бить**).
**Гулящий**—*см.* **Гуляка;-щая** *девка*—ку́рва.
**Гуманизм**—гумані́зм.
**Гуманист**—гумані́сты.
**Гуманистический**—гуманісты́чны.
**Гуманитарный**—гуманіта́рны.
**Гуманность**—гума́ннасьць, людзкасьць.
**Гуманный**—гума́нны, лю́дзкі.
**Гуменник**—прыгуме́ньне.
**Гуменце**—гуме́нца.
**Гуммиарабик**—гуміара́бік.
**Гумно**—гумно, клу́ня.
**Гумус**—гу́мус, перагной.
**Гурыя**—гу́рыя, ра́йская дзяўчы́на.
**Гурт**—гурт, агу́л.
**Гуртовой**—гуртавы́, агу́льны.
**Гуртом**—агу́лам, ра́зам.
**Гурьба**—гу́рма; **гурьбой**—гу́рмам, грамадой.
**Гусар**—гуса́р.

**Гусарский**—гусáрскі.
**Гусеница**—вýсень.
**Гусёнок**—гусянé.
**Гусиный**—гусíны, гусячы;-**ный** *жир*—шмáлец.
**Гусли**—гýсьлі.
**Гусляр**—гусьлéр.
**Густенек**—гусьцéнькі.
**Густеть**—гусьцéць.
**Густо**—гýста.
**Густой**—густы́.
**Густота**—гушчынé, гýшча, гýстасьць
**Густошерстный**—рунíсты.
**Гусь** (*зоол.* Anser)—гусáк.
**Гусыня**—гýска, гусь.
**Гуськом**—гýжам, наўсьцéж, ключом.
**Гусятина**—гусéціна.
**Гусятник**—гусéтнік.
**Гуттаперча**—гýма.
**Гуттаперчевый**—гýмавы.
**Гуща**—гýшча, гушчáр; *остатки на дне*—фуз.

## Д.

**Да**—але, але-ж, ды, дый, агá, эгэ́, а то-ж, а ўжо-ж, так; **да** *вот*—ужо-ж; **да** *разве*—ці-ж, альбо-ж, няўжо-ж, хібá-ж; **да** *уже*—ужо-ж; **да** *и только*—дый годзі; **да** *будет*—няхáй бýдзе, стáнься; **да** *и то правда*—то бо й то; *ни* **да**, *ни нет*—ні так, ні сяк.
**Дабы**—каб.
**Давалец**—давáльнік.
**Даватель**—давéц.
**Давать**, **дать**—давáць, даць, надавáць; **давать** *взаймы*—пазычáць; *дороже*—перадавáць; *залп*—выпáльваць; *знать*—паведамлéць, накáзваць; *клятву*—запрысягáць; *насильно*—упірáць; **дать** *отступного*—даць адчэпнага; *отчет*—здáць спрáву; *очную ставку*—зьвясьцí вочы-на-вочы; *промах*—схíбіць, спудлавáць; *приют*—прытулíць; *себя знать*—дáцца ў знáкі; *тумака*—штурхануць, даць штурханцá; *тягу*—даць драпакá, пусьцíцца на ўцéкі; *что-нибудь*—euперакíнуць; *делу другой оборот*—перавярнýць спрáву; **давать** *обед*, *ужин*, *пир*—спраўлéць абéд, вячэру, банкéт.
**Даваться**, **даться**—давáцца, дáцца.
**Давеча**—надóячы, анагды́сь, нядáўна.
**Давешний**—надоячны, нядáўні.
**Давид**—Давы́д.
**Давильный**—цíскальны.
**Давить**—1) цíскаць, давíць, гнясьцí, душы́ць; 2) мýліць; **давит** *грудь*—сэрца сьціскáе; *ботинок* **давит**—камáш мýляе.
**Давка**—сьціск, дáўка, даўкатá.
**Давление**—ціск, нáціск, даўлéньне, нагнёт.
**Давненько**—даўнютка, подаўна.
**Давний**,-**нишний**—дáўні, даўнюткі.
**Давно**—даўно, даўнéй; *довольно* **давно**—подаўна; **давно** *это было*—гэта было, калі яшчэ швэд босы хадзíў; *давным* **давно**—даўно-даўно.
**Давнопрошедший**—даўномінулы (*грам.*).
**Давность**—дáўнасьць, даўнінá.
**Дажбог** (*миф.*)—Дажбог.
**Даже**—аж, ажно, нáват, нáт, ані; **даже** *до*—аж да, што да; *и* **даже**—а то й; *если* **даже**—калí навáт.
**Дактилический**—дактылíчны (верш).
**Дактиль**—дáктыль.
**Далее, дальше**—дáлей, далéй, дальш, надáлей, дáлі.
**Далекий**—далéкі, дáльні.
**Далеко**—далéка; **далеко** *так итти*—такí сьвет íсьцí.
**Далеконько**—далекавáта, падалéка.
**Далекость**—далéкасьць.
**Даль**—даль, далячынé, дáлеч; *в* **дали**—зводаль.
**Дальнейший**—далéйшы, напатомны; *в* **дальнейшем**—надáлей.
**Дальний**—дáльні, далéкі; **дальний** *путь*—вялíкая дарога.
**Дальнобойность**—далекабойнасьць, далекастрэльнасьць.
**Дальнобойный**—далекабойны, далекастрэльны.
**Дальновидность**—празорнасьць, абáчлівасьць.
**Дальновидный**—празорны, празорлівы, абáчлівы.

**Дальнозоркий**—далеказрочны.
**Дальнозоркость**--далеказрочнасьць.
**Дальномер**—дальнамéр.
**Дальномерщик**—дальнамéрнік.
**Дальномерный**—дальнамéрны.
**Дальность**—*см.* **Далекость.**
**Дальше**—*см.* **Далее.**
**Дама**—дáма, пáня.
**Дамаск** (*гор.*)—Дамáск.
**Дамба**—дáмба, грэбля, гаць.
**Дамка** (*в игре в шашки, карты*)—дáмка.
**Дамский**—дáмскі, жаночы.
**Даниил**—Данíла.
**Дания**—Дáнія.
**Данник**—дáньнік.
**Даннический**—дáньніцкі.
**Данный**—дáдзены, дáны; **данное**—дáнае (м. т.), дáдзенае
**Дантист**—дантысты, зубны лéкар.
**Данциг** *гор.*—Гданск.
**Данцигский**—гдáнскі.
**Дань**—данíна; **дань** *зерном*—асянíна; **дань** *за проезд*—вазовае.
**Дар**—**дар**, падарýнак; **дар** *на память*—пáмятка; **дар** *слова*—моўнасьць.
**Дарданеллы**—Дарданэлы.
**Дарование**—даравáньне.
**Дарёный**—даравáны.
**Дарить**—дарыць, даравáць, абдáрваць (каго чым.).
**Дармовой**—*см.* **Даровой**
**Дармоед**—дармаéд.
**Дарование** (*талант*)—тáлент, талáнь, здольнасьць, здáтнасьць.
**Даровать**—даравáць, абдáрваць (каго чым).
**Даровитость**—талéнтнасьць, таланавíтасьць, здольнасьць, здáтнасьць.
**Даровитый**—талéнтны, таланавíты, здольны, здáтны.
**Даровой**—дарэмны, дармавы; даравы, даравáны.
**Даровщина**—дарэмшчына.
**Даром** 1)—дармá, задáрмá; 2) *напрасно*—дарэмна, задарэмна, мáрна, надурнíцу.
**Дароносица**—дараносíца.
**Дарственный**—даравáны;**-ная** *грамота*—даравáльны ліст.
**Дарья**—Адáр'я, Дáр'я, Дáрка.
**Дата**—дáта.
**Датель**—**давéц.**
**Дательный** (*падеж*)—давáльны (склон).
**Датировать**—азначáць дáту, датавáць.
**Датский**—дáньскі.
**Датчанин**—даньчáнін.
**Дать**—*см.* **Давать.**
**Дача** 1) даньнё, давáньне, **падáча**; 2) лéтніца; 3) *лесная* **дача**—дзялянка.
**Даяние**—давáньне.
**Даятель**—*см.* **Даватель.**
**Два**—два.
**Двадцатигранник**—дваццацісьцéньнік прáвільны, ікасáэдр (м.т.).
**Двадцатигранный** — дваццацісьцéнны.
**Двадцатилетний**—дваццацігадовы.
**Двадцатый**—дваццáты.
**Двадцать**—двáццаць.
**Дважды**—двойчы, падвойчы, падвакроць, два разы.
**Две**—дзьве (*р* —дзьвёх, дзьвюх).
**Двенадцатигранник**—дванаццацісьцéньнік.
**Двенадцатый**—дванáццаты, двакáнцаты.
**Двенадцать**—дванáццаць, дванáнцаць.
**Дверка**—дзьвéрцы, дзьвéркі.
**Дверной**—дзьвéрны.
**Дверцы**—дзвéрцы, дзьвéркі; *у ворот*—фортка; **дверцы** *револьвера*—зáсланка рэвальвóру (в. т.).
**Дверь**—дзьвéры (*только в множ. ч.*); **дверь** *одностворчатая*—дзьвéры ардынáрныя.
**Двести**—дзьвéсьце.
**Двигатель**—рухавíк.
**Двигательный**—рухавы.
**Двигать, двинуть**—рýхаць, рýшыць; соваць, сýнуць; крáтаць, кранýць; пасувáць, пасунуць; парýшыць, папхнýць.
**Двигаться, двинуться**—рýхацца, рýшыцца; совацца, сýнуцца; падавáцца, падáцца; *с места не* **двинусь**—з мéсца ня рýшуся
**Движение**—рух, рушэньне; ход, бег; **движение** *населения*—зьмéна люднасьці (г.-к. т.); **движение** *произвольное*—рух адвольны (пс.-л. т.); *дать делу* **движение**—даць спрáве ход;

*дело лежит без* **движения**—спра́ва ня ру́хае напе́рад; *привести в* **движение**—зварухну́ць, пасу́нуць.
**Движимость**—рухомасьць.
**Движимый**—рухомы;**-мое** *имущество*—рухомая мае́масьць.
**Двина** (*река*)—Дзьвіна́.
**Двинск** (*гор.*)—Дзьвінск, Дына́бург.
**Двое**—двое.
**Двоебрачие**—1) друга́жонства, другі шлюб; 2) двужонства.
**Двоебрачный**—1) другажэнец, другашлю́бны; 2) двушлю́бны.
**Двоедушие**—двуду́шнасьць, фальшы́васьць, няшчы́расьць.
**Двоедушничать**—двуду́шнічаць, фальшы́віць, крывіць.
**Двоедушный**—двуду́шны, фальшы́вы, няшчы́ры.
**Двоеженство**—*см.* **Двоебрачие**.
**Двоекратный**—двукра́тны, двуразовы.
**Двоемыслие**—двузна́чнасьць, вага́ньне, ду́маньне надвое.
**Двоение**—дваеньне; падвае́ньне, раздвае́ньне.
**Двоеточие** (*грам.*)—двукро́п'е.
**Двойка**—двойка.
**Двойни**—двайня́ты, блізьня́ты.
**Двойник**—спары́ш.
**Двойной**—падвойны, двойчаты, дубальтовы; **двойное** *количество*—ду́бальт.
**Двойственность**—двоістасьць.
**Двойственный**—двоісты;**-ное** *число* (*грам.*)—па́рны лік.
**Двоить**—дваіць, падвая́ць.
**Двоиться**—двоіцца.
**Двор**—двор, панадворак, дзядзінец; **двор** *постоялый*—заезны двор; *скотный* **двор**—за́гарада.
**Дворец**—пала́ц.
**Дворецкий**—аканом.
**Дворик**—дварок.
**Дворище**—вялікі двор, дворышча, панадворышча.
**Дворник**—дворнік, вартаўнік.
**Дворницкая**—дворніцкая.
**Дворничиха**—дворнічыха.
**Дворня**—чэлядзь.
**Дворняга,-няжка**—дварня́к.
**Дворовый**—дваровы, дамовы.
**Дворянин**—дваранін, шля́хціц.
**Дворянка**—двара́нка, шляхця́нка.
**Дворянский**—двара́нскі, шляхе́цкі.
**Дворянство**—двара́нства, шляхе́цтва.
**Дворянчик**—шляхцю́к.
**Двоюродный**—стрые́чны, збратдзе́тны;**-ная** *сестра*—стры́ечка;**-ные** *родственники*—з-брат-дзе́ці.
**Двоязычный**—двуязы́кі, няшчы́ры.
**Двоякий**—двая́кі, падвойны.
**Двояко**—двая́ка, на́двае.
**Двояковыпуклый**—двоякавы́гнуты.
**Двоякоперистый** (*лист*)—двойчапе́ры (б. т.)
**Двоякость**—двая́касьць.
**Двубрачие**—*см.* **Двоебрачие**.
**Двуглавый**—двугаловы.
**Двуглазый**—двувокі, двохвокі.
**Двугласный**—двугалосны.
**Двугодичный,-довалый,-довой**—друга́к, двохле́тні, двугадовы.
**Двугривенник,-ный**—двацца́тка, саракоўка.
**Двугубый**—двугу́бы.
**Двудневный**—двудзённы, двохднёвы.
**Двудомные** (*бот.*)—рознапнёвыя.
**Двузначный**—двохзна́чны;**-ное** *число* (*мат.*)—двохзна́кавы лік.
**Двузубец** (*бот.* bidens)—саба́чка.
**Двузубый**—двузу́бы.
**Двуколейный**—двукале́йны.
**Двуколка**—бяда́.
**Двуконечный**—двуканцовы.
**Двуконный**—двуконны, параконны.
**Двукопытный**—двукапы́тны.
**Двукратно**—два́краць.
**Двукратный**—двукра́тны.
**Двукрылый**—двукры́лы.
**Двулетие**—двохле́цьце;**-тний,-ток** —*см.* **Двугодичный**.
**Двулистный**—двохлісты.
**Двуличие**—двуду́шнасьць, фальшы́васьць, няшчы́расьць.
**Двуличный**—двуду́шны, фальшы́вы, няшчы́ры.
**Двуместный**—двумясцовы, на два месцы.
**Двумесячный**—двуме́сячны, двохме́сяцавы; *на* **двумесячный** *срок*—на два ме́сяцы.
**Двуногий**—двуногі.
**Двупарный**—двохпа́рны.
**Двупалый**—двохпа́лы.
**Двуполый**—двохродавы.

**Двурогий**—двурогі.
**Двурядный**—двайчáсты.
**Двусложный**—двохскладáны.
**Двусмысленность**—двузнàчнасьць.
**Двусмысленный**—двузнáчны.
**Двусотый**—двусотны.
**Двустволка**—дубальтоўка.
**Двуствольный**—дубальтовы.
**Двустворчатый**—двойчаты; *двустворчатая дверь*—дзьвéры на дзьве палав*і*ны.
**Двустепенный**—двуступянёвы.
**Двустишие**—двувéрш.
**Двусторонний**—двубокі, абапольны.
**Двуутробка** (*зоол.* Didelphus)—торбаноша (з. т.)
**Двух'аршинный**—двох'аршы́навы.
**Двухвёрстный**—двувярстовы.
**Двухвершковый**—двохвяршковы.
**Двухвостка** (*зоол.* Harpyia)—двухвостка (з. т.)
**Двухколёсный**—двукольны.
**Двухкопеечный**—двукапéечны.
**Двухлетие**—*см.* **Двулетие**.
**Двухмесячный**—*см.* **Двумесячный**.
**Двухнедельный**—двохтыднёвы.
**Двухпудовый**—двохпудовы.
**Двухстепенный**—*см.* **Двустепенный**
**Двухчлен** (*мат.*)—двохчлен.
**Двухчленный**—двохчлéнны.
**Двух'этажный**—двохпавéрхавы.
**Двуцветный**—двухкаляровы.
**Де, дескать**—маўляў, моў, бок.
**Дебаркадер**—дэбаркáдэр, стáнцыя, пры́стань.
**Дебаты**—дэбáты, дыскýсія, разважáньне, абгаворваньне спрáвы, спрэчкі.
**Дебатировать**—дэбатавáць, абгаворваць спрáву, спрачáцца.
**Дебелость**—дзябёласьць.
**Дебелый**—дзябёлы, моцны.
**Дебет**—дэ́бэт, прыбы́так.
**Дебитор**—вінавáйца, даўжн*і*к.
**Дебош**—буя́нства.
**Дебошир**—буя́н, свавольнік.
**Дебоширить**—буя́ніць, сваволіць.
**Дебоширство**—буя́нства, свавольства.
**Дебристый**—нéтраны.
**Дебрь**—нéтра, пýшча.
**Дебют**—дэбю́т, пéршы вы́хад (пéршае выступлéньне актора на сцэне).
**Дебютант,-тка**—дэбютáнт,-тка.
**Дебютировать**—дэбютавáць, выступáць.
**Дева, девица**—дзяўчы́на, дзéўка, пáнна; *взрослая* **девица**—дзéўка на выдáньні.
**Деваться, деться**—дзявáцца, дзéцца; падзявáцца, падзéцца.
**Деверь**—дзéвер.
**Девиз**—дэв*і*з, знак.
**Девий,-ческий,-чий**—дзéўчын, дзявочы, дзявоцкі, панéнскі.
**Девица**—*см.* **Дева**.
**Девичество**—дзявоцтва.
**Девка**—дзéўка; *бой*-**девка**—козырдзяўчы́на.
**Девочка**—дзяўчы́нка, дзяўчá, дзяўчáтка, панéначка.
**Девочкин**—дзяўчы́нчын.
**Девочник**—дзяўчýр.
**Девственница**—чы́стая дзяўчы́на, дзявочніца, цэлка.
**Девственность**—дзявоцтва, дзявоцкасьць, дзяв*і*часьць, дзявочы стан.
**Девственный**—дзявоцкі, дзяв*і*чны, панéнскі, нечапáны, нязрýшаны, цэлы;-**ная** *земля*—цал*і*нá, навінá;-**ная**-*плева* (*анат.*)—дзявочая балонка;-**ный** *лес*—нечапáны лес (г.-к. т.)
**Девушка**—дзяўчы́на.
**Девушкин**—дзéўчын
**Девчонка**—дзеўчаня́
**Девяносто**—дзéвяцьдзесят.
**Девяностый**—дзевяцьдзеся́ты.
**Девясил** (*бот.* Jnula L.)—дзівас*і*л (б. т.).
**Девятерик**—дзевяцяры́к.
**Девятильник** (*бот.*) 1) Achillea nobilis L.—крывáўнік шляхéтны; 2) Tanacetum vulgare L—п*і*жма звычáйная (б. т.).
**Девятины**—дзевя́ціны.
**Девятисотый**—дзевяцьсотны.
**Девятка**—дзевя́тка.
**Девятнадцатый**—дзевятнáццаты, дзевятнáнцаты.
**Девятнадцать**—дзевятнáццаць, дзевятнáнцаць.
**Девятый**—дзéвяты.
**Девять**—дзéвяць.
**Девятьсот**—дзевяцьсот.
**Дегенерат**—*см.* **Выродок**.
**Деготь**—дзёгаць; *колесный*—калан*і*ца

**Дегтярка**—мазьніца.
**Дегтярник**—дзягцяр.
**Дегтярничать**—гнаць дзёгаць.
**Дегтярный**—дзягцярны-**ный**; *завод*—дзягцярня.
**Дед**—дзед (*мн. л.*—дзяды); *быть* **дедом**—дзёдаваць.
**Дедина**—дзёдаўшчына.
**Дедовник** (*бот.* Cirsium L.)—асот.
**Дедовской**—дзёдаўскі.
**Дедуктивный**—дэдукцыйны, выводны.
**Дедукцыя**—дэдукцыя, вывядзеньне.
**Дедушка**—дзядуля, дзядулька, дзядуня.
**Дедушкин**—дзядулін, дзядулькаў.
**Дееписание** дзеяпіс.
**Деепнсатель**—дзеяпісец.
**Деепричастие** (*грам.*)—дзеяпрыслоўе.
**Деепричастный**—дзеяпрыслоўны.
**Дееспособность** (*юрид.*) дзеяздольнасьць.
**Дееспособный**—дзеяздольны.
**Дежурить**—дзяжурыць, чаргаваць, вартаваць.
**Дежурный**—дзяжурны, чарговы
**Дежурство**—дзяжурства, чарга, варта.
**Дезертир**—дэзэртыр, зьбег, уцякач.
**Дезертировать**—дэзэртаваць, зьбягаць, уцякаць.
**Дезинтерия**—*см.* **Дизентерия**.
**Дезинфекционный** дэзынфэкцыйны.
**Дезинфекция** дэзынфэкцыя.
**Дезинфекцировать** дэзынфэктаваць.
**Деизм**—дэізм.
**Действенный**—дзейсны.
**Действие**, 1) дзеяньне, дзея; 2) учынак, чын, чыннасьць; (*влияние*)—уплыў; *военные* **действия**—ваенныя дзеяньні (в. т.).
**Действительно** запраўды, дапраўды, да-рэчы, папраўдзе, рачавіста.
**Действительность**—рачавістасьць, запраўднасьць, сапраўднасьць.
**Действительный**—рачавісты, запраўдны. сапраўдны, праўдзівы,-**ный** *залог* (*грам.*)—дзейны або актыўны стан;-**ный** *член* (*научного общества*) правадзейны член.
**Действование**—дзеяньне, чыннасьць.
**Действователь**—дзеяльнік, чыньнік.
**Действовать**—дзеяць, чыніць, арудаваць; *о машынах*—працаваць.
**Действующий**—дзейны, чынны;-**щая** *армия*—дзейная армія (*в. т.*); **щие** *лица*—асобы дзе (*л. т.*)-дзеёвыя асобы.
**Декабрь**—сьнежань.
**Декабрьский**—сьнежаньскі.
**Декаграмм**—дэкаграм.
**Декада**—дэкада, дзесятка.
**Декаданс**—дэкаданс, заняпад.
**Декадент**—дэкадэнт, заняпаднік.
**Декадентский**—дэкадэнцкі.
**Декадентство**—**дэкадэнцтва.**
**Декалитр**—дэкалітр.
**Декаметр**—дэкамэтр.
**Декан**—дэкан, старшыня факультэту.
**Деканат**—дэканат.
**Декламатор**—дэкляматар.
**Декламация**—дэклямацыя.
**Декламировать**—дэклямаваць.
**Декларацыя**—дэкларацыя, абвяшчэньне.
**Декларировать**—дэкляраваць, абвяшчаць.
**Деклассированный**—дэклясаваны.
**Деклассировать**—дэклясаваць.
**Декокт**—вывар.
**Декольте**—дэкальтэ, горс, выстрыг, выраз.
**Декольтироваться**—дэкальтавацца.
**Декоративный**—аздобны, дэкарацыйны.
**Декорация**—дэкарацыя, аздоба.
**Декорировать**—дэкараваць, аздабляць.
**Декрет**—дэкрэт, пастанова.
**Декретировать**—дэкрэтаваць.
**Делание**—дзеяньне, рабленьне, чыненьне.
**Деланный**—паказны, удаваны.
**Делатель**—дзеяч, працаўнік.
**Деятельница** — дзеячка, працаўніца.
**Делать**—рабіць, дзеяць, чыніць, тварыць; *медленно*—марудзіць; **делать** *выговор*—дамаўляць; *замечание*—**рабіць увагу**, за-

ўважáць; **делать** *кротким*—гумавáць; *непригодным*—нікчэмніць; **делать** *кому приятное*—дагаджáць; **делать** *ударение*—клáсьці нáціск; **делать** *шире*—шы́рыць.

**Делаться**—дзéяцца, рабíцца, тварыцца; *нежнее*—далікатнéць; *похожим*—удавáцца; *проворнее*—праварнéць; *спесивым*—тапы́рыцца; *стройнее*--складнéць; *шире*—шырачэць.

**Делегат**—дэлегáт, прадстаўнíк.

**Делегация**—дэлегáцыя, прадстаўнíцтва.

**Делёж**—дзяльбá.

**Деление** 1)—падзéл; 2) *арифм.*—дзялéньне; **-ние** *перекрестное* (*лог.*)—падзéл крыжавы́.

**Делец**—дзялок.

**Деликатес**—ласу́нак, марцыпáны.

**Деликатничать**—быць далікáтным, абыходзіцца далікáтна.

**Деликатность**—далікáтнасьць.

**Деликатный**—далікàтны; *в смысле хрупкий*—кволы, крохкі.

**Делимое** (*мат.*)—дзéліва (м. т.).

**Делимость** (*чисел*)—падзéльнасьць; *признаки* **делимости**—прымéты падзèльнасьці (м. т.).

**Делимый**—падзéльны.

**Делитель** (*мат.*)—дзéльнік (м. т.).

**Делить**—дзялíць, падзяля́ць; *на двое, на трое и т. д.*—двоіць, троіць.

**Делиться**—дзялíцца, падзяля́цца.

**Дело**—спрáва, учы́нак, рэч, інтарэс, дзéла, работа, прáца, акт, бой; *дурные* **дела**—дрэнныя ўчы́нкі; *обыкновенное* **дело**—звычáйная рэч; *военное, ратное* **дело**—вайсковая спрáва; *быть не у* **дел**—ня мець абавя́зкаў; *в самом* **деле**—запрáўды, дапрáўды; *говорить* **дело**—гавары́ць да рэчы; **дело** *плохо*—кéпская спрáва; *известное* **дело**—вядомая рэч; *плёвое* **дело**—наўдá; *какое тебе* **дело**—што табé да таго; *мое* **дело** *сторона*—мая́ хáта з крáю; *не в том* **дело**—ня ў тым сíла; *по* **делом**—па заслу́зе; *употреблять на* **дело**—ужывáць на кары́сьць; *это* **дело**—гэта добра: *неподходящее* **дело**—не на ру́ку, нязру́чна; *итти в* **дело**—ісьцí на патрэбу; *что* **дело**, *то* **дело**—што прáўда, то прáўда; *это особое* **дело**—гэта íншая рэч; *в том то и* **дело**—а то-ж бо то; *сидит без* **дела**—пáлец аб пáлец ня вы́тне; *то и* **дело**—раз-у-раз, раз-по-раз

**Деловитость**—спрáўнасьць, працавíтасьць.

**Деловитый**—спрáўны, працавíты.

**Деловой**—спрáўны, дзялок, дзелавы́; **деловые** *бумаги*—спраравы́я папéры.

**Делопроизводитель**—дзелавод, справавод.

**Делопроизводство**—дзелаводзтва, справаводзтва.

**Дельно**—да рэчы, слу́шна, пу́тна.

**Дельный**—слу́шны, пу́тны, здольны працавíты, дарэчны.

**Дельта**—дэльта.

**Дельфин** (*зоол.* Delphinus)—дэльфíн.

**Демагог**—дэмагог.

**Демагогия**—дэмагогія.

**Демаркационный**—адмежавáльны, паўзьмéжны.

**Дементий**—Дзям'я́н.

**Демобилизационный**—дэмабілізацы́йны.

**Демобилизация**—дэмабілізáцыя.

**Демократ**—дэмакрáт.

**Демократизация**—дэмакратызáцыя.

**Демократический**—дэмакраты́чны, народаўлáдны.

**Демократия**—дэмакрáтыя, народаўлáдзтва.

**Демон**—дэман.

**Демонический**—дэманíчны.

**Демонстративный**—дэманстрацы́йны.

**Демонстрация**—дэманстрáцыя, пакáз, вы́ява.

**Демонстрировать**—дэманстравáць, пакáзваць, выяўля́ць.

**Денатурат**—дэнатурáт.

**Денационализация**—дэнацыяналізáцыя.

**Денежка**—грошык; **денежки**—грашаня́ты, грошы́кі.

**Денежный** 1)—грашовы; 2) *о человеке*—грашавíты; **-ный** *знак*—

Осадок—вопадзь; мута́, фуз.
Осадочный—апа́дкавы, фу́завы; -ные *породы* (*минер.*)—апа́дкавыя або пластовыя пароды (г.-м. т.).
**Осаждать, осадить**—аблягàць, аблéгчы; абсяда́ть, абсе́сьці.
**Осаживание**—аса́джваньне, спыне́ньне.
**Осаживать, осадить**—аса́джваць, асадзі́ць; спыня́ть, спыні́ць (каня́); *в непер. зн.*—адступа́ць, адступі́ць; падава́цца, пада́цца наза́д.
**Осанисто**—самаві́та, пава́жна.
**Осанистость**—самаві́тасьць, пава́жнасьць.
**Осанистый**—самаві́ты, пава́жны.
**Осанка**—постаць, пастáва, фігу́ра.
**Осатанеть**—ас(ш)атане́ць.
**Осваиваться, освоицься**—асвойвацца, асвоіцца; асвойтвацца, асвойтацца; прызвыча́йвацца, прызвыча́іцца (да чаго).
**Осведомление**—даве́дваньне, дапэўне́ньне.
**Осведомленность**—ве́даньне, дасьве́дчанасьць.
**Осведомленный**—зна́ўца, дасьве́дчаны.
**Осведомляться,-миться**—даве́двацца, даве́дацца (аб чым); дазнава́цца, дазна́цца (аб кім); дапэўніваці́ца, дапэўніцца.
**Освежать,-жить**—асьвяжа́ць, асьвяжы́ць; ахаладжа́ць, ахаладзі́ць; праве́трываць, праве́трыць (пакой).
**Освежающий**—ахаладжа́льны.
**Осветительный**—нале́жачы да асьвятле́ньня.
**Осветить**—*см.* **Освещать.**
**Осветление**—асьвятле́ньне.
**Осветлить**—асьвятлі́ць.
**Освещать, осветить**— асьвятля́ць, асьвятлі́ць.
**Освещение**—асьвятле́ньне.
**Освидетельствование**—агля́д, асьвядчэньне.
**Освидетельствованный**—агле́джаны; асьве́дчаны, *несколько раз* —агляда́ны.
**Освидетельствовать**—аглядзе́ць. асьве́дчыць.
**Освирепеть**—разьлютава́цца, разьюшыцца.
**Освистывать,-стать**—абсьві́ствавць, абсьвіста́ць.
**Освободитель**—вызвалі́цель
**Освободительница**—вызвалі́целька.
**Освободительный**—вызвале́нчы, вызвольны.
**Освобождать,-бодить** *из неволи*—вызваля́ць, вы́зваліць; выбаўля́ць, вы́бавіць; *от должности* —аслабаня́ць, аслабані́ць;**-дить** *из опасности*—вы́ратаваць.
**Освобождаться,-бодиться** *из неволи*—вызваля́цца, вы́звалiцца; выбаўля́цца, вы́бавіцца; *от должности*—аслабаня́цца, аслабані́цца;**-диться** *из опасности*—вы́ратавацца; *от пут* —апраста́цца, вы́прастацца.
**Освобожденный**—вы́звалены, вы́баўлены.
**Освящать, освятить**—сьвяці́ць, асьвяча́ць, асьвяці́ць.
**Освящение**—асьвячэньне;**-ние** *воды* —вадохрышча.
**Освященный**—асьве́чаны;**-ная** *вода* —сьвята́я вада́.
**Осевой**—восевы, асявы́.
**Оседание**—асяда́ньне.
**Оседать, осесть**—асяда́ць, асе́сьці.
**Оседлать**—асадла́ць, акульба́чыць; **-ланный**—асе́дланы, акульба́чаны.
**Оседлость**—асе́ласьць.
**Оседлый**—асе́лы.
**Осекаться, осечься**—асяка́цца, асе́кчыся.
**Осел**—асёл.
**Оселок**—брусок, брус, тачы́ла.
**Осеменение**—абсява́ньне.
**Осеменять,-нить**—абсява́ць, абсе́яць.
**Осенение**—ахіна́ньне, абцяне́ньне; *крестом*—хрышчэньне, жагна̀ньне.
**Осенять,-нить**—ахіна́ць, ахіну́ць; *крестом*—хрысьці́ць, перахрысьці́ць; жагна́ць, пажагна̀ць.
**Осенний**—асе́ньні, восенскі;**-няя** *плата*—асяні́на.
**Осень**—восень;**-нью—у восень;-нью** *родившийся*—асяньчу́к.
**Осеребрить**—пасерабры́ць.

**Осерчать**—*см.* **Рассердиться.**
**Осесть**—*см.* **Оседать.**
**Осетр** (*зоол.* Accipenser sturio) — асяцёр.
**Осетрина**—асятрына.
**Осетровый**—асятровы.
**Осечка**—асечка.
**Осечься**—*см.* **Осекаться.**
**Осиленный**—асілены, пераможаны, здўжаны.
**Осиливать,-лить**—асільваць, асіліць; перамагаць, перамагчы, здўжаць.
**Осина** (*бот.* Populus tremula L.)—асіна.
**Осинник**—асіньнік.
**Осиновик** (*бот.* Boletus luteus)—падасінавік, асавяк.
**Осиновый**—асінавы, асовы.
**Осиный**—асіны.
**Осип**—*см.* **Иосиф.**
**Осипать, осипнуть**—асіпаць, асіпнуць, асіпці.
**Осиплость**—асіпка.
**Осиплый,-пший**—асіплы.
**Осиротелый,-тевший**—асірацелы, асірочаны.
**Осиротеть**—асірацець, асірацііцца.
**Осиротить**—асіраціць.
**Оскабливание**—аскробваньне, аскобліваньне.
**Оскабливать, оскоблить**—аскробваць, аскрабаць; аскобліваць, аскабліць.
**Оскаливать,-лить** (*зубы*)—шчэрыць, вышчараць, вышчарыць; выскаляць, выскаліць.
**Оскандалить,-ться**—асароміць, асароміцца скандальна.
**Оскверненный**—апаганены, спаганены, апаскуджаны, спаскуджаны.
**Осквернитель**—паганін.
**Осквернять,-нить**—паганіць, апаганьваць, апаганіць, спаганіць; паскудзіць, апаскуджваць, апаскудзіць, спаскудзіць; гнюсіць, абгнюсіць; ганіць, зганіць; зьняважыць.
**Осклабляться,-биться**—ухмыляцца, ухмыльнуцца, ашчэрыцца.
**Осколок**—аскепак, трэска, адломак; *от камня*—скалка.
**Осколочный**—аскепкавы, скалкавы.
**Оскользать,-знуть**—выкоўзвацца, выкаўзнуцца.
**Оскомина**—аскома; *набить* **о.**—нааскоміць.
**Оскопитель**—лягчай, канавал.
**Оскопление**—лягчаньне, спакладаньне.
**Оскопленный**—вылегчаны, спакладаны.
**Оскоплять,-пить**—лягчаць, вылегчаць; спакладаць, спакласьці; вывалашыць.
**Оскорбитель**—абразьнік, уразьнік, зьняважальнік.
**Оскорбительно**—абразьліва, уразьліва, зьняважальна.
**Оскорбительность**—абразьлівасьць, уразьлівасьць, зьняважальнасьць.
**Оскорбительный**—абразьлівы, уразьлівы, зьняважальны, тклівы.
**Оскорбление**—абраза, ураза, зьнявага, зьняважэньне.
**Оскорбленный**—уражаны, абражаны, зьняважаны.
**Оскорблять,-бить**—абражаць, абразіць; уражаць, уразіць; зьняважаць, зьняважыць.
**Оскорняжить**—абкушнерыць.
**Оскоромить,-ться**—аскароміць, аскароміцца, паскароміцца.
**Оскорузлеть**—закаравець.
**Оскотинеть,-ниться**—збыдлець.
**Оскребки**—паскробкі, выскрабкі.
**Оскрёбок**—аскробак, паскробак, выскрабак.
**Оскрёбывать, оскребать, оскресть**—аскробваць, аскрабаць, аскрэбці; падскробваць, падскрэбці.
**Оскудевать,-деть**—убожаць, зубожаць; галець, зганець; зьмяншацца, зьменшыцца.
**Оскуделый,-девший**—зубожалы, зганелы, зьменшаны.
**Оскудение**—зубожаньне, зганеньне, заняпад, зьмяншэньне.
**Ослабление**—аслаба, паслабленьне, занядужаньне, попуск.
**Ослабевать, ослабеть, ослабнуть**—слабець, слабнуць, аслабнуць; занепадаць, заняпасьці; трацііць, страціць сілы; занядужаць.
**Ослабевший,-белый**—аслаблы.

Ослабленный асла́блены; сла́бкі.
Ослаблять, ослабить—асла́бляць, асла́біць; насла́бляць, насла́біць; папушча́ць, папусьці́ць; зьнясі́льваць, зьнясі́ліць.
Ослава—абнясла́ва, блага́я сла́ва асла́ва.
Ославлять, ославить—абнеслаўля́ць, абнясла́віць; аслаўля́ць, асла́віць.
Ослащать, осластить—асалоджваць, асаладзі́ць.
Ослёнок—асьляня́.
Ослепительно—асьляпля́юча, сьляпу́ча.
Ослепительность—асьляпля́ючасьць, сьляпу́часьць.
Ослепительный—асьляпля́ючы, сьляпу́чы.
Ослепление—асьляпле́ньне, засьляпле́ньне.
Ослепленный—асьле́плены, абязвочаны.
Ослеплять,-нить—асьляпля́ць, асьляпі́ць; засьляпля́ць, засьляпі́ць; абязвочваць, атума́ніць.
Ослепнуть—асьле́пнуць, асьле́пці.
Ослепший—асьле́плы.
Ослепью—наво́сьлеп.
Осклизлость—абсьлі́зласьць.
Осклизлый—абсьлі́злы, сьлі́зкі.
Осклизнение (*оболочки*)—абсьлізьне́ньне (б. т.).
Осклизнуть—асьлі́знуць.
Ослинник (*бот.* Oenothera biennis L.)—каўтуні́шнік (б. т.).
Ослиный—асьлі́ны, асьля́чы.
Ослица—асьлі́ца.
Осложнение—ускладне́ньне.
Осложненный—ускладнёны, заві́лы.
Осложнять,-нить—ускладня́ць, ускладні́ць; блы́таць, заблы́таць.
Ослушание—няпослух, непаслушэнства, непаслухмя́насьць.
Ослушиваться,-шаться—недачува́ць, недачу́ць; ня слу́хацца, не паслу́хаць, ня вы́канаць; пярэчыць, супярэчыць.
Ослушливый,-шный—непаслухмя́ны
Ослушник—не́слух, непаслу́шнік.
Ослышаться—недачу́ць, недаслу́хаць.
Ослышка—недачу́тка.
Ослюнивать—*см.* Обслюнивать.

Осляк (*зоол.*)—асьлю́к.
Осмаливать, осмолить—абсмольваць, абсмалі́ць.
Осматривание—агляда́ньне, агля́д.
Осматривать, осмотреть—агляда́ць, агле́дзець; азіра́ць, азірну́ць.
Осматриваться, осмотреться—агляда́цца, агле́дзецца; азіра́цца, азірну́цца.
Осмеивание—высьме́йваньне.
Осмеивать, осмеять—высьме́йваць, вы́сьмеяць; засьме́йваць, засьмяя́ць; сакпі́ць;-янный—вы́сьмееafны, засьме́ены.
Осмеливаться,-литься—асьме́львацца, асьме́ліцца; адва́жвацца, адва́жыцца;-лившийся—асьме́лены.



Осмельчать—асьмяле́ць, пасьмяле́ць, набра́цца адва́гі.
Осмерня—васьмёрка.
Осмий (*хим.*)—осьмі.
Осмол—смаля́к.
Осмолить—*см.* Осмаливать.
Осмотр—агля́д, агле́дзіны.
Осмотреть—*см.* Осматривать.
Осмотрительно—агля́дчыва, аба́чліва, асьцярожна.
Осмотрительность—агля́дчывасьць, аба́члівасьць, асьцярожнасьць.
Осмотрительный—агля́дчывы, аба́члівы, асьцярожны.
Осмысленно—азмы́сьлена, з сэнсам, разва́жна.
Осмысленность—азмы́сьленасьць, сэнсоўнасьць, разва́жнасьць, цямкасьць.
Осмысленный—азмы́сьлены, сэнсоўны, разва́жны.
Осмысливать,-лить—азмышля́ць, азмы́сьліць; разуме́ць, зразуме́ць; раскуме́каць, уця́міць.
Оснастить—аснасьці́ць.
Оснастчик аснач.
Основа—аснова, падста́ва, падва́ліна, грунт.
Основание 1) *см.*—Основа; 2) заснава́ньне, закла́дзіны; 3) фунда́мант, падму́рак, падру́ба; *до* -ния—дашчэнту, ушчэнт, дапня; *на каком* -нии—на якой падста́ве; *он имеет* -ние—ён мае ра́цыю.
Основатель—аснава́льнік, заснава́льнік, заклада́льнік,фунда́тар.

**Основательница**—аснавáльніца, заснавáльніца, закладáльніца, фундáтарка.
**Основательно**—грунтоўна, станоўча, трывáла, цьвёрда.
**Основательность**—грунтоўнасьць, трывáласьць, станоўчасьць.
**Основательный**—грунтоўны, які мáе падстáву, трывáлы, моцны, станоўчы.
**Основной**—асноўны, аснаўны; **-ной** *капитал*—*і*ста.
**Основоположение**—асноўнае палажэньне.
**Основоположник**—*см.* **Основатель.**
**Основывать, основать**—закладáць, заклáсьці; засноўваць, заснавáць; будавáць, пабудавáць.
**Особа**—асоба, пэрсона.
**Особачиться**—асабáчыцца, сапсóць; збэсьціцца.
**Особенно**—асабл*і*ва; адмéнна, *і*накш, найбольш, а злáшча.
**Особенность**—асабл*і*васьць, адмéннасьць.
**Особенный**—асабл*і*вы; выдáтлівы, адмéнны, нязвычáйны; адмéтны.
**Особняк**—асабняк (будынак).
**Особняком**—паасобку, з'асобку, самотна.
**Особый**—асобны; **-бое** *мнение*—асобны погляд.
**Особеть**—асавéць, асалавéць.
**Особываться, осунуться**—асоўвацца, асýнуцца; марнéць, змарнéць.
**Осока** (*бот.* Carex L)—асакá; **о.** *мохнатая* (C. hirta L.)—асакá калмáтая; **о.** *повислая* (C. limosa L,)—асакá бáгнавая (б.т.).
**Осокорина**—ясакарына.
**Осокорь** (*бот.* Populus nigra L.)—ясакар.
**Осолаживать, осолодить**—пасалоджваць, пасаладз*і*ць.
**Осоловелый**—асалавéлы.
**Осоловеть**—асалавéць.
**Осолоделый,-девший**—пасаладзéлы.
**Осолодеть**—пасаладзéць.
**Осот** (*бот.* Cirsium Scop.)—асот.
**Осотный**—асотавы.
**Оспа**—воспа; **о.** *ветренная*—вéтраная воспа; *прививать* **о.**—прышчапляць воспу.
**Оспаривать, оспорить** *что*—пярэчыць, супярэчыць камý ў чым; спрачáцца сýпраць чаго; сьпірáцца за што.
**Оспенный**—восьпены, асьпяны.
**Оспина,-ка**—восьпіна, восьпінка.
**Оспопрививание**—прышчаплéньне воспы.
**Оспоприviватель**—асьпянік.
**Осрамить**—асароміць.
**Осрамиться**—асароміцца, набрáцца сораму, насьвяц*і*цца пачым.
**Осрамление**—сорам, сарамлéньне.
**Ост**—*см.* **Восток.**
**Оставаться, остаться**—заставáцца, застáцца, пазаставáцца;**-ваться** *в живых*—выжывáць; **-таться** *в дураках*—застáцца дýрнем; **-таться** *должным*—завін*і*цца; *счастливо* **оставаться**—бывáйце здаровы; *в накладе не* **-тесь**—страт мець ня бýдзеце; *что мне* **-тся** *в подобном случае*—што я мáю раб*і*ць у гэтым выпáдку; **оставаться** *в девицах*—векавáць дзéўкаю.
**Оставлять, оставить**—пакідáць, пак*і*нуць; застаўляць, застáвіць, пазастаўляць; адкладáць, адклáсьці;**-лять** *без внимания*—не шманáць, не заўважáць, занядбáць;**-вить** *в дураках*—перакп*і*ць;**-лять** *без последствий*—пакідáць бяз вынікаў; **оставь** *это*—ня руш гэтага; **оставьте** *меня в покое*—дáйце мне спакой; *не на кого* **оставить** *дом*—нямá на каго пак*і*нуць хáту; **оставлять** *службу*—пакідáць слýжбу.
**Остальной**—астáтні, пазастáлы; *это возьми, а* **-ное** *брось*—гэта вазьм*і*, а рэштку кінь.
**Останавливать,-остановить**—сьпыняць, сьпын*і*ць; затрымліваць, затрымáць; пераймáць, перанять (на шляхý); перашкаджáць, перашкодзіць; **-новиться**—спын*і*цца, стаць, затрымáцца; *часы* **-новились**—гадз*і*ньнік стаў; *он работает не* **останавливаючись**—ён працýе бязупынку, без адпачынку.
**Остановка**—прыпынак, упын, спынéньне, супынка; пачакáнка.

**Останки** (*святых*)—астáнкі, рэшткі.
**Остаток**—рэшта, астáча; **-ткі**—астáткі, астáнкі, недабíркі, паскробкі, абíркі; *без* **-тка**—цалком, усё чыста, да астáтняга, дарэшты, дашчэнту.
**Остеклять,-лить**—шкліць, ашклíць.
**Остеология**—астэалёгія, косткaзнáўства, навýка аб касьцях.
**Остепеняться,-ниться**—сунімáцца, суняцца; сталéць, пасталéць.
**Остервенение**—азьвярэньне.
**Остервенеть**—азьвярэць, разьлютавáцца; **-невший**—азьвярэлы.
**Остерегать**—сьцерагчы, пільнавáць.
**Остерегаться**—сьцерагчыся, пільнавáцца, перасьцерагáцца.
**Остережение**—перасьцярога.
**Остие**—асьцюк.
**Остов**—касьцюк.
**Остолбеневший,-нелый**—аслупéлы, аслупянéлы, скамянéлы.
**Остолбенеть**—аслупéць, аслупянéць, скамянéць.
**Остолоп**—боўдзіла, ёлуп.
**Осторожно**—асьцярожна, паволі, пацíху, памáлу.
**Осторожность**—асьцярожнасьць, асьцярога, высьцерагáньне.
**Осторожный**—асьцярожны, чýйны.
**Остракизм** (*ист.*)—астракíзм.
**Острастка**—пагроза, грозьба.
**Острение**—вастрэньне.
**Остренький**—востранькі.
**Остригать, остричь**—астрыгáць, астрыгчы; **-женный**—астрыжаны.
**Острие**—(д)жáла, лязо, сьпічáк.
**Острить**—вастрыць, мянтáшыць (касý); жартавáць, кпіць.
**Остро**—востра; *держать ухо* **-ро**—пільнавáцца.
**Остробокий**—вострабокі.
**Остров**—востраў, выспа.
**Островатость,-тый**—вастравáтасьць, вастравáты.
**Островерхий**—вострaвéрхі, сьпічáсты.
**Островитянин**—астравянін.
**Островитянка**—астравянка.
**Островной**—астраўны, выспавы.
**Острог**—астрог, турмá.
**Острога**—восьці.
**Острогание**—абстругáньне.
**Оструганный**—абстрýгáны.
**Острогать**—абстругáць.
**Остроглазый**—вострaвокі.
**Острожник**—астрожнік, вязень, арыштáнт.
**Острожный**—астрожны; арыштáнскі.
**Острозубый**—вострaзýбы.
**Остроконечность**—сьпічáстасьць, шпілястасьць, дзюбчáстасьць.
**Остроконечный**—сьпічáсты, шпілясты, дзюбчáсты.
**Остролиций**—вострaтвáры.
**Остроногий**—востраногі;борзды.
**Остроносик** (*зоол.* Chelmo)—востраносік.
**Остропиливать,-лить**—стáвіць, пастáвіць кроквы.
**Острость**—вострасьць; досьціп; тклíвасьць.
**Острота**—астрынá; жарт, кпíны, досьціп.
**Остроугольник**—востракýтнік.
**Остроумие**—дасьцíпнасьць.
**Остроумно**—дасьцíпна.
**Остроумный**—дасьцíпны, востры на розум.
**Остроухий**—вострaвýхі.
**Остроязычный**—востры на язык, языкáты.
**Острупеть**—заструпéць.
**Острый**—1) востры, канчáты, калючы; 2) *человек*—дасьцíпны, тклíвы.
**Остряк**—дасьцíпнік, празýх.
**Остуда**—прастýда; астуджэньне.
**Остужать, остудить**—астýджваць, астудзíць; охалоджваць, ахаладзíць.
**Оступаться,-питься**—спатыкáцца, спаткнýцца; *о лошади*—капыціцца.
**Остывание**—астывáньне.
**Остывать, остыть**—астывáць, астыць; вычахнуць.
**Ость**—восьць (б. т.), асьцюк, асьцéнь.
**Осуд,-да**—агýда, абмова.
**Осуждать, осудить**—асуждáць, асудзíць, засудзíць; гáніць, згáніць; гýдзіць, агýдзіць; абмаўляць, абмовіць.
**Осуждение**—асуджэньне; абмаўлéньне.
**Осужденный**—асýджаны, засýджаны.
**Осунуться**—*см.* **Осовываться.**
**Осушение,-шка**—асýшка, абсýшка.

**Осушивание**—асушваньне, абсушваньне.
**Осушивать,-шить**—асушваць, асушыць; абсушваць, абсушыць; **-шить** *стакан*—выпіць да дна.
**Осушитель**—асушальнік.
**Осушительный**—асушальны.
**Осуществимость**—выпаўняльнасьць
**Осуществимый**—выпаўняльны, выканальны, магчымы.
**Осуществление**—ажыцьцяўленьне, выкананьне, зьдзяйсьненьне.
**Осуществленный**—ажыцьцёулены, зьдзейсьнены, выпаўнены, спраўджаны, выкананы.
**Осуществлять,-вить**—ажыцьцяўляць, ажыцьцёвіць; зьдзяйсьняць, зьдзейсьніць; выпаўняць, выпаўніць; спраўджваць, спраўдзіць; выконваць, выканаць; зышчаць, зйсьціць (Ласт.).
**Осчастливить**—ашчасьлівіць.
**Осыпание**—абсыпаньне.
**Осыпать, осыпать**—абсыпаць, абсыпаць, паабсыпаць.
**Осыпаться, осыпаться**—асыпацца, асыпацца; абвальвацца, абваліцца; завальвацца, заваліцца.
**Осыпка**—высыпка, асыпка.
**Осыпь**—асыпка (г.-к. т.), крушня, завальле (г.-м. т.).
**Осыреть**—адсырэць, адлегчы.
**Ось**—вось; **о.** *вращения*—вось вярчэньня або абаротавая (м. т.).
**Осмерик**—васьмярык, васьмёрка.
**Осмерицею**—у восем столак, у восем рэдзей.
**Осьмина**—асьміна, пура.
**Осязание**—датыканьне, дотык.
**Осязательный**—1) датыкальны; 2) адчувальны.
**Осязать**—датыкацца, датыркацца, адчуваць на дотык.
**От** (*чего*)—ад, з (чаго); **от** *роду*—зроду; *плакать* **от** *досады*—плакаць са злосьці; *время* **от** *времени*—калі-ні-калі.
**Отава**—атава.
**Отапливание**—апальваньне, ацепліваньне.
**Отапливать, отопить**—апальваць, апаліць; ацеплівaць, ацепліць.
**Отаптывать, отоптать**—абтоптваць, абтаптаць.
**Отара**—стада (ж. р.).
**Отбавка,-вление**—зьмяншэньне, адбаўленьне.
**Отбавлять, отбавить**—зьмяншаць, зьменшыць; адбаўляць, адбавіць; надбіраць, падабраць.
**Отбарабанить**—адбубніць, адбарабаніць, аддарабаніць.
**Отбегать, отбежать**—адбягаць, адбегчы.
**Отбеливать, отбелить**—адбельваць, адбяліць; пабяляць, пабяліць, выбеліць.
**Отбеседовать**—скончыць гутарку, перагаманіць.
**Отбивание**—адбіваньне, адбіцьцё.
**Отбивать, отбить**—адбіваць, адбіць; адсаджваць, адсадзіць; адкідваць, адкінуць (ворага); таўчы, патаўчы; здабыць; адбараніць; адарваць, адгокаць (пячонкі); адкалупіць;**-бить** *охоту*—адахвоціць, аднадзіць; *отбивать дурной* **вкус**—перабіваць дрэнны смак; *ружье* **отбивает**—стрэльба аддае.
**Отбиваться, отбиться**—адбівацца, адбіцца; абараняцца, абараніцца (ад ворага);**-биться** *от рук*—засваволіць, распусьціцца; *он совсем* **отбился** *от работы*—ён палец аб палец ня вытне.
**Отбивка**—адбіваньне.
**Отбивной** (*о котлетах*)—адбіўны; **-ной** *ветер*—супраціўны вецер.
**Отбирание**—адбіраньне;**-ние** *свидетельских показаний*—выслуханьне сьведак.
**Отбирать, отобрать**—адбіраць, адабраць; перабіраць, перабраць;**-рать** *свидетельские показания*—выслухоўваць сьведак.
**Отблаговестить**—адзваніць.
**Отблагодарить**—аддзякаваць, аддзячыць.
**Отблаженствовать**—папараяваць, папанаваць.
**Отблажить**—адблазнаваць, скончыць блазнаваць.
**Отблеск**—водбліск, адсьвет, адбітак (сьвятла).
**Отбой**—адбой, адбіцьцё, водступ; *мне нет от него* **отбою**—я

не магу ад яго адчапіцца, адкасацца.
**Отбойный**—адбойны.
**Отболеть**—адхварэць, перахварэць, перабалець.
**Отбор**—адбор, падбор; *половой* **о.**—родавы адбор.
**Отборка**—адбіраньне, перабіраньне.
**Отборный**—адборны, выборны, перабраны; *о семенах*—якарны (Нс.).
**Отборонить**—адбаранаваць, адскародзіць.
**Отбражничать**—адгуляць, адп'янстваваць.
**Отбраниваться**—адбрэхвацца, адгрызацца.
**Отбранить**—выпаяць, зляяць.
**Отбрасывание**—адкідваньне, адкіданьне.
**Отбрасывать, отбросить**—адкідваць, адкідаць, адкінуць; **-сить** *с силою*—адштурхнуць; **-сывать** *лучи света*—адбіваць, адсьвечваць.
**Отбривать, отбрить**—канчаць, скончыць галеньне; адбрываць, адбрыць; адсячы, адлупцаваць; **-риться**—пагаліцца.
**Отбродить**—1) адбадзяцца, папавалачыцца; 2) *о жидкости*, адшумаваць, адбушаваць, перабушаваць, адбрузаваць.
**Отброс**—водкід, брак.
**Отбросить**—*см.* **Отбрасывать.**
**Отбухать**—адбахаць; адлупіць (набіць).
**Отбучить** (*бельё*)—адзаліць.
**Отбушевать**—набуяніць, набушаваць.
**Отбывание**—адбываньне; *службы, повинности*—выконваньне, спаўненьне.
**Отбывать, отбыть** 1) *куда*—адбываць, адбыць; ад'яжджаць, ад'ехаць; выяжджаць, выехаць; 2) *службу, повинность*—выконваць, выканаць; спаўняць, споўніць.
**Отбытие**—адбыцьцё, ад'езд, выезд.
**Отвага**—адвага.
**Отвадка**—аднада, адпаджваньне.
**Отваживать, отвадить**—аднаджваць, аднадзіць; адахвочваць, адахвоціць.
**Отваживаться, отважиться**—адважвацца, адважыцца; асьмельвацца, асьмеліцца.
**Отважно**—адважна, сьмела.
**Отважность**—адважнасьць.
**Отважный**—адважны, сьмелы, рызыкоўны, саманадзейлівы
**Отвал**—адвал; завала; паліца (у сахі); *наесться до*-**лу**—наесьціся па горла.
**Отваливать,-лить**—адвальваць, адваліць; адкочваць, адкачаць; адплываць, адплысьці, адплыць;**-лить** *камень*—адкаціць камень;**-литься**—адваліцца.
**Отвалять** *сукно*—выкаляць; *тесто*—выкачаць.
**Отвар**—адвар, юшка, цэд.
**Отваривать,-рить**—вываpваць, вырыць; адварваць, адварыць.
**Отварной**—вывараны, адварны.
**Отвевать, отвеять**—адвяваць, адвеяць.
**Отведение**—адвядзеньне, адвод.
**Отведывание**; 1) *пищи*—каштаваньне, смакаваньне, паспытваньне; 2) *кого*—адведваньне.
**Отведывать,-дать** 1)*пищу*—каштаваць, пакаштаваць, закаштаваць; смакаваць, пасмакаваць; паспытваць, паспытаць; прабаваць, паспрабаваць (што); дасьвядчацца, дасьведчыцца (у чым); 2) *кого*—адведваць, адведаць.
**Отвезение**—адвязеньне.
**Отвезти**—*см.* **Отвозить**.
**Отвенчать**—адвянчаць, пашлюбаваць.
**Отвергать, отвергнуть**—адкідаць, адкінуць; бракаваць, забракаваць; адхіляць, адхіліць; адрынаць, адрынуць;**-гаться** (*от кого*)—зракацца, адкідацца, адцурацца.
**Отвердевать,-деть**—цьвярдзець, ацьвярдзець зацьвярдзець; дубець, адубець, закасьцянець, зьдзервянець.
**Отвердевший,-делый**—ацьвярдзелы, зацьвярдзелы; скарэлы.
**Отвердение**—ацьвярдзеньне, зацьвярдзеньне; калянасьць, карэласьць.
**Отверженец**—адшчапенец.

**Отверженный**—адкінуты, пяпрыняты, якога зракліся.
**Отверзать**—*см.* **Открывать.**
**Отвернуться**—*см.* **Отвёртывать.**
**Отверстие**—дзірá, адтýліна (б. т.), жарало;**-тие** *у мешка*—ворат; *в музык. инструменте*—галасьнік; *заднепроходное* **о.** —кýтнічнае вы́йсьце (ан. т.).
**Отверстый**—*см.* **Открытый.**
**Отвёртка**—адмы́чка, адкрýтка, шрýбнік.
**Отвёртывать, отвертеть, отвернуть**—адкрýчваць, адкруціць; *винт*—адшрубоўваць, адшрубавáць;**-теться**—адкруціцца, вы́круціцца;**-нуться** *в сторону* —адвярнýцца, завярнýцца.
**Отверху**—зьвéрху.
**Отвес**—проставéс (ф. т.), простапáд, строма.
**Отвеселиться**—адвесяліцца, папавесяліцца.
**Отвесно**—проставéсна, простапáдна, стромка, старчаком, старчмà, сторч.
**Отвесный**—проставéсны, простапáдны; *в см. крутой*—стромкі, старчовы, высокі, круты́.
**Отвести**—*см.* **Отводить.**
**Ответ**—адкáз, адповедзь, адпавядáньне.
**Ответный**,**-ное** *письмо*—ліст з адкáзам;**-ное** *движение*—зваротны рух.
**Ответственность**—адкáзнасьць, адпавядáльнасьць.
**Ответственный**—адкáзны, адпавядáльны.
**Ответствовать**—*см.* **Отвечать.**
**Ответчик,-ца**—адкáзчык,-чыца.
**Отвечать, ответить**—адкáзваць, адказáць (што і за што); адракáць, адрачы́;**-чать** *чему*—адпавядáць; *письменно*—адпісваць, адпісáць.
**Отвешивание**—адвáжваньне.
**Отвешивать, отвесить**—адвáжваць, адвáжыць;**-сить** *поклон*—нахіліцца (нізка).
**Отвивать, отвить**—разьвівáць, разьвіць, адвіць.
**Отвиливание**—выкрýчваньне.
**Отвиливать,-лять,-льнуть**—выкрýчвацца, вы́круціцца.
**Отвинченный**—адшрубованы, адшрубавáны.
**Отвинчивание**—адшрубоўваньне.
**Отвинчивать,-тить**—адшрубоўваць, адшрубавáць; адкрýчваць, адкруціць.
**Отвисать, отвиснуть**—адвісáць, адвіснуць; абвісáць, абвіснуць.
**Отвислый,-сший**—адвіслы, абвіслы.
**Отвлекание**—адцягваньне, адрывáньне.
**Отвлекать, отвлечь**—адцягваць, адцягнýць; адрывáць, адарвáць; адводзіць, адвéсьці.
**Отвлекаться, отвлечься**—адцягвацца, адцягнýцца; адрывáцца, адарвáцца; адварочвацца, адвярнýцца.
**Отвлечение**—адцяг, адцягнéньне, адарвáньне.
**Отвлеченно**—адцягнена, адарвáна, адлýчана.
**Отвлеченность**—адцягненасьць, адарвàнасьць.
**Отвлеченный**—адцягнены, адарвáны, адлýчаны;**-ное** *число* (*мат.*)—бязы́мéнны лік (м. т.).
**Отвне**—звонку, знадворку, звакола.
**Отвод**—адвод; **о.** *лесосек*—адбіўка дзялянак (лс. т.).
**Отводить, отвести**—адвадзіць, адводзіць, адвéсьці; адварочваць, адвярнýць;**-сти** *душу*—супачы́ць душою;**-дить** *землю*—вызначáць зямлю́;**-дить** *удар*—ухіляцца ýдáру;**-сти** *что-нибудь в сторону*—адвярнýць у бок; *отведи* **лошадь** *в конюшню*—завядзі каня на стáйню.
**Отводный**—адводны;**-ная** *канава*—сток.
**Отводок**—адводак (б. т.), атожылак, пáрастак, пáсынак; прышчэпа.
**Отвоёвывать,-евать**—адваёўваць, адваявàць.
**Отвоз**—адвоз.
**Отвозить, отвезти**—адвазіць, адвозіць, адвéзьці, пaнеравожваць.
**Отволакивать, отволочь**—адвалáк(о)ваць, адвалачы́.
**Отвопить**—адгаласіць, адраўці.
**Отворaживать,-рожить**—адварожваць, адваражы́ць.

**Отворачивание**—адварочваньне; *полы, рукавов*—адкасваньне.

**Отворачивать,-ротить**—адварочваць, адвярнуць; адхіляць, адхіліць; *полы, рукава*—адкасваць, адкасаць, паадкасваць.

**Отворот**—адварот, манкета.

**Отворотный**—адваротны, адхільны.

**Отворять,-рить**—адчыняць, адчыніць;-**рять** *кровь*—пускаць кроў.

**Отвратимый**—адхільны, якога можна адхіліць.

**Отвратительно**—брыдка, гідка, агідна, пагана, плюгава, гнюсна.

**Отвратительность**—брыдкасьць, гідкасьць, агіднасьць, агідлівасьць, плюгавасьць.

**Отвратительный**—брыдкі, гідкі, агідны, пагáны, агідлівы, плюгавы, гнюсны.

**Отвращать, отвратить**—адварочваць, адвярнуць; адхіляць, адхіліць;—**щать** *несчастие*—ухіляцца ліха;-**шать** *слух*—ня слухаць, не шманаць;-**щаться** адварочвацца, адхіляцца, ухіляцца.

**Отвращение**—агіда, агіднасьць, гідкасьць, брыдá; *чувствовать* о.—гідзіцца (чым).

**Отвыкать, отвыкнуть**—адвыкаць, адвыкнуць.

**Отвыкший**—адвыклы.

**Отвычка**—адвычка.

**Отвязка**—адвязка.

**Отвязывание**—адвязваньне, адчэпліваньне.

**Отвязывать,-зать**—адвязваць, адвязаць; адчэпліваць, адчапіць.

**Отвязываться,-заться**—адвязвацца, адвязацца; адчэплівацца, адчапіцца; адкасвацца, адкасацца; адкараскввацца, адкараскацца; **отвяжись**!—адкасьніся!

**Отгадка**—адгадка.

**Отгадчик,-ца**—адгадчык,-ца.

**Отгадывание**—адгадваньне, угадваньне.

**Отгадывать,-дать**—адгадваць, адгадаць; угадваць, угадаць.

**Отгащивать, отгостить**—гасьціць, адгасьціць, адгасьцяваць.

**Отгиб**—адхіл (б. т.), адгін, адгінаньне.

**Отгибать, отогнуть**—адгінаць, адагнуць.

**Отглагольный** (*грам.*)—дзеяслоўны;-**ное** *прилагательное*—дзеяпрыметнік;-**ное** *причастие*-дзеяпрыслоўе.

**Отглаживать, отгладить**—адгладжваць, адгладзіць; адпрасоўваць, адпрасаваць.

**Отгнивание**—адгніваньне, згніваньне.

**Отгнивать, отгнить**—адгніваць, адгніць; згніваць, згніць; **-нивший**—адгнілы.

**Отговаривание**—адмаўляньне, адгаворваньне.

**Отговаривать, отговорить**—1) адмаўляць, адмовіць; адгаворваць, адгаварыць; адрадзіць, адраіць; 2) спыняць, спыніць гутарку.

**Отговариваться, отговориться**—адмаўляцца, адмовіцца; адпінацца, адапнуцца.

**Отговеть**—адгавець, напасьцціцца.

**Отговор,-рка**—адмова, адмоўка.

**Отговорщик**—адмоўнік.

**Отголос**—водгалас, водгульле, пошчак, рэха.

**Отгон**—адгон.

**Отгонять, отогнать**—адганяць, адагнаць; жануць, аджануць.

**Отгораживание**—адгароджваньне.

**Отгораживать,-родить**—адгароджваць, адгарадзіць, перагарадзіць;-**роженный**—адгароджаны.

**Отгорание**—адгараньне, згасаньне.

**Отгорать,-реть**—адгараць, адгарэць; згасаць, згаснуць.

**Отгоревать**—адгараваць, адбедаваць, адпакутаваць.

**Отгородка**—перагародка, закута, закутка.

**Отграфить**—адлінаваць.

**Отгребание**—адграбаньне, адгортваньне.

**Отгребать, отгрести**—адграбаць, адгрэбці; адгортваць, адгарнуць.

**Отгреметь**—адгрымець, перагрымець.

**Отгружать, отгрузить**—выкладаць, выкласьці; вымаць, выняць, павымаць; выладаваць (трохі).

**Отгрузка**—вымáньне, выкладáньне.
**Отгрызать, отгрызть**—адгрызáць, адгрызьці;**-заться**—агрызáцца, аскірзáцца.
**Отгрызной**—адгрызаны.
**Отгрызок**—агрызак.
**Отгуливать,-лять**—адгýльваць, адгуляць.
**Отдавание**—аддавáньне.
**Отдавать, отдать**—аддавáць, аддáць; *в залог*—застаўляць, застáвіць; *приказание*—загáдваць, загадáць; *обратно*—зварочваць, зьвярнýць; *от него* **отдает** *водкой*—ад яго гоніць гарэлкай;**-даю** *на ваше усмотрение*—пакідáю на ваш погляд;**-дает** (*о запахе*)—тхне.
**Отдаваться, отдаться**—атдавáцца, аддáцца; спушчáцца, спусьціцца (на каго); разьлягáцца, адбівáцца; *эхо далеко* **отдается** *в лесу*—водгалас далёка разьлягáецца па лéсе.
**Отдавлять,-вить**—адціскáць, адціснуць; аддавіць.
**Отдаивать, отдоить**—аддойваць, аддаíць; адцыркваць, адцыркаць.
**Отдавна**—здáўна.
**Отдаление**—аддалéньне; адлéгласьць; *в*-**нии**—воддаль; адлéгла, далéка.
**Отдалённость**—аддáленасьць, далéкасьць, адлéгласьць.
**Отдаленный**—аддáлены, далéкі, адлéглы.
**Отдалять,-лить**—аддаляць, аддаліць; адсоўваць, адсýнуць; **-ляться**—аддáльвацца, адсоўвацца, адварочвацца, адступáць, зьнікáць, цурáцца.
**Отдание**—аддáньне.
**Отдаривание**—аддараваньне.
**Отдаривать,-рить**—аддáрваць, аддаравáць, аддарыць;**-ренный**—аддáраны, аддаравáны.
**Отдаток**—аддáньне.
**Отдать**—*см.* **Отдавать**.
**Отдача**—аддáча, аддáньне.
**Отдвигать**—*см.* **Отодвигать**.
**Отдвижной**—адсоўны, высувáны; **-ной** *ящик*—шуфляда.
**Отдежурить**—адбыць чаргý, аддзяжýрыць.
**Отдел**—аддзéл, разьдзéл.
**Отделение**—аддзéл; аддзялéньне, адлучэньне;**-ние** *наследства*—выдзялéньне пáйкі ад спáдчыны.
**Отделенный**—аддзéлены, адлýчаны.
**Отделимость**—адлучáльнасьць.
**Отделимый**—адлучáльны.
**Отделитель**—адлýчнік, адлучáльнік.
**Отделка**—абробка, абраблéньне, аздоба, апрáва.
**Отделывать,-лать**—абрабляць, абрабíць; аздабляць, аздобіць; **-ваться**—абрабляцца, аздабляцца; *я* **отделался** *тем, что меня побранили*—скончылася на тым, што на мянé насварыліся.
**Отдельно**—асобна, паасобку, у асобку, розна.
**Отдельность**—асобнасьць.
**Отдельный**—асобны, паасобны, розны.
**Отделять,-лить**—аддзяляць, аддзяліць; вылучáць, вылучыць; адрозьніваць, адрозьніць;**-отделять** *из семейства*—выдзяляць;**-ляться**—аддзяляцца, вылучáцца.
**Отдёргивать, отдернуть**—адсоўваць, адсýнуць, адхапíць.
**Отдирать, отодрать**—аддзірáць, ададрáць; адшáрпáць, адшáрпнуць.
**Отдневать**—перадняваць.
**Отдолу**—здолу, сыспаду.
**Отдохновение**—адпачынак, адпачын, спачываньне, аддыхáньне.
**Отдохнуть**—*см.* **Отдыхать**.
**Отдубасить**—аддубáсіць, адлупíць, адлупцавáць.
**Отдувание**—аддзьмухáньне, аддуваньне.
**Отдувать, отдуть**—аддзьмухáць, аддзьмýхнуць; аддувáць, аддýць; лупцавáць, адлупцавáць; **-ться**—адсáпвацца, адсáпацца.
**Отдумывать,-мать**—перадумляць, перадýмаць.
**Отдушина**—прадýха.
**Отдых**—адпачынак, супачын, адпачын
**Отдыхать, отдохнуть**—адпачывáць, адпачыць; супачывáць, супачыць; аддыхáць, аддыхнýць; **-хать** *лёжа*—вылёжвацца.

**Отдышать,-ться**—аддыхаць, аддыхацца, адсапцíся, адсапацца.
**Отдышка**—аддышка.
**От'едание**—ад'яданьне.
**От'едать, от'есть**—ад'ядаць, ад'есьці.
**От'езд**—ад'езд.
**От'ездить**—ад'езьдзіць.
**От'езжать, от'ехать**—ад'яжджаць, ад'ехаць.
**Отёк**—пухліна, набракласьць, ацёк.
**Отекание**—напуханьне, набраканьне, ацёк; аплываньне (сьвечкі).
**Отекать, отечь**—аплываць, аплыць; напухаць, напухнуць; набракаць, набракнуць; наплываць, наплыць, натапіцца.
**Отёклость**—апухласьць, набракласьць, пухліна.
**Отёклый,-кший**—апухлы, набраклы.
**Отелиться**—ацяліцца.
**Отель**—гатэль, гасьцініца.
**Отемнять,-мнить**—зацямняць, зацямніць, зацьмяваць, зацьміць.
**Отенять,-нить**—ацяняць, ацяніць; затульваць, затуліць.
**Отеснять,-нить**—пацясьняць, пацясьніць.
**От'емлемость**—аднімнасьць.
**Отец**—бацька, тата, айцец; **о.** *крестный*—хросны бацька; **о.** *посаженный*—пасаджоны бацька.
**Отечески**—па бацькаўску.
**Отеческий**—бацькаўскі, айцоўскі.
**Отечественный**—бацькаўскі, айчысты, айчызны.
**Отечество**—бацькаўшчына, айчына, айчызна.
**Отжаривать,-рить**—1) адсмажваць, адсмажыць; 2) адлупцоўваць, адлупцаваць.
**Отжать**—*см.* **Отжимать** *и* **Отжинать.**
**Отжевать**—пережаваць.
**Отжечь**—*см.* **Отжигать.**
**Отживать, отжить**—аджываць, аджыць; пераживаць, пераживаць.
**Отжигать, отжечь**—адпальваць, адапаліць; адпякаць, адпячы.
**Отжим,-мание**—адцісканьне, выдаўліваньне.
**Отжимальный**—адціскальны.
**Отжимной**—адціскны, выдаўлены.
**Отжимать, отжать**—адціскаць, адціснуць; выдаўліваць.
**Отжинать, отжать**—аджынаць, аджаць.
**Отжыревший,-релый**—адсыцелы, пагладчэлы,патлусьцелы, выгадаваны, гладкі, выкармлены.
**Отжиреть**—адсыцець, патлусьцець, адкарміцца, загадаваць сала.
**Отжурить**—насварыцца (на каго).
**Отзавтракать**—пасьнедаць.
**Отзвенеть**—адзьвінець, пераразьвінець
**Отзвонить**—адзваніць, спыніць звон.
**Отзвук**—водгук, водгульле, водгалас.
**Отзвучать**—даваць водгук, водгалас; перагучаць.
**Отзимовать**—перазімаваць.
**Отзнобить**—адмарозіць, памарозіць.
**Отзолотить**—пазалаціць.
**Отзудеть**—пашчымець (аб зубох); адсьвярбець.
**Отзыв**—водзыў, адозва; водпіс, адповедзь; водгалас, водгук.
**Отзывание**—адкліканьне, адзываньне, адгукваньне.
**Отзывать, отозвать**—адклікаць, адклікнуць; адзываць, адазваць; **-ваться**—адклікацца, адгуквацца.
**Отзяблый,-бший**—адмерзлы.
**Отзябнуть**—адмарозіць; адмерзнуць.
**Отзывчиво**—спагадна, спагадліва, чула.
**Отзывчивость**—спагаднасьць, спагадлівасьць, чуласьць.
**Отзывчивый**—спагадны, спагадлівы, чулы.
**Отказ**—адмова; адповедзь; *до* **-зу**—да канца, колькі магчыма.
**Отказывать,-зать**—адмаўляць; адмовіць; **-зывать** *чему*—адпавядаць; **-зать** *по завещанию*—адпісаць; **отказать** *в службе*—адправіць са службы.
**Отказываться,-заться**—адмаўляцца, адмовіцца; адпінацца, адапнуцца; зракацца, зра(к)чыся; адцурацца, пакінуць; *жених* **отказался** *от невесты*—жаніх адкінуўся ад нявесты.
**Откаливать,-лить**—адгартоўваць, адгартаваць, загартаваць.
**Откалывать, отколоть**—адколваць, адкалоць; адшчапляць, адшчапіць; **-лывать** *штуки*—вырабляць.

**Откапывание**—адкопваньне.
**Откапывать, откопать**—адкопваць адкапáць; **-копанный**—адкопаны, адкапáны.
**Откараулить**—адбы́ць вáрту.
**Откармливать, откормить**—адкармліваць, адкармíць, вы́карміць; адгадавáць, вы́гадаваць; *на пастбище*—адпасáць, адпáсьвіць.
**Откатывание**—адкочваньне; магляваньне (бялíзны); закáсваньне (рукавоў).
**Откатывать, откатать**—адкочваць, адкачáць; адмаглёўваць, адмаглявáць (бялíзну); закáсваць, закасáць (рукавы).
**Откачивание**—адкочваньне; *воды*—пампавáньне
**Откачивать,-чать**—адкочваць, адкачáць; адвáльваць, адвалíць (кáмень); пампавáць, вы́пампаваць (вадý).
**Откашивать, откосить**—адкошваць, адкасíць; **-кошенный**—адкошаны.
**Откашливание**—адкáшліваньне, адхáркваньне.
**Откашливать,-лять**—адкáшліваць, адкáшляць; адхáркваць, адхáркнуць.
**Отквакать**—перакквактáць.
**Отквашивать,-сить**—заквáшваць, заквáсіць.
**Откидка**—адкíдак, адкідáньне, адкладáньне.
**Откидной**—адкідны́, адкладáны.
**Откидывать, откинуть**—адкíдваць, адкідáць, адкíнуць; адкладáць, адклáсьці.
**Откипать, откипеть**—адкіпáць, адкіпéць; перакіпáць, перакіпéць.
**Откипятить**—адгатавáць.
**Откладка**—адклáд, адкладáньне.
**Откладной**—адкладны́, адкладáны.
**Откладывание**—адклáдваньне, адкладáньне.
**Откладывать, откласть, отложить**—адклáдваць, адкладáць, адклáсьці;**-жить** *на долгое время*—задáўніць; *лошадь*—адпрагáць, адпрэгчы.
**Откланиваться,-няться**—прашчáцца, папрашчáцца; адвітáцца, разьвітáцца.
**Отклёвывать, отклевать**—аддзёўбваць, аддзяўбáць, наддзяўбáць.
**Отклеивать, отклеить**—адклéйваць, адклéіць; вы́клеіць;**-иться**—адклéіцца, паадклéйвацца.
**Отклеймить**—пакляймíць, пазнáчыць, патаўравáць.
**Отклёпывать, отклепать**—адклёпваць, адкляпáць; пакляпáць; адцягнýць (касý).
**Отклик**—водгук, водгульле, водгалас.
**Откликивать,-кнуть**—гукáць, гукнýць, пагукáць; пазвáць.
**Откликнуться**—адклíкнуцца, адгукнýцца, азвáцца.
**Отклон,-нение**—адхíл, адхілéньне.
**Отклонный**—адхонны, адхóнаваты.
**Отклонять,-нить**—адхіляць, адхілíць; адводзіць, адвéсьці; адцягваць, адцягнýць; адхінáць, адхінýць; адрáіць, адрáдзіць.
**Отковать**—адкавáць, адкýць, раскавáць.
**Отковыривание**—адкалýпваньне.
**Отковыривать,-рять**—адкалýпваць, адкалупáць, адкалупíць, надкалупíць, укалупíць.
**Откозыривать,-рять**—адказы́рваць, адказырáць.
**Отколачивать, отколотить**—адбівáць, адбíць; лупцавáць, адлупцавáць; **-лоченный**—адбíты, адлупцавáны.
**Отколдовать**—адваражы́ць, адчаравáць, адрабíць.
**Отколоситься**—адкаласíцца, перакаласíцца.
**Отколотый**—адколаты, адшчэплены.
**Отколоть**—*см.* **Откалывать.**
**Откомандирование,-вка**—адпрáва, выпрáва, адпраўлéньне, адкамандыравáньне.
**Откомандировывать,-ровать**—адпраўляць, адпрáвіць; выпраўляць, вы́правіць; адкамандыроўваць, адкамандыравáць.
**Откомиссарить**—адкамісаравáць.
**Отконопачивать,-патить**—адканапáчваць, адканапáціць, вы́канапаціць; вы́шпакляваць.
**Откоп,-пка**—адкоп.
**Откопать**—*см.* **Откапывать.**

**Откормить**—*см.* **Откармливать.**
**Откормка**—выкарм, гадоўля, адкармленьне; папас.
**Откормленный**—адкормлены, выкармлены.
**Откорнать**—адсячы, адцяць.
**Откорчевать**—выкарчаваць.
**Откос**—спад, пакат.
**Откосить**—*см.* **Откашивать.**
**Откосный**—спадзісты.
**Откочевать**—адвандраваць; перавандраваць.
**Откраивать, откроить**—адкройваць, адкроіць.
**Окрашивать, окрасить**—адмалёўваць, адмаляваць; адфарбаваць.
**Открещиваться, откреститься**—адхрышчвацца, адхрысьціцца.
**Откровение**—выяў, адкрыцьцё.
**Откровенничать**—шчыра гаварыць.
**Откровенно**—шчыра, ня тоячыся, адкрыта.
**Откровенность**—шчырасьць, адкрытасьць.
**Откровенный**—шчыры, нетаемны, адкрыты.
**Откружиться**—адкружыцца, перакружыцца.
**Откручивать, открутить**—адкручваць, адкруціць.
**Открывать, открыть**—адчыняць, адчыніць; адкрываць, адкрыць; распачынаць, распачаць (заняткі, стралянiну); адтуляць, растуляць, растуліць; выяўляць, выявіць; выказваць, выказаць (думкі); вынаходзіць, вынайсьці (зьявішча); **-рыть** *грудь*—расхлістацца; **-рыть** *глаза*—расплюшчыць, пралупіць вочы; **-рыть** *книгу*—разгарнуць кнігу; **-рыть** *рот*—разьзявіць рот, разьзявіцца; **-рой** *сообщника*—выкажы супольніка; **-рыть** *книжный магазин*—закласьці кнігарню; **-вается** *возможность*—выпадае, зьяўляецца магчымым; **открылся** *колдун*—аб'явіўся знахар; **открылась** *новая болезнь*—паказалася новая хвароба.
**Открытие**—вынаходка; адчыненьне, адкрыцьцё, адкрыцьце.
**Открыто**—шчыра, сардэчна, адкрыт(н)а.
**Открытость**—шчырасьць, сардэчнасьць, адкрыт(н)асьць, праўдзівасьць, нетаемнасьць.
**Открытый**—адкрыт(н)ы, шчыры, нетаемны; **-тое** *письмо*—паштовая картка; **-тый** *воздух*—вольнае паветра; **-тый** *враг*—яўны вораг.
**Откуда**—адкуль, скуль; **-да**-*то*—аднекуль.
**Откуп**—водкуп, пасэсія, арэнда.
**Откуплять,-пить**—адкупляць, адкупіць, выкупіць; браць, узяць у пасэсію, у арэнду.
**Откупаться**—1) адкупляцца (*сов.* адкупіцца); выкупляцца; 2) адкупацца, выкупацца.
**Откупленный**—адкуплены, выкуплены.
**Откупной**—адкупны.
**Откупоривать,-рить**—адкаркоўваць, адкаркаваць; адтыкаць, адаткнуць.
**Откуривать,-рить**—адкурваць, адкурыць; перакурваць, перакурыць.
**Откусывать,-сить**—адкусваць, адкусіць.
**Откупщик**—адкупнік, рандар, пасэсар.
**Откутить**—адгуляць.
**Откутывать,-тать**—адк(х)утваць, адк(х)утаць; разгортваць, разгарнуць.
**Откушивать,-шать**—каштаваць, закаштаваць, пакаштаваць; запрабаваць; паесьці, папіць.
**Отлагательный**—адкладны.
**Отлагательство**—адклад, акладаньне, адвалока.
**Отлагать, отложить**—*см.* **Откладывать.**
**Отлакировать**—адлякіраваць, палякаваць.
**Отламывать, отломать, отломить**—адломліваць, адламляць, адламаць, адламіць.
**Отлегать, отлечь**—адлягаць, адлегчы; адходзіць, адыйсьці; **-гло** *на сердце*—палегчала на сэрцы.
**Отлеживать, отлежать**—адлежваць, адляжаць; пераляжаць.
**Отлеживаться, отлежаться**—адлежвацца, адляжацца; вылежвацца, вылежацца.

**Отлезать, отлезть**—адлязàць, адлéзьці.
**Отлепливать, отлеплять, отлепить**—адлéпліваць, адляпля́ць, адляпíць.
**Отлёт**—адлёт; *птиц*—вырай.
**Отлетать,-теть**—адлятáць, адляцéць.
**Отлив**—адплыў, спад (вады); **отлив** *воды с крыши*—капёж.
**Отливать, отлить** 1) *водою или воду*—адліваць, адлíць; вылівáць, выліць; 2) *что-н. из металла*—адлітоўваць, адлітавáць;**-вать** *цветами*—зьмяняцца ў розныя колеры.
**Отливной**—адліўны, лíты, выліваны.
**Отливок**—адлíвак.
**Отлизывать,-зать**—адлíзваць, адлізáць.
**Отлипать, отлипнуть**—адліпáць, адлíпнуць;**-пший**—адлíплы.
**Отличать,-чить**—адрозьніваць, адразьня́ць, адрозьніць; адзначáць, адзнáчыць; выдзяля́ць, вы́дзеліць;**-чаться**—адрозьнівацца, адзнáчацца, розьніцца, выдавáцца.
**Отличие**—адзнáка, розьніца, адмéна.
**Отличительный**—адзнáчны, адмéтны, асобны;**-ный** *признак*—адзнáка.
**Отлично**—1) адзнáчна, розна; 2) выдáтна, дасканáла, добра.
**Отличный**—1) адзнáчны, асобны, розны, адмéтны; 2) выдáтны дасканáлы, добры.
**Отлогий**—адхонны, пакáты, спáдзісты, пахíлы.
**Отлого**—адхонна, пакáта, спáдзіста, пахíла.
**Отлогость**—адхон, адхоннасьць, пакáтасьць, спáдзістасьць, пахíласьць.
**Отложение**—адклáд, адкладáньне.
**Отложенный**—адклáдзены, адкасáны (рукáў).
**Отложистый**—спáдзісты, адхонны.
**Отложить**—*см.* **Откладывать**.
**Отложиться**—адпáсьці, з(д)рàдзіць.
**Отложной**—адкладáны, адкáсаны (рукáў).
**Отломать,-мить**—*см.* **Отламывать**.
**Отломок**—адломак, уломак.
**Отлокать**—адхлябтáць выхлебтаць.
**Отлудить**—пабялíць.
**Отлуп** (*дерева*)—пáзушка (лс. т.).
**Отлупить**—адлупíць, адкалупíць; адлупцавáць.
**Отлучать,-чить**—адлучáць, адлучыць, вылучыць; **выдаля́ць**, вы́даліць.
**Отлучаться,-читься—адлучáцца**, адлучыцца; **ад'яжджáць, ад'**éхаць; адходзіць, **адыйсьцí.**
**Отлучение**—адлучэньне.
**Отлученный**—адлýчаны.
**Отлучка**—адлýчка, **ад'éзд**, адход.
**Отлыгаться, отолгаться—**адбрэхвацца, адбрахáцца, адхлусíцца.
**Отлынивать**—ухіля́цца, унікáць.
**Отлюбить**—адкахáць, адлюбíць, распадабàць.
**Отлягать**—адлягáць, адходзіць.
**Отляпать, отляпнуть**—адсякáць, адсячы, адця́ць.
**Отмазывать,-зать**—вымáзваць, вымазаць.
**Отмаливать, отмолить**—адмольваць, адмалíць;**-литься**—кончыць малíцца, адмалíцца.
**Отмалчиваться, отмолчаться**—адмоўчвацца, адмаўчáцца.
**Отмалывать, отмолоть**—адмолваць, адмéльваць, адмалоць.
**Отманивать,-нить**—аднàджваць, аднáдзіць; адвáбліваць, адвáбіць; адманíць.
**Отмасливать,-лить**—адмáсьліваць, адмáсьліць; вымасьліць, вышмальцаваць;**-литься** *от кого*—адкупíцца.
**Отматывать, отмотать**—адмотваць, адматáць; адвівáць, адвíць.
**Отмахивать,-хать,-хнуть**—адмáхваць, адмахáць, адмахнýць; адганя́ць, адагнáць; адсякáць.
**Отмачивать, отмочить**—адмочваць, адмачыць, вымачыць;**-мочнный**—адмочаны.
**Отмашь,** *на* **отмашь**—наўзмáх, наводмах, наводлеў.
**Отмаяться**—адмадзéць, прамарнавáцца, перагібéць.
**Отмежевание**—адмежавáньне; памéр.
**Отмежёвывать,-жевать**—адмяжоўваць, адмежавáць; мéраць, памéраць.
**Отмель**—мель, мялінá, мялізнá.

**Отмена**—адме́на, скасава́ньне (закону).
**Отменно**—адме́нна, выда́тна, адзна́чна.
**Отменный**—адме́нны, выда́тны, адзна́чны.
**Отменять,-нить**—адмяня́ць, адмяні́ць; касава́ць, скасава́ць (закон).
**Отмереть**—*см.* **Отмирать.**
**Отмерзание**—адмярза́ньне.
**Отмерзать, отмерзнуть**—адмярза́ць, адме́рзнуць, адме́рзьці; **-зший**—адме́рзлы.
**Отмеривание**—адме́рваньне.
**Отмеривать,-рить**—адме́рваць, адме́раць.
**Отметать, отмести**—адмята́ць, адмясьці́; адкіда́ць, адкі́нуць.
**Отметка**—адзнака, знак, ме́тка, паме́тка, ната́тка.
**Отмётный**—адкідны́.
**Отмечать, отметить**—адзнача́ць, адзна́чыць; зна́чыць, пазна́чыць; ме́ціць, паме́ціць; занатава́ць.
**Отмигать,-гнуть**—адмірга́ць, адміргну́ць.
**Отминать, отмять**—адціска́ць, адці́снуць; адміна́ць, адмя́ць.
**Отмирание**—адміра́ньне.
**Отмирать, отмереть**—адміра́ць, адме́рці;**-рший**—адме́рлы.
**Отмокание**—адмака́ньне.
**Отмокать, отмокнуть**—адмака́ць, адмокнуць;**-кший**—адмоклы.
**Отмолаживать,-лодить**—адмалоджваць, адмаладзі́ць;**-ся**—адмаладзі́цца, амаладзі́цца.
**Отмолачивать, отмолотить**—адмалочваць, адмалаці́ць.
**Отмолвиться**—адклі́кнуцца, адгукну́цца, адазва́цца.
**Отмолить**—*см.* **Отмаливать.**
**Отмолоть**—*см* **Отмалывать.**
**Отмолчаться**—*см.* **Отмалчиваться.**
**Отмораживание**—адмарожваньне.
**Отмораживать,-розить**—адмарожваць, адмарозіць;**-роженный**—адмарожаны.
**Отмостить**—адмасьці́ць; *камнем*—вы́брукаваць.
**Отмочить**—*см.* **Отмачивать.**
**Отмучить**—адму́чыць, наму́чыць, намардава́ць.

**Отмщать**—*см.* **Отомщать.**
**Отмывание**—адмыва́ньне.
**Отмывать, отмыть**—адмыва́ць, адмы́ць.
**Отмыкание**—адамка́ньне, адмыка́ньне,
**Отмыкатель**—адамка́льнік, адмыка́льнік.
**Отмы́кать** *горе*—набедава́цца; *лён*—пачаса́ць.
**Отмыка́ть, отомкнуть**—адамка́ць, адмыка́ць, адамкну́ць.
**Отмыливать,-лить**—адмы́льваць, адмы́ліць.
**Отмычка**—адмы́чка, адмыка́ч, зладзе́йскі ключ.
**Отмякать, отмякнуть**—адмяка́ць, адмя́кнуць;**-кший**—адмя́клы.
**Отнекиваться**—адмаўля́цца, адпіна́цца.
**Отнесение**—аднясе́ньне.
**Отнести**—*см.* **Относить.**
**Отнимание**—ады(й)ма́ньне.
**Отнимать, отнять**—ады(й)ма́ць, адня́ць; адбіра́ць, адабра́ць; зьмянша́ць, зьме́ншыць;**-нять** *дитя от груди*—адлучы́ць дзіця́ ад грудзе́й;**-нять** *руку*—адрэзаць, адця́ць руку́.
**Относительно** *чего, кого*—адносна, у адносінах да чаго, каго, што да..., на конт.
**Относительность**—адноснасьць, памяркоўнасьць.
**Относительный**—адносны, памяркоўны.
**Относить, отнести**—аднасі́ць, адне́сьці, зане́сьці; прыпі́сваць, прыпіса́ць, зьвя́зваць, зьвяза́ць; ста́віць, станаві́ць.
**Относиться**—адносіцца, нале́жаць, стасава́цца (да чаго); абыходзіцца (з кім), ста́віцца (да каго), датыка́цца,
**Отношение**—адносі́ны (мн. л.), стасу́нак; *канцел.*—адносьнік; *в этом*-**нии**—у гэтых адносінах, з гэтага погляду.
**Отныне**—ад гэтага ча́су.
**Отнюдь**—зусі́м, ані́як, ані, ні ў я́кім ра́зе, нічога.
**Отнятие**—адня́цьце, адыйма́ньне, *ноги*—адціна́ньне.
**Отнять**—*см.* **Отнимать.**
**Отобедать**—адабе́даць, паабе́даць.

**Отобрание**—адабра́ньне.
**Отобрать**—*см.* **Отбирать.**
**Отовсюду**—адусю́ль, з усі́х бакоў,
**Отогнание**—адагна́ньне.
**Отогнать**—*см.* **Отгонять.**
**Отогнуть**—*см.* **Отгибать.**
**Отогревание**—адаграва́ньне; *дыханием*—адху́кваньне.
**Отогревать, отогреть**—адаграва́ць, адагрэць;**-ревать** *дыханием*—адху́кваць, адху́каць.
**Отодвигать, отодвинуть**—адсоўваць, адсу́нуць.
**Отодрание**—аддзіра́ньне.
**Отодрать**—*см.* **Отдирать.**
**Отозвание**—адкліка́ньне, адзыва́ньне.
**Отозвать**—*см.* **Отзывать.**
**Отойти**—*см.* **Отходить.**
**Отолачивать**—утаўка́ць (*сов.* утаўчы́), вы́таўчы.
**Отолиты** (*физиол.*)—атылі́ты, вушны́я каме́ньні.
**Отолстеть**—патаўсьце́ць, пагрубе́ць.
**Отоманка**—кана́па.
**Отомкнуть**—*см.* **Отмыкать.**
**Отомщать, отомстить**—памшча́цца, памсьці́цца; адамшча́ць, адамсьці́ць; помставаць, паквіта́цца; **Отомщенный**—памшчо́ны, адамшчоны.
**Отопление**—апа́л.
**Отоплять, отопить**—апа́льваць, апалі́ць.
**Отопорщиться**—натапы́рыцца, наста́віць хіб.
**Отопревать, отопреть**—адаправа́ць, адапрэць; **-вший**—адапрэлы.
**Отоптать**—*см.* **Отаптывать.**
**Оторапливать,-ропить**—прысьпяша́ць, прысьпяшы́ць.
**Оторачивать,-рочить**—аблямоўваць, аблямава́ць; абфастрыгава́ць, абшыва́ць тасёмкамі.
**Оторванность**—адарва́насьць.
**Оторванный**—адарва́ны.
**Оторвать**—*см.* **Отрывать.**
**Оторопелость**—утаропленасьць.
**Оторопелый,-певший**—утароплены, спалоханы, ату́каны.
**Оторопеть**—утаропі́цца, спалохацца.
**Оторопь**—утарапе́ньне, пярэпалах.
**Оторочка**—аблямоўка.
**Оторочить**—*см.* **Оторачивать.**

**Отослание**—адасла́ньне.
**Отосланный**—адасла́ны.
**Отослать**—*см.* **Отсылать.**
**Отохочивать,-хотить**—адахвочваць, адахвоціць; адна́джваць, адна́дзіць;**-хотиться**—напалява́цца.
**Отощалый,-щавший**—схудзе́лы, схудне́лы, асла́блы, змарне́лы.
**Отощать**—схудзе́ць, асла́бнуць, змарне́ць; вы́сахнуць, падупа̀сьці; зьмізарне́ць.
**Отпавший**—адпа́лы.
**Отпадать, отпасть**—адпада́ць, адпа́сьці; адшчапі́цца; **-сть** *от веры*—адступі́ць ад ве́ры.
**Отпадение**—адпа́д, адпадзе́ньне; адступле́ньне.
**Отпадыш**—1) па́даліца; 2) адшчапе́нец.
**Отпаивать, отпоить**—адпойваць, адпаі́ць.
**Отпаивать, отпаять**—адлітоўваць, адлітава́ць,
**Отпаливать,-лить**—аьпа́льваць, адпалі́ць.
**Отпалзывать, отползать, отползти**—адпоўзваць, адпаўза́ць, адпаўзьці́.
**Отпалывать, отполоть**—адполваць, адпалоць.
**Отпаривать,-рить**—адпа́рваць, адпа́рыць; **-риться**—адпа́рыцца, вы́парыцца.
**Отпарывать, отпороть**—адпорваць, адпароць.
**Отпасти**—адпа́сьціць, адпа́сьвіць.
**Отпаханный**—адара́ны.
**Отпахивание**—адворваньне.
**Отпахивать,-хать**—адворваць, адара́ць.
**Отпев,-вание**—адпра́ва набажэнства па нябожчыку.
**Отпевать, отпеть**—адсьпява́ць, адпява́ць, адпяя́ць; адпраўля́ць набажэнства па нябожчыку; *я ему славно* **отпел**—я яму добра вы́чытаў.
**Отпекать, отпечь**—адпяка́ць, адпячы́.
**Отпестовать**—адпе́ставаць, вы́пеставаць.
**Отпетый**—адсьпява́ны, адпяя́ны; **-тый** *человек* (*в перен. см.*)—прапа́шчы, ляда́шчы.

**Пятнышко**—плямка, капка.
**Пяток**—пяток.
**Пяточный** (*анат.*)—пяткавы.
**Пятый**—пяты; *в* **пятых**—папятае.
**Пять**—пяць; **пяць** *с половиной*—паўшаста.
**Пятьдесят**—пяцьдзесят.
**Пячение**—адступаньне, адсоўваньне, адход, цопаньне.

# Р.

**Раб**—нявольнік, раб, прыгоньнік.
**Раба**—нявольніца, раба, прыгоньніца.
**Раболепие**—падлыжнасьць, улягáньне, упады.
**Раболепно**—падлыжна, улегліва, упадліва.
**Раболепный**—падлыжны, улегліві, упадліві, папаўзьліві, дагодліві.
**Раболепство**—*см.* **Раболепие.**
**Раболепствовать**—упадаць, уніжацца, рассыпацца.
**Работа**—работа, праца; **работа** *бесплатная*—дарэмшчына; *каторжная*—катаржная, сібірная праца.
**Работать**—работаць, працаваць, рабіць, гараваць.
**Работишка**—работка.
**Работник**—работнік, рабоцька, працаўнік; парабак, чаляднік, наймiт.
**Работница**—работніца, працаўніца; парабчанка, чалядніца, наймічка.
**Работничий**—работніцкі.
**Работный**—работны, працоўны.
**Работодатель**—работадавец.
**Работоспособность**—працаздольнасьць; здольнасьць да працы, працавітасьць.
**Работоспособный**—працаздольны, працавіты.
**Работяга**—рабацяга, рабоцька.
**Работящий**—працавіты, старанны.
**Рабоче-крестьянский**—работніцка-сялянскі, рабоча-сялянскі.
**Рабочий** 1) *существ.*—работнік; 2) *прил.*—працоўны;-**чий** *день*—працоўны дзень.
**Рабски**—як нявольнік, падлыжна.
**Рабский**—нявольнічы, паднявольны.
**Рабство**—няволя, нявольніцтва.
**рабыня**—нявольніца.
**раввинист**—рабіністы.
**Раввин**—рабін.
**Равелин**—равэлін.
**Равенство**—роўнасьць.
**Равнение**—раўненьне (направа, налева і г. д.)
**Ровнёхонько**—раўнюсенька.
**Равнина**—роўнядзь, раўніна, роўніца.
**Равнинный**—раўнінавы, раўнінны.
**Равно**—роўна; *все* **равно**—усё роўна.
**Равноапостольный**—роўны апосталам.
**Равнобедренный** (*треугольник*)—роўнаплечы (м. т.)
**Равнобочный**—роўнабокі.
**Равновеликий**—роўнавялікі.
**Равновременность**—роўначаснасьць.
**Равновременный**—роўначасны.
**Равновесие**—роўнавага.
**Равновесно,-ный**—роўнаважна,-ны.
**Равногранный**—роўнасьценны.
**Равноденственный**—роўнадзённы.
**Равноденствие**—роўнадзеньне (г.-к. т.).
**Равнодушие**—абыякасьць, бязуважнасьць, спакойнасьць.
**Равнодушный**—абыякі, бязуважны, спакойны.
**Равнодействующий**—роўнадзейны.
**Равнозначащий**—роўназначны, таго-ж самага значэньня.
**Равнокрылый**—роўнакрылы
**Равнолепестный** (*бот.*)—роўнапялёсткавы.
**Равнолетний**—адналетні, равесьнік.
**Равномерно**—роўнамерна, у роўнай меры.
**Равномерность**—роўнамернасьць, аднакасьць.
**Равномерный**—роўнамерны, роўнай меры, аднакі.
**Равнообразный**—аднастайны.
**Равноотстоящий** (*мат.*)—роўнаадлеглы.
**Равнопеременный**—роўназьменны.

**Равноправие**—роўнапраўе, раўнапраўнасьць.
**Равноправный**—роўнапраўны.
**Равносилие**—роўнасільнасьць, роўнаважнасьць, роўназначнасьць.
**Равносильный**—роўнасільны, роўнаважны, роўназначны.
**Равносторонний**—роўнабочны.
**Равность**—роўнасьць.
**Равноугольный**—роўнакутны.
**Равноценно**—роўнай цаны, роўнацэнны.
**Равноценность**—роўнацэннасьць, роўнакаштоўнасьць.
**Равноценный**—роўнацэнны, роўнакаштоўны.
**Равночасный**—роўначасны.
**Равночисленный**—роўналікі.
**Равный**—роўны, аднакавы; гладкі.
**Равняние**—раўнаваньне.
**Равнять**—раўнаваць, раўня(а)ць.
**Равняться**—раўнацца, раўняцца.
**Рагу**—рагу, сяканка.
**Рад**—рады, рад.
**Радёшенек**—радзюсенькі.
**Раджа**—раджа.
**Ради**—дзеля, з прычыны (чаго); з-за (чага).
**Радиво**—*см.* **Радетельно**.
**Радение**—1) зычэньне, дбаньне; 2) *сект. собрание*—сход, збор.
**Радетель**—зычлівец.
**Радетельница**—зычлівіца.
**Радеть**—зычыць (каму), дбаць, спрыяць.
**Радиант** (*астр.*)—радыянт.
**Радиальный**—радыяльны.
**Радикал**—радыкал.
**Радикально**—радыкальна, рашуча.
**Радикальный**—радыкальны, рашучы.
**Радиус** (*геом.*)—радыус, прамень (м. т.);**-ус** *вектор*—прамень рухомы (м. т.).
**Радование**—радаваньне, радасьць.
**Радовать**—радаваць, пацяшаць, цешыць.
**Радоваться**—радавацца, пацяшацца, цешыцца (з чаго).
**Радоница**—Радаўніца, Веснавыя дзяды.
**Радостно**—радасна, пацешна.
**Радостный**—радасны, пацешны, вясёлы.
**Радость**—радасьць, радаваньне, радашчы; *от*-**сти**—з радасьці.
**Радуга**—вясёлка, весялуха, смок.
**Радужный**—вясёлкавы.
**Радушие**—прыветнасьць, ветлівасьць, зычлівасьць, шчырасьць.
**Радушный**—прыветны, ветлівы, зычлівы, сардэчны, шчыры, гасцінны.
**Раёк**—1) аптычнае шкелца; 2) вясёлкавая балонка (у воку); 3) галёрка (ў тэатры).
**Ражий**—гожы, харошы.
**Раз**—раз; **раз**-*за*-**разам**—раз-па-разу; *в другой* **раз**—іншым разам; *два, три* **раза**—двойчы, тройчы; *как* **раз**—сама раз; *каждый* **раз**—што разу; *связать что-либо в два* **раза**—зьвязаць у дзьве столкі.
**Разахаться**—развохацца.
**Разбавление**—разьвядзеньне.
**Разбавлять, разбавить**—разводзіць, разводзіць, разьвесьці; распускаць, распусьціць; разбаўляць, разбавіць.
**Разбазаривать,-рить**—размантачваць, размантачыць.
**Разбаливаться, разболеться**—разбольвацца, разбалецца; разьнядужвацца, разьнядужыцца, расхварэцца.
**Разбаловать**—разбалаваць, распусьціць, распесьціць.
**Разбаловаться**—разбалавацца, распусьціцца, расьпесьціцца, разбязуліцца, разбазылець.
**Разбегаться, разбежаться**—разьбягацца, разьбегчыся; рассыпацца, уцякаць, паўцякаць.
**Разбегаться**—разьбегацца, усхадзіцца.
**Разбег**—разьбег, разгон; *с*-**гу**—на скокам.
**Разбередить** (*рану*)—разьятрыць.
**Разбивание**—разьбіваньне.
**Разбивать, разбить**—разьбіваць, разьбіць; таўчы, патаўчы;-**би** *физиономию*—расквасіць тварь; **-бить** *лагерь*—стаць лягерам; **-бить** *в дребезги*—здрушчыць, сашчэнціць.
**Разбиваться, разбиться**—разьбівацца, разьбіцца; забівацца,

**азбивка**—разьбіва́ньне; *продать* —в **разбивку**—на раздроб.
**азбивной**—разьбівáны.
**азбинтовывать,-товать**—разьбінтоўваць, разьбінтавáць; разьвя́зваць, разьвязáць.
**азбираемый**—разьбірáны.
**азбирание**—разьбірáньне, разбор, раскладáньне.
**азбиратель**—разьбірáльнік.
**азбирательство** (*дела*)—разбор, разгля́д.
**азбирать, разобрать**—разьбірáць, разабрáць; разбу́рваць, разбу́рыць, развалíць; раскладáць, расклáсьці; разглядáць, разглéдзець; разважáць, развáжыць (спрáву); распакоўваць, распакавáць.
**азбрататься**—разбратáцца.
**азбрестись**—разбрысьцíся, разысьцíся.
**азброд**, *в* **-род**—уроссып, розна, паасобку, хто куды́.
**азброс**—роскід; *в*-**рос**—уроскідку.
**азбросанность**—раскíданасьць.
**азбросанный**—раскíданы.
**азбрызгивать,-згать,-знуть**—разбы́рзкваць, разбы́рзкаць; распы́рскваць, распы́рскаць, распы́рснуць.
**азбрюзжаться**—разбурчáцца.
**азбужать, разбудить**—абуджáць, абудзíць; разбуджáць, разбудзíць;-**дить** *толчками*—растýрхаць, расторкаць.
**азбурлиться**—расклекатáцца, разбушавáцца.
**азбухание**—разбракáньне.
**азбухать, разбухнуть**—разбракáць, разбрáкнуць, набрáкнуць; разбрузáць, разбрýзнуць; распухáць, распýхнуць.
**азбухлый,-хший**—набрáклы.
**азбушеваться**—разбушавáцца, расхадзíцца.
**азбуяниться**—разбуя́ніцца.
**азважничаться**—разважнéць, расфанабэрыцца.
**азвазживать, развозжать**—разьлéйцваць, разьляйцáць.
**азвал**—развáл, разбурэньне.
**азваливание**—развáльваньне.
**азваливать,-лить**—развáльваць, развалíць; разбýрваць, разбуры́ць,

**Развалина**—руíна, развáліна, крýшня.
**Развалистый**—разложысты; перакíдзісты.
**Развар**—развáр.
**Разваренный**—развáраны, распáраны.
**Разваривать,-рить**—развáрваць, развары́ць; распáрваць, распáрыць.
**Разварной**—разварны́.
**Разведение** 1) *на* **племя**—расплод, развод; 2) *водою*—разьвядзéньне, распускáньне.
**Разве**—**ці**, хібá, ці-ж, няўжо, або-**ж.**
**Разведёнка**—разводка.
**Разведриваться,-риться**—распагоджвацца, распагодзіцца; разья́сьнівацца, разьясьнíцца.
**Развевать, развеять**—разьвявáць, разьвéяць, разьдзьмýхаць; раскідáць, раскíнуць;-**вающийся**—разьвéйны.
**Разведка**—вывéдка, розьведка.
**Разведочный,-довательный**—вывéдны.
**Разведчик**—вывéднік (в. т.).
**Разведывать,-дать**—вывéдваць, вы́ведаць; дапы́твацца, дапытáцца; дахадзíць, дайсьцí (чаго).
**Развезть**—*см.* **Развозить.**
**Развенчивание**—развéнчваньне.
**Развенчивать,-чать**—разьвéнчваць, разьвянчáць.
**Развёрстка**—падзéл, разьмеркавáньне.
**Развёрстывать,-верстать**—падзялáць, падзялíць; разьмяркоўваць, разьмеркавáць.
**Развес**—вáжаньне, звáжваньне, развáжваньне.
**Развесистый**—разьвíслы, гальлíсты, разложысты.
**Разветвление**—галінавáньне.
**Разветвлять,-вить**—галінавáць, разгалінавáць.
**Разветвляться,-виться**—галінавáцца, разгалінавáцца, распускáць вéцьце.
**Развешанный**—развáжаны; разьвéшаны.
**Развешивать, развесить** 1) *на весах* — развáжваць, развáжыць; 2) *бельё*—разьвéшваць, разьвéсіць; 3) *ветви* (*о дереве*)—распускáць, распусьцíць.

**Разверзать,-зть**—раскрываць, раскрыць; расчыняць, расчыніць.
**Развёртывать, развернуть**—разгортваць, разгарнуць; разьвінаць, разьвінуць; расьсьцілаць, разаслаць.
**Развернутый строй** (*воен.*)—разьвінуты строй.
**Развертывающая** (*линия*)—разьвінальная лінія.
**Разверчивать, развертеть**—раскручваць, раскруціць.
**Развеселять,-лить**—разьвесяляць, разьвесяліць; распацяшаць, распацешыць.
**Развеселяющий**—пацешны.
**Развивание**—разьвінаньне, разьвіваньне.
**Развивать,-вить**—разьвінаць, разьвінуць; разьвіваць, разьвіць.
**Развивка**—*см.* **Развивание.**
**Развизжаться**—разьвішчацца, расскавытацца.
**Развилина**—вілавачіна, разгаціна.
**Развилистый**—вілаваты, разгаты.
**Развинченный**—расшрубаваны.
**Развинчивание**—расшрубаваньне.
**Развинчивать,-нтить**—расшрубоўваць, расшрубаваць; раскручваць, раскруціць.
**Развитие**—разьвіцьцё, развой.
**Развитой**—разьвітны.
**Развить**—*см.* **Развивать.**
**Развлекать,-лечь**—1)забаўляць, забавіць; пацяшаць, пацешыць; 2) развалакаць, развалачы; расьцягаць, расьцягнуць.
**Развлекающий**—баўны, забаўны, пацешны.
**Развлечение**—забаўка, гулі, гульня, пацеха; развалаканьне, расьцяганьне, разрываньне.
**Развод**—развод; **р.** *караула* (*военн*). развод варты.
**Разводить, развести**—разводзіць, разьвесьці; растаўляць, раставіць; разбараняць, разбараніць, разьняць; распускаць распусьціць; разлучаць, разлучыць, разьвянчаць; *на племя* —расплоджваць, распладзіць; **-сти** *огонь*—раскласьці цяпло; **-сти** *караул*—раставіць варту; **-сти** *мост*—рассунуць мост; **-сти** *дерущихся*—разбараніць.
**Разводиться, развестись**—разводзіцца, разьвесьціся.
**Разводка**—*см.* **Разведёнка.**
**Разводная** (*запись*)—разводная.
**Разводный**—разводны.
**Разводчик** (*караула*)—разводнік (в. т.).
**Развоз**—развоз.
**Развозить,-развезть**—разваз*і*ць, развозіць, разьвезьці.
**Развозиться**—задурэць.
**Развозка**—развоз, разьвязеньне.
**Развозный**—развозны.
**Разволакивать,-лочь**—развалакаць, развала(к)чы, расьцягнуць.
**Разволноваться**—усхваляваццa.
**Развопиться**—разгаласіцца, разьлементавацца.
**Развораживать, разворожить**—адварожваць, адваражыць.
**Развороченный**—разгорнуты, разьвінуты.
**Разворачивание**—разгортваньне, разьвінаньне.
**Разворачивать,-ротить**—1) разгортваць, разгарнуць; разварочваць, разьвярнуць; 2) раскідаць, раскінуць, параскідаць, перавярнуць.
**Разворашивать,-рошить**—разварушваць, разварушыць.
**Развороваться**—зрабіцца злодзеем.
**Разворовывать,-ровать**—раскрадаць, раскрасьці, параскрадаць.
**Разворчаться**—разбурчацца.
**Разврат**—распуста, роспуст, бахурства.
**Развратитель**—згаршальнік, зводнік, спакусьнік.
**Развратительница**—згаршальніца, зводніца, спакусьніца.
**Развратник**—распусьнік, бахур.
**Развратница**—распусьніца, бахурка.
**Развратничать**—распусьнічаць, бахураваць, распусна жыць.
**Развратно**—распусна.
**Развратный**—распусны.
**Развращать,-ратить**—псаваць, сапсаваць; рабіць распусным, згаршаць.
**Развращающий**—псуючы, згаршальны.
**Развращение**—згаршэньне, псаваньне.

**Развращенность**—згоршанасьць, распуста, распуснасьць.
**Развращенный**—згоршаны, сапсуты, распушчаны.
**Развыться**—развыцца, разгаласіцца.
**Развьючивание**—расклуньваньне.
**Развьючивать,-чить**—расклуньваць, расклуніць; здымаць, зьняць клункі.
**Развязка**—разьвязка.
**Развязно**—вольна, бяз прымусу.
**Развязность**—вольнасьць, бяспрымуснасьць.
**Развязный**—вольны, бяспрымусны.
**Развязывание**—разьвязваньне.
**Развязывать,-зать**—разьвязваць, разьвязаць; *пояс*—расьпяразваць, распеpaзаць; *супоню*—рассупоньваць, рассупоніць.
**Разгавливание**—розгавіны.
**Разгавливаться,-говеться**—разгауляцца, разгавецца.
**Разгадка**—разгадка.
**Разгадчик**—разгаднік, разгадчык.
**Разгадывание**—разгадваньне.
**Разгадывать,-дать**—разгадваць, разгадаць; адгадваць, адгадаць.
**Разгар**—распал, распаленьне.
**Разгиб**—разгін, расхіл.
**Разгибание**—разгінаньне, расхіленьне.
**Разгибать, разогнуть**—разгінаць, разагнуць, паразгінаць; расхіляць, расхіліць, парасхіляць; выпростваць, выпрастаць, павыпростваць.
**Разгибной**—разгінаны.
**Разгильдяй,-ка**—нядбаліца, раскідоха, целяпень.
**Разгильдяйство**—нядбальства, раскідонства.
**Разглагольствование**—гаманіна, размауленьне, доугія размовы, раздабарваньне.
**Разглагольствовать**—многа размауляць, раздабарваць.
**Разглаженный**—разгладжаны; *о белье*—адпрасаваны.
**Разглаживать, разгладить**—разгладжваць, разгладзіць; адпрасоуваць, адпрасаваць.
**Разглазеться**—задзівіцца, вытарашчыцца.
**Разгласка**—розгалас.
**Разглашатель**—разглашальнік, вястун.
**Разглашать, разгласить**—разгалашаць, разгаласіць.
**Разглашение**—розгалас, разгалашэньне.
**Разгляд**—разгляд.
**Разглядывание**—разглядваньне, разгляда765ньне.
**Разглядывать,-деть**—разглядваць, разглядаць, разгледзець.
**Разгневать**—разгневаць, разгнявіць, угнявіць, раззлаваць.
**Разгневаться**—разгневацца, разгнявіцца, угнявіцца, раззлавацца.
**Разговарить**—размауляць, гаманіць, гутарыць; *о пустяках*—раздабарваць, зюзюкаць.
**Разговляться,-веться**—разгауляцца, разгавецца.
**Разговор**—размова, гутарка, гамонка, гавара.
**Разговориться**—разгаварыцца, разгаманіцца, разгутарыцца; *о пустяках*—раздабарыцца, разьзюзюкацца.
**Разговорный**—размоуны;-*ный язык*—звычайная мова.
**Разговорчиво**—гаварліва, гутарліва, гаманліва.
**Разговорчивость**—гаварлівасьць, гутарлівасьць, гаманлівасьць.
**Разговорчивый**—гаварлівы, гаваркі, гутарлівы, гаманлівы.
**Разгон**—разгон.
**Разгонисто**—разгоніста.
**Разгонистый**—разгоністы.
**Разгонять, разогнать**—разганяць, разагнаць; *многих*—паразганяць.
**Разгораживание**—разгароджваньне.
**Разгораживать,-родить**—разгароджваць, разгарадзіць, перагарадзіць; разабраць агарожу.
**Разгордиться**—загардзіцца, зафанабэрыцца.
**Разгораться,-реться**—разгарацца, разгарэцца; распальвацца, распаліцца; заняцца полымем.
**Разгореваться**—зажурыцца, занудзіцца.
**Разгорячать,-чить**—распаляць, распаліць; расьпякаць, расьпячы; разжарваць; угнявіць.

**Разгорячение**—распалéньне.
**Разгоряченный**—распàлены, запàлены.
**Разгоститься**—разгасьцявáцца, загасьцявáцца.
**Разграбление**—разрабавáньне.
**Разграбленный**—разрабавáны.
**Разграблять,-бить**—рабавáць, разрабавáць, разгрáбіць.
**Разграничение**—разьмежавáньне.
**Разграниченный**—разьмежавáны.
**Разграничивать,-чить**—разьмяжоўваць, разьмежавáць; адмяжоўваць, адмежавáць.
**Разграничительный**—разьмежавáльны.
**Разграфление**—разьлінавáньне.
**Разграфленный**—разьлінавáны.
**Разграфлять,-фить**—разьлінoўваць, разьлінавáць.
**Разгребать, разгрести**—разграбáць, разгрэбці.
**Разгреметься**—разгрымéцца; *о посуде*—разьзьвінéцца; *об экипаже*—растарахцéцца.
**Разгром**—зруйнавáньне, зьнішчэньне.
**Разгромлять,-мить**—руйнавáць, зруйнавáць; нíшчыць, зьнíшчыць; пустошыць, спустошыць.
**Разгружать, разгрузить**—выклáдваць, выкладáць, вы́кпасьці; выладоўваць, вы́ладаваць.
**Разгруженный**—вы́кладзены, вы́ладаваны.
**Разгрузка**—выкладáньне, выладавáньне.
**Разгрызать,-зть**—разгрызáць, разгры́зьці.
**Разгул**—гульбá, гульня́.
**Рузгуливать**—гуля́ць, разгýльваць.
**Разгульно**—гульлíва, распýсна.
**Разгульный**—гульлíвы, распýсны.
**Разгуляться**—разгуля́цца, загуля́ць.
**Раздавание**—раздавáньне.
**Раздаватель**—раздавáльнік.
**Раздавать, раздать**—раздавáць, раздáць; *много*—параздавáць; **раздаваць** *в долг*—пазычáць, распазычáць; *лишь бы кому*—ты́каць, расты́каць.
**Раздаваться, раздаться**—раздавáцца, раздáцца; расьця́гвацца, расьцягнýцца; расступáцца, расступíцца; разьлягáцца, разьлéгчыся.
**Раздавливание**—расьціскáньне, раздýшваньне, раздáўліваньне.
**Раздавливать,-вить**—расьціскáць, расьцíснуць; раздýшваць, раздушы́ць; раздáўліваць, раздавíць.
**Раздалбливать, раздолбить**—разьдзёўбваць, разьдзяўбáць, разьдзю́баць;**-бить** *смысл*—расшалопаць.
**Раздаривать,-рить**—раздáрваць, раздары́ць, параздароўваць.
**Раздаточный**—раздавáльны.
**Раздатчик**—раздáтнік.
**Раздать**—*см.* **Раздавать.**
**Раздача**—раздавáньне, раздáча.
**Раздваивать, раздвоить**—раздвойваць, раздваíць; падвая́ць, падвоíць.
**Раздвигание**—рассоўваньне, рассувáньне.
**Раздвигать раздвинуть**—рассоўваць, рассувáць, рассýнуць; расхіля́ць, расхілíць; распіхáць, разапхнýць.
**Раздвигаться, раздвинуться**—рассоўвацца, рассувáцца, рассýнуцца.
**Раздвижка**—рассувáньне.
**Раздвижной**—рассувáльны.
**Раздвоение**—раздваéньне, раздвой, падваéньне; *дороги*—раздарожжа, растанí.
**Раздвоить**—*см.* **Раздвоять.**
**Раздвоенность**—раздвоенасьць, двайчáстасьць.
**Раздвоенный**—раздвоены, двайчáсты.
**Раздевание**—разьдзявáньне, распранáньне.
**Раздевать, раздеть**—разьдзявáць, разьдзéць; распранáць, распранýць; разьбірáць,-разабрáць; скідáць, скíнуць.
**Раздеваться, раздеться**—разьдзявáцца, разьдзéцца; распранáцца, распранýцца; разьбірáцца, разабрáцца; раскрывáцца, раскры́цца.
**Раздел**—падзéл; дзяльбá, разьдзéл; *жить в* **разделе**—жыць на адзéле.
**Разделать**—*см.* **Разделывать.**

**Разделение**—падзе́л, падзяле́ньне, разьдзе́л.
**Разделимость**—падзе́льнасьць.
**Разделимый,-лительный**—падзе́льны, разлучáльны (пс.-л.т.).
**Разделитель**—падзе́льнік.
**Разделывание**—разрабле́ньне.
**Разделывать,-лать**—разрабля́ць, разрабі́ць; выплáчваць, вы́плаціць; размалёўваць, размаля̀ваць;**-лать** *кого*—даць чосу; **-лываться** *с кем*—расплáчвацца *з кім.*
**Раздельно**—паасобку, асобна, разьдзе́льна.
**Раздельнолепестный** (*бот.*)—падзе́льнапялёсткавы.
**Раздельнополый** (*бот.*)—падзе́льнародавы.
**Раздельность**—раздзе́льнасьць, падзе́льнасьць, асобнасьць,
**Раздельный**—разьдзе́льны, падзе́льны, асобны.
**Разделять,-лить**—разьдзяля́ць, разьдзялі́ць; падзяля́ць, падзялі́ць; *кого с кем*—разьнімáць, разьня́ць; разводзіць, разьве́сьці, разбараніць.
**Раздеть**—*см.* **Раздевать.**
**Раздёргивать,-рнуть**—разрывáць, разарвáць, расшáрпаць; *завязанное*—расшморгваць, расшморгнуць.
**Раздирать, разодрать**—разьдзірáць, разьдзе́рці, разадрàць; *в клочья*—расшматáць.
**Раздирающий** (*крик*)—праразьлі́вы.
**Раздобреть**—1) раздобрыцца; 2) раздабрэць, пасыце́ць, пагладчэць, патаўсьце́ць.
**Раздобрить**—раздобрыць, задобрыць.
**Раздобывать,-быть**—раздабывáць, раздабы́ць, прыдбáць (што), расстарáцца.
**Раздолье**—раздольле, прывольле, раскоша, воля, выгода, выгодзьдзе.
**Раздольный**—раздольны, прывольны, выгодны.
**Раздор**—нязгода, бязгодзіца, нялáд, свáрка, калатня́, грызьня́, разлáд.
**Раздосадовать**—раззлавáць, расьсе́рдзіць, разгне́ваць, дадзе́ць.
**Раздражаемость,-жимость**—раздражня́льнасьць.
**Раздражать,-жить**—дражні́ць, раздражня́ць, раздражні́ць; уражáць, урáзіць; уцьвяля́ць, уцьвялі́ць; *рану*—разьятрываць, разья́трыць.
**Раздражающий**—дражлі́вы, раздражня́льны.
**Раздражение**—раздражне́ньне (пс. -л. т.), запáл, расьцьвяле́ньне, абурэньне.
**Раздражимый**—дражлі́вы, раздражлі́вы.
**Раздражитель**—раздражня́льнік.
**Раздражительность**—дражлі́васьць, раздражлі́васьць.
**Раздражительный**—дражлі́вы, раздражлі́вы.
**Раздражнивать,-знить**—дражні́ць, раздражня́ць, раздражні́ць; раздрочваць, раздрочыць.
**Раздробление**—раздрабле́ньне, крышэньне.
**Раздроблять,-бить**—раздрабля́ць, раздрабі́ць; падрабня́ць, падрабні́ць; крышы́ць, пакрышы́ць; трýшчыць, патрýшчыць.
**Раздувание**—раздмухáньне, раздувáньне.
**Раздувальный,-вательный**—раздмухáльны, раздувáльны, кавáльскі (мех).
**Раздувать, раздуть**—раздмухáць, раздмýхаць, раздувáць, раздýць.
**Раздумчивость**—раздýмлівасьць, няпэўнасьць, нерашýчасьць, вагáньне.
**Раздумчивый**—раздýмлівы, няпэўны, нерашýчы.
**Раздумывание**—раздýмваньне, разважáньне; перадýмваньне.
**Раздумывать,-мать**—1) раздýмваць, раздумля́ць, раздýмаць; размышля́ць, размы́сьліць; разважáць, развáжыць; 2) перадýмаць, перагадáць.
**Раздумье**—раздýм'е, розмысел, вагáньне.
**Раздурачиться, раздуриться**—раздурэцца, разблазнавáцца, расьсваволіцца.
**Раздутость**—адýтасьць, апýхласьць.

**Раздутый** — адуты, апухлы; раздуты, раздмуханы.
**Разевать, разинуть**—разьзяўляць, разьзявіць; *их много*—паразьзяўляць.
**Раз'единение**—разьядна́ньне, разлучэньне.
**Раз'единенный**—разьядна́ны, разлу́чаны.
**Раз'единять,-нить**—разьядна́ць, разьядні́ць; разлуча́ць, разлучы́ць; разразьня́ць, разрозьніць.
**Раз'едание**—разьяда́ньне.
**Раз'едать, раз'есть**—разьяда́ць, разье́сьці.
**Раз'едаться, раз'есться**—разьяда́цца, разье́сьціся (*ср.* **Разжиреть**).
**Раз'езд**—разье́зд, разьмі́н; разьмі́нка; *угощение при* **раз'езде**—разье́знае.
**Раз'ездить,-ться** — разье́зьдзіць, разье́зьдзіцца.
**Раз'ездной**—разье́зны.
**Раз'езжать**—разьяжджа́ць.
**Раз'езжаться, раз'ехаться**—разьяжджа́цца, разье́хацца; разьміну́цца; *о материи*—расця́гвацца, расьцягну́цца; разьле́зьціся.
**Разжалобить**—разжа́ліць, расчу́ліць, узру́шыць.
**Разжалобиться**—разжа̀ліцца, расчу́ліцца, разьбедава́цца, разжалкава́цца.
**Разжаловать**—зьняць, ссадзі́ць, скі́нуць з наса́ды, пазба́віць годнасьці.
**Разжаловаться**—заска́рдзіцца, разжа́ліцца.
**Разжать**—*см.* **Разжимать.**
**Разжёвывать, разжевать**—разжоўваць, разжава́ць, разжвя́каць, разжмя́каць.
**Разжеманиться**—размане́жыцца, зафігурава́цца.
**Разженный**—распа́лены.
**Разжечь**—*см.* **Разжигать.**
**Разжива**—разжы́ва, кары́сьць, набы́так.
**Разжениться**—разьве́сьціся, разжані́цца.
**Разживаться, разжиться**—разжыва́цца, разжы́цца; расстара́цца; разбагаце́ць.
**Разжигание**—распале́ньне, распа́льваньне.
**Разжигать, разжечь**—распа́льваць распаля́ць, распалі́ць; расьпяка́ць, расьпячы́.
**Разжижать, разжидить**—разрэджваць, разрадзі́ць; разводзіць, разьве́сьці; распуска́ць, распусьці́ць.
**Разжижающий**—разраджа́льны.
**Разжижение**—разрэджваньне.
**Разжиженный**—разрэджаны.
**Разжимание**—расьціска́ньне, разьніма́ньне.
**Разжимать, разжать**—расьціска́ць, расьці́снуць; разьніма́ць, разьня́ць.
**Разжиреть**—раздабрэць, растлусьце́ць, разье́сьціся.
**Разжиться**—*см.* **Разживаться.**
**Раззадоривать,-рить**—раздрочваць, раздрочыць; падбіва́ць, падбі́ць; пад'юджваць, пад'юдзіць, падцкава́ць.
**Раззнакомиться**—спыні́ць знаёмства, раззнаёміцца.
**Раззолотить**—раззалаці́ць;**-лоченный**—раззалочаны.
**Раззеваться**—распазіха́цца, разьзя́віцца, задзіві́цца (з чаго).
**Раззудеться**—засьвярбе́ць.
**Разик**—разок, разочак.
**Разиня**—разява́ка, разьзя́ва, зява́ка.
**Разительный**—ура́зьлівы, дзі́уны.
**Разить**—уража́ць, зазьдзіўляць.
**Разлагать, разложить**—расклада́ць, раскла́сьці, разлажы́ць, парасклада́ць, парасклáдваць; разбіра́ць, разабра́ць.
**Разлад**—разла́д, бязла́дзьдзе, нязгода, няла́д, сва́рка.
**Разлаживание**—разла́джваньне.
**Разлаживать, разладить**—разла́джваць, разла́дзіць; расстроіць (скрыпку).
**Разлакомиться**—разласава́цца.
**Разламливать, разломить** – разломліваць, разламі́ць.
**Разламывание**—разлом, разломваньне.
**Разламывать, разломать**—разломваць, разлама́ць, паразломваць.
**Разлаяться**—разбраха́цца, разга́ўкацца.

**Разлеживаться,-жаться**—разьлёжвацца, разьляжацца; вылёжвацца, вылежацца; расхварэцца.
**Разлезать,-зть**—разьлязаць, разьлёзьці, распаўзьціся.
**Разлениваться,-ниться**—разьлёньвацца, разьляніцца, разьленавацца; разгультайвацца, разгультаіцца.
**Разлетаться,-теться**—разьлятацца, разьляцецца, паразьлятацца.
**Разлечься**—разьлегчыся.
**Разлив**—паводка, верхаводка, разводзьдзе; разьліў.
**Разливальный,-вательный**—разьлівальны.
**Разливание**—разьліваньне.
**Разливать, разлить**—разьліваць, разьліць, паразьліваць.
**Разливаться, разлиться**—разьлівацца, разьліцца; расплывацца, расплысьціся.
**Разливка**—разьліваньне.
**Разливной,-ная** *ложка*—апалонік, палонік.
**Разлиневание**—разьлінаваньне.
**Разлинёвывать,-невать**—разьліноўваць, разьлінаваць.
**Разлитие**—разьліваньне;**-тие** *рек*—паводка.
**Разлить**—*см.* **Разливать.**
**Различать,-чить**—адрозьніваць, адрозьніць, разрозьніць; распазнаваць, распазнаць; адзначаць, адзначыць.
**Различение**—адразьненьне.
**Различествовать**—розьніцца, адрозьнівацца; адзначацца.
**Различие**—розьніца.
**Различительный**—распазнавальны, адразьняльны.
**Различно**—розна, па рознаму, усяляка.
**Различный**—розны, усялякі.
**Разлобызать**—*см.* **Расцеловать.**
**Разлог**—разлог.
**Разлогий**—разлогі, разложысты.
**Разложение**—расклад, распад;**-ние** *органических веществ*—гніцьцё.
**Разложимый**—раскладаны.
**Разложить**—*см.* **Разлагать.**
**Разлом**—разлом.
**Разломать**—*см.* **Разламывать.**
**Разломить**—*см.* **Разламливать.**
**Разломка**—разлом, развал, збурэньне.
**Разлопываться,-паться**—растрэскввацца, растрэснуцца, распокнуцца.
**Разлука**—разлука, расстаньне.
**Разлучать,-чить**—разлучаць, разлучыць, паразлучваць.
**Разлучение**—разлучэньне.
**Разлучник,-ница**—разлучнік,-ніца.
**Разлюбить**—разьлюбіць, распадабаць.
**Размагничить**—размагнэсаваць.
**Размазня**—размазьня, цюхцей.
**Размазывание**—размазваньне.
**Размазывать,-зать**—размазваць, размазаць, паразмазваць; наквэцаць.
**Размалевать**—размаляваць.
**Размалывание**—разьмельваньне, размолваньне.
**Размалывать, размолоть**—разьмельваць, размолваць, размалоць.
**Размарывать,-рать**—размазваць, размазаць, распэцкаць.
**Размасливать,-лить**—масьліць, намасьліць; алеіць, наалеіць; пафарбаваць
**Разматывание**—размотваньне (ніток).
**Разматывать, размотать**—1) размотваць, размотаць, паразмотваць; 2) мантачыпь, прамантачыць, размантачыць (маёмасьць).
**Размах**—размах, разгон.
**Размахивание**—размахваньне.
**Размахивать,-хнуть**—размахваць, размахаць; паразмахваць.
**Размачивание**—размочваньне.
**Размачивать, размочить**—размочваць, размачыць.
**Размашисто**—шырока, раскошна; **-сто** *жить*—раскашаваць, жыць папанску.
**Размашистый**—шырокі, сьмелы.
**Размашка**—маханьне, размахваньне (рукамі).
**Размежевание**—разьмежаваньне; памер (зямлі).
**Размежёвывать,-жевать**—разьмяжоўваць, разьмежаваць; памераць (зямлю).

**Размельчать, размельчить**—драбнíць, падрабнíць; крышы́ць, пакрышы́ць.
**Размельчение**—драбнéньне, крышэньне.
**Размельченный**—падробнены, пакры́шаны.
**Размен**—разьмéн, мéна, вы́мен, мяня́ньне.
**Разменивать,-нять**—разьмéньваць, разьмяня́ць; вымéньваць, вы́меняць.
**Разменный** (*о ден. знаках*)—разьмéнны.
**Размер**—разьмéр, мéра; разьмéрваньне.
**Размеренный**—мéрны; *итти*-**ным** *шагом*—ісьцí мéрна, вáгам.
**Размеривание**—разьмéрваньне, вымéрваньне;**-ние** *на участки*—пляцавáньне.
**Размеривать,-рить**—разьмéрваць, разьмéраць; вымéрваць, вы́мераць;**-ривать** *на участки*—пляцавáць.
**Размесить**—*см.* **Размешивать.**
**Размеска**—разьмéшваньне.
**Разместить**—*см.* **Размещать.**
**Размёт**—роскід, раскідàньне.
**Разметание**—разьмятáньне.
**Разметать, размести**—разьмятáць, разьмясьцí.
**Размётывать, разметать**—раскідáць, параскідáць.
**Разметаться**—раскíнуцца.
**Разметить**—*см.* **Размечать.**
**Разметка**—мéчаньне, знáчаньне.
**Размечать, разметить**—знáчыць, пазнáчыць; мéціць, памéціць.
**Размеченный**—пазнáчаны, памéчаны.
**Размешивание**—разьмéшваньне.
**Размешивать,-шать**—разьмéшваць, разьмяшáць, паразьмéшваць.
**Размешивать, размесить**—разьмéшваць, разьмясíць; *грязь*—разгру́зіць.
**Размещать, разместить**—разьмяшчáць, разьмясьцíць; разьмяркоўваць, разьмеркавáць; расстаўля́ць, расстáвіць.
**Размещение**—разьмяшчэньне, разьмеркавáньне, расстаўлéньне.
**Разминать,-мять**—разьмінáць, разьмя́ць, расьцéрці, пакамéчыць.
**Размножать, размножить**—размнажáць, размножыць, намножыць; распладжáць, распладзíць; разводзіць, разьвéсьці.
**Размножение**—размнажэньнé, распладжэньне.
**Размозжать,-жить**—мажджы́ць, размажджы́ць, растру́шчыць.
**Размозжение**—размажджэньне.
**Размокать, размокнуть**—размакаць, размокнуць, паразмакáць; разьмякáць,разьмя́кнуць.
**Размоклый,-кший**—размоклы, разьмя́клы.
**Размол**—млíва.
**Размолачивать,-лотить**—размалочваць, размалацíць.
**Размолвка**—нязгода, размоўка, звáдка, спрэчка.
**Размолотить**—*см.* **Размолачивать.**
**Размолоть**—*см.* **Размалывать.**
**Размотка**—размотваньне.
**Размотать**—*см.* **Разматывать.**
**Размочаливать,-лить**—разьбівáць, разьбíць на валокны.
**Размочить**—*см.* **Размачивать.**
**Размыв**—размы́ў; *на дороге*—калдобіна.
**Размывать, размыть**—размывáць, размы́ць, паразмывáць; расплёскваць, расплескáць.
**Размы́кать**—раскíдаць; разагнáць, распу́дзіць.
**Размыкать, разомкнуть**—размыкáць, разамкну́ць; расчыня́ць, расчынíць (дзьвéры); расплю́скваць, расплю́шчыць (вочы).
**Размышление**—развáга, развaжáньне, размышлéньне.
**Размышлять, размыслить**—разважáць, развáжыць; размышля́ць, размы́сьліць, паразмышля́ць; раздумля́ць, разду́мaць.
**Размягчать,-чить**—разьмякчáць, разьмякчы́ць.
**Размягчение**—разьмякчэньне.
**Размягченный**—разьмя́кчаны.
**Размякать, размякнуть**—разьмякáць, разьмя́кнуць (*ср.* **Размокать**).
**Размяклый,-кший**—разьмя́клы (*ср.* **Размоклый**).
**Разнашивание**—разношваньне.
**Разнашивать, разносить** (*обувь*)—разношваць, разнасíць.

**Разнеженный**—расьпе́шчаны, здалíка́чаны.
**Разнеживать,-жить**—расьпе́шчваць, расьпе́сьціць; здалíка́чваць, здалíка́ціць.
**Разнесение**—разьнясе́ньне.
**Разнести**—*см.* **Разносить.**
**Разнизывать,-зать**—вын*і*зваць, вы́нізаць; распушча́ць, распусьц*і*ць (ган*і*занае).
**Разнимать,-нять**—разьніма́ць, разьня́ць; разводзіць, разьве́сьці; рашчап*і*ць, разбаран*і*ць.
**Разниться**—розьніцца, адрозьнівацца.
**Разница**—розьніца, адме́на.
**Разно**—розна, паасобку, уся́к, на ўсяля́кі спосаб.
**Разновидность**—адме́на (б. т.); рознаста́йнасьць.
**Разновидный**—адме́нны, рознаста́йны.
**Разноглазый**—рознавокі.
**Разногласие**—разгалосьсе, рознагалосьсе; нязгода, няла́д.
**Разногласица**—*см.* **Разногласие.**
**Разногласный**—рознагалосы, супярэчны.
**Разнозначащий**—з розным значэньнем, рознага значэньня.
**Разноименный**—рознайме́нны.
**Разнокалиберный**—рознакал*і*бравы
**Разнокрылый**—рознакры́лы.
**Разнолепестный** *(бот.)*—рознапялёсткавы.
**Разнолистный**—рознал*і*сты.
**Разномыслие**—рознаду́мства, рознамы́снасьць.
**Разномыслящий**—рознаду́мны, рознамы́сны.
**Разноногий**—рознаногі.
**Разнообразие**—рознаста́йнасьць.
**Разнообразить**—дава́ць розны вы́гляд, розьніць.
**Разнообразно**—парознаму, рознаста́йна.
**Разнообразный**—рознаста́йны.
**Разнопалый**—рознапа́льцы.
**Разноплемённый**—рознапляме́нны.
**Разнополый**—рознароды, рознага роду.
**Разнораздельный** *(бот.)*—рознападзе́льны.
**Разноречиво**—супярэчліва, нязгодна.
**Разноречивый**—супярэчлівы, нязгодны.
**Разноречие**—супярэчнасьць, нязгода.
**Разноречить**—супярэчыць, гавары́ць насу́перак, не згаджа́цца.
**Разносить, разнести**—разносіць, разьне́сьці, абне́сьці; паразнос*і*ць;**-сить** *вести*—дзёйкаць, разгалаша́ць;**-нести** *в безлич. см.*—расьпе́рці,
**Разноска**—*см.* **Разнашивание.**
**Разносный**—разносны.
**Разностный**—розьніцавы, розьнічны (пс.-*л.* т.).
**Разносторонний**—рознабочны, рознабокі.
**Разносторонность**—рознабочнасьць.
**Разностопный** (*о стихе*)—рознастопны (л. т.).
**Разность** (*мат.*)—розьніца (м. т.), рознасьць; *разные* **-сти**—розныя рэчы.
**Разносуставчатый**—рознасуста́ўны.
**Разносчик**—разносьнік.
**Разнотычинковый**—рознаты́чычкавы.
**Разноцветность**—рознакалёрнасьць, рознакаляровасьць, стрыкатасьць.
**Разноцветный**—рознакалёрны, рознакаляровы, стрыка́ты.
**Разноцветочный** (*бот.*)—рознаквёткавы.
**Разночинец**—разначы́нец (*русізм*), няшля́хціц.
**Разношёрстный**—рознама́сны, рознашэрсты, стрыка́ты, пярэсты.
**Разноязычие**—рознамоўнасьць.
**Разноязычный**—рознамоўны.
**Разнузданность** (*в моральн. см.*)—разбэшчанасьць, распу́шчанасьць.
**Разнузданный** *о коне*—раскілза́ны; (*в мор. см.*)—разбэшчаны, распу́шчаны.
**Разнуздывание**—1) раскілза́ньне; 2) разбэшчваньне.
**Разнуздывать,-дать**—1) раск*і*лзваць, раскілза́ць; 2) разбэшчваць, разбэсьціць; распушча́ць, распусьц*і*ць.
**Разный**—розны; *в* **-ные** *стороны*—розна, хто як.

**Разнюхивать,-хать**—разнюхваць, разьнюхаць; вышныпарыць.
**Разнятие**—разьняцьце.
**Разнять**—*см.* **Разнимать.**
**Разобидеть**—укрыўдзіць, скрыўдзіць, уразіць, абразіць.
**Разоблачаць,-чить**—1) распранаць, распрануць; здымаць, зьняць шаты; 2) выяўляць, выявіць; даказваць, даказаць; вывесьці на сьвет.
**Разоблачение**—1) распрананьне, здыманьне шат; 2) выяў, выява, доказ, даказ.
**Разобрать**—*см.* **Разбирать.**
**Разобщать,-щить**—разьяднаць, разлучаць, разлучыць.
**Разобщение**—разьяднаньне, разлучэньне.
**Разобщённый**—разьяднаны, разлучаны.
**Разовой**—аднаразовы, што на адзін раз.
**Разогнанный**—разагнаны.
**Разогнать**—*см.* **Разгонять.**
**Разогнуть**—*см.* **Разгибать.**
**Разогорчить**—засмуціць; зрабіць вялікую прыкрасьць.
**Разогревание**—разаграваньне, расьпяканьне.
**Разогревать,-реть**—разаграваць, разагрэць, разжарыць; расьпякаць, расьпячы; паразаграваць.
**Разогретый**—разгрэты, распечаны.
**Разодевать,-деть**—адзяваць, адзець хораша; убіраць, прыстройваць.
**Разозлённый,-ливший**—разззлаваны, расьсерджаны, разьюшаны.
**Разозлить,-ться**—разззлаваць, раззлавацца; расьсердзіць, расьсердзіцца, разьюшыць, разьюшыцца.
**Разойтись**—*см.* **Расходиться.**
**Разок**—разок, разочак.
**Разом**—разам, зараз, ураз, узапар; адным разам (махам, хватам).
**Разомлеть**—разамлець, разварыцца.
**Разопревать,-реть**—разаправаць, разапрэць, увапрэць; разаўрэць; разбухнуць.
**Разопрелый,-вший**—разапрэлы, увапрэлы, разаўрэлы.
**Разорвание**—разарваньне, порва.
**Разорвать**—*см.* **Разрывать.**
**Разорение**—руйнаваньне, зруйнаваньне, збурэньне, разбурэньне, спусташэньне, зьнішчэньне, разор.
**Разоренный**—зруйнаваны, разбураны, спустошаны, зьнішчаны.
**Разоржаться**—разыржацца, разырзацца.
**Разоритель**—руйнавальнік.
**Разорительно**—стратна.
**Разорительный**—стратны; зруйнавальны, зьнішчальны.
**Разорище**—руіна, крушня.
**Разоружать,-жить**—разбройваць, разброіць, абязбройваць, абязброіць.
**Разоружение**—разбраеньне, абязбройваньне.
**Разоруженный**—разброены, абязброены.
**Разорять,-рить**—руйнаваць, зруйнаваць; разбурваць, разбурыць; нішчыць, зьнішчыць; убожыць, з'убожыць; спусташаць, спустошыць.
**Разоряться,-риться** (*в комм. см.*)—абанкручвацца, абанкруціцца.
**Разослать**—*см.* **Рассылать.**
**Разоспаться**—разаспацца, заспацца
**Разостлать**—*см.* **Расстилать.**
**Разохаться**—развохацца, развойкацца.
**Разохочивать,-хотить**—1) пазбаўляць, пазбавіць ахвоты; адахвочваць, адахвоціць; 2) заахвочваць, заахвоціць, падахвоціць.
**Разочарование**—расчараваньне.
**Разочарованность**—расчараванасьць.
**Разочарованный**—расчараваны.
**Разочаровывать,-ровать**—расчароўваць, расчараваць; пазбавіць надзеі.
**Разочек**—разочак.
**Разрабатывание**—распрацоўваньне, разрабленьне.
**Разработка**—распрацоўка, разробка.
**Разработывать,-тать**—распрацоўваць, распрацаваць; разрабляць, разрабіць.
**Разравнение**—разроўніваньне.

**Разравнивать, разровнять**—разроўніваць, разраўняць, разраўнаць.

**Разражаться, разразиться** *(о буре грозе, войне)*—выбухаць, выбухнуць;**-зиться** *плачем*—зарумзаць;**-зиться** *гневом*—распаліцца гнёвам;**-зиться** *смехом*—пырснуць ад сьмёху.

**Разрастание**—разрастаньне.

**Разрастаться, разростись**—разрастацца, разрасьціся.

**Разреветься**—разраўціся, разрумзацца, расплакацца, разгаласіцца.

**Разрежаемость**—разраджальнасьць.

**Разрежать, разредить**—разрэджваць, разрэдзіць, разрадзіць.

**Разрежение**—разраджэньне.

**Разреженный**—разрэджаны, рэдкі; **-ный** *воздух*—рэдкая павётра (г.-к. т.).

**Разрез**—разрэз, распорка; разразаньне; *в разрез*—у самую сярэдзіну.

**Разрезание**—разразаньне.

**Разрезвиться** *(о детях)*—разьбёгацца, раздурэцца.

**Разрезка**—разрэзка, разразаньне.

**Разрезной**—разразаны.

**Разрезывание**—разрэзваньне, разразаньне.

**Разрезывать,-зать**—разрэзваць, разрэзаць, паразразаць; раскройваць, раскроіць, параскройваць.

**Разрешать,-шить** 1) *кому что*—дазваляць, дазволіць; 2) *вопрос*—разьвязваць, разьвязаць, вырашыць; 3) *от чего*—вызваляць, вызваліць;**-шить** *от грехов*—адпусьціць грахі; даравань грахі;**-шиться** *от бремени*—абрадзіцца, рассыпацца.

**Разрешение**—1) дазвол; 2) разьвязаньне, вырашэньне (пытаньня); 3) *от бремени*—рады.

**Разрешимость**—разьвязальнасьць.

**Разрешимый**—разьвязальны.

**Разрешительный**—адпушчальны.

**Разровнять**—*см.* **Разравнивать.**

**Разрисовка,-вывание** *(красками)*—размалёўваньне.

**Разрисовывать,-совать**—разрысоўваць, разрысаваць; *красками*—размалёўваць, размаляваць.

**Разрозненный**—разрозьнены, разьяднаны, разлучаны.

**Разрознивание**—разрозьніваньне, разьяднаньне.

**Разрознивать,-нить**—разрозьніваць, разразьняць, разрозьніць; разьяднаць, разлучыць.

**Разронять**—павыпускаць.

**Разроптаться**—пачаць наракаць.

**Разростись**—*см.* **Разростаться; -сшийся**—разрослы.

**Разруб,-бка**—разруб, расьцін.

**Разрубать,-бить**—разрубаць, разрубіць; расьсякаць, расьсёкчы, расьцяць.

**Разрубленный**—разрублены, расьсёчаны, расьцяты.

**Разругать**—разляяць, зляяць.

**Разругаться**—разляяцца, паляяцца, пасварыцца.

**Разрумянивать,-нить**—разрумё(я)ньваць, разрумё(я)ніць (твар); размаглёўваць, размаглявáць.

**Разрушаемость,-шимость**—нятрываласьць, падлёгласьць руйнаваньню.

**Разрушаемый,-шимый**—нятрывалы, падлёглы руйнаваньню.

**Разрушать, разрушить**—руйнаваць, зруйнаваць; разбурваць, разбурыць; валіць, разваліць; зьнішчаць, зьнішчыць; *дом* **разрушился**—хата разбурылася; *время* **разрушает**—час нішчыць; *здоровье*-**шается**—здароўе псуецца.

**Разрушение**—руйнаваньне, разбурэньне

**Разрушитель**—руйнавальнік.

**Разрушительный**—руйнавальны.

**Разрыв**—разрыў, разорва, разарваньне.

**Разрывание** 1) *материи*—разрываньне; 2) *земли*—раскопваньне.

**Разрывать, разорвать**—разрываць, разарваць; разьдзіраць, разадраць, разьдзёрці; расшарпаць, расшматаць (адзеньне); **разорвать** *сношения*—спыніць зносіны; *знакомство*—раззнаёміцца.

**Разрываться, разорваться**—разры-

ва̀цца, разарва́цца, разьдзіра́цца, разадра́цца, разьдвёрціся; падра́цца; шарпа́цца, пашарпацца; *о почках на деревьях*—покацца, распокацца, папокацца.

**Разрывать, разрыть**—раскопваць, раскапа́ць.

**Разрывной**—разрыўны́, разрыва́льны.

**Разрыв-трава**—*см.* **Каменоломка.**

**Разрыдаться**—разрыда́цца, разру́мзацца.

**Разрыхление**—пушэньне, крахкава́ньне (г.-м. т.).

**Разрыхленный**—распу́шаны, раскрахкава́ны.

**Разрыхлять,-лить**—пушы́ць, распушы́ць; крахкава́ць, раскрахкава́ць, зраб*і*ць крохкай (зямлю́).

**Разряд**—1) ра́нга, чын, пара́дак, ступе́нь; 2) аддзе́л; 3) *ружья*—разладава́ньне.

**Разрядный**—пара́дкавы, ра́нгавы; **-ные** *единицы* (*мат.*)—дзесятковыя адз*і*нкі (м. т.).

**Разряжать, разрядить**—1) разладоўваць, разладава́ць; вы́круціць, вы́няць набоі; 2)—*см.* **Разодевать.**

**Разряжаться, разрядиться**—прыстройвацца, прыстроіцца; чапуры́цца, прычапуры́цца.

**Разряжение**—разладава́ньне, выйма́ньне набояў з стрэльбы.

**Разряженный**—разладава́ны.

**Разубеждать, разубедить**—пераконваць, пераканa̍ць (на *і*ншае).

**Разубирать, разубрать**—убіра́ць, прыбра́ць; строіць, выстройваць; прычапуры́ць.

**Разуважить**—ушанава́ць, ува́жыць (каму́).

**Разувать, разуть**—раззува́ць, раззу́ць, параззува́ць.

**Разуваться, разуться**—раззува́цца, раззу́цца, параззува́цца.

**Разуверение**—упэўне́ньне; перакана́ньне (у *і*ншым).

**Разуверять, разуверить**—упэўніваць, упэўніць (у *і*ншым); пеконваць, пераканa̍ць (на *і*ншае).

**Разузнавание**—вы́веды, распы́тваньне, роспыты.

**Разузнавать, разузнать**—выведваць, вы́ведаць; распы́тваць, распыта́ць; даве́двацца, даве́дацца; распазнава́ць, распазна́ць.

**Разукрашать,-расить**—аздабля́ць, аздобіць; прыаздабля́ць, прыаздобіць; прыхарошваць, прыхарошыць.

**Разум**—розум; *пренебрежительно*—глузды́.

**Разумник**—разу́мнік, разу́мны.

**Разумный**—разу́мны, му́дры.

**Разумение**—разуме́ньне.

**Разуметь**—разуме́ць, ця́міць, ке́міць; *само собою*-**ется**—само сабою зразуме́ла.

**Разутюженный**—распрасава́ны.

**Разутюживать,-жить**—распрасоўваць, распрасава́ць; разгла́джваць, разгла́дзіць.

**Разухабистый**—калдобісты; *человек*—шырокая нату́ра.

**Разучивание**—вывучваньне.

**Разучивать,-чить**—вывуча̀ць, выву́чваць, вы́вучыць;**-ться**—1) вы́вучыцца; 2) адвы́кнуць, забы́цца.

**Разыграться**—разыйгра́цца, разгуля́цца, разжартава́цца.

**Разыгрывание**—разы́йгрываньне.

**Разыгрывать,-рать**—разы́йгрываць, разыйгра́ць;**-раться**—разыйгра́цца, разгуля́цца.

**Разыскание**—пошукі, вы́веды, дасьле́дзіны.

**Разыскивать,-скать**—вышу́кваць, вы́шукаць; дашу́квацца, дашука́цца; даходзіць, дайсьц*і* (чаго); выве́дваць, вы́ведаць

**Раз'яренный**—раздражнёны, разьюшаны, азьвярэлы.

**Раз'ярять,-рить**—дражн*і*ць, раздражн*і*ць; разьюшваць, разьюшыць;**-ться**—раздражн*і*цца, разьюшыцца, азьвярэць.

**Раз'яснеть,-ниться** (*о небе*)—распагодзіцца, вы́ясьніцца, стаць на пагоду.

**Раз'яснение**—разьясьне́ньне, тлумачэньне, растлума̀чэньне.

**Раз'яснительный**—разьясьня́льны, тлумача́льны.

**Раз'яснять,-нить**—разьясня́ць, разьясьн*і*ць; выясьня́ць, вы́ясьніць;

тлумáчыць, растлумáчыць, вы́тлумачыць.
**Раз'ятие**—разьня́цьце.
**Раз'ять**—*см.* **Разнимать.**
**Рай**—рай.
**Райграсс**—(*бот.* Lolium perenne L.)—жы́цік трывáлы (б. т.).
**Рай-дерево** (*бот.* Populus balsamifera L.)—залатáя вярбá.
**Район**—раён; *земли*—вобруб.
**Районировать**—раянавáць.
**Районный**—раённы.
**Райский**—рáйскі;**-ская** *птица* (*зоол.* Paradisea opoda)—рáйская птýшка.
**Рак**—рак (у розных сэнсах).
**Рака** (*для мощей*)—трунá, дамавíна.
**Ракалия**—бэстыя.
**Ракета**—ракéта, сапýха.
**Ракетный**—ракéтны.
**Ракита** (*бот.* Salix fragilis L.)—вярбá крохкая (б. т.).
**Ракитник** (*бот* Cytisus L.)—зяновец (б. т.).
**Ракитовый**—вярбовы.
**Раковидный**—падобны на рáка, ракавáты.
**Раковина**—чарапáшка, чарапáшына;**-на** *ушная* (*анат.*)—вушнíца.
**Раковинный**—чарапáшкавы.
**Раковый**—рáкавы;**-вые** *шейки* (*бот.* Polygonum Bistorta L.)—драсён вужоýнікавы (б. т.).
**Рак-отшельник** (*зоол.*)—хавáнец.
**Рама**—рáмка; асáда, апрáва.
**Рамазан** (*магом. пост*)—рамазáн.
**Рамка,-мочка**—рáмка, асáдка.
**Рамочный**—рáмачны, асáдкавы.
**Рампа** (*теат.*)—рáмпа, рад ля́мпак пéрад сцэнай.
**Рана**—рáна;**-на** *сквозная*—скразнáя рáна.
**Ранверс**—ранвэрс.
**Ранг**—рáнга.
**Ранговый**—рàнгавы.
**Рандеву**—мéсца спаткáньня; сустрэча.
**Ранее**—ранéй, раньш.
**Ранение**—ранéньне.
**Раненый**—рáнены, парáнены.
**Раненько**—рáненька, зарáна, зарáні.
**Ранет**—ранэт.
**Ранетовый**—ранэтавы.
**Ранёхонько,-шенько**—раню́сенька, раню́тка.
**Ранец**—рáнец; торба.
**Ранжир**—ранжы́р, парáдак, лад.
**Ранжировать**—ранжы́раваць.
**Ранить**—рáніць (*сов.*—зрáніць, парáніць).
**Ранка**—рáнка.
**Ранний**—1) рáньні, досьвітны; 2) заýчáсны;**-нее** *утро*—досьвіткі, пазарáнак;**-няя** *весна*—прадвéсьне.
**Рано**—рáна, рáнкам, урáнку; заўчáсна, зáгадзя; *очень* **р.**—зарáна; **рано** *утром*—досьвіткам, насьвітáньні.
**Рановато**—ранавáта, зарáна, зарáні.
**Рант**—рант, беражок.
**Ранункул** (*бот.*)—*см.* **Лютик**.
**Ранцовый**—рáнцавы.
**Рань**—рань, рáньне, рáніц
**Раньше**—*см.* **Ранее.**
**Рапира**—рапíра, дзíда
**Рапирный**—рапíрны, дзíдавы.
**Рапорт**—рáпарт.
**Рапортичка**—рапарты́чка.
**Рапортовать**—рапартавáць.
**Рапс** (*бот.* Brassica rapus L.)—брýчка, рапс (б. т.), сьвірэпіца.
**Рапсод**—рапсод, лéрнік.
**Рапсодия**—рапсодыя.
**Рапункул** (*бот.* Campanula rapunculoides L.)—званкí аднабокія (б. т.).
**Раса**—рáса.
**Раскаиваться, раскаяться**—раскáйвацца, раскáяцца; кáяцца, пакáяцца, закáяцца.
**Раскаление**—распалéньне, распякáньне.
**Раскаленный**—распáлены, расьпéчаны.
**Раскаливать,-лить**—распáльваць, распалíць,расьпякáць,расьпячы́
**Раскалывание**—расколваньне.
**Раскалывать, расколоть**—расколваць, раскалоць; шчапáць, расшчапíць, пашчапáць, паскяпáць.
**Раскалякаться**—разгаманíцца, загаманíцца, задудýкацца.
**Раскапризничаться**—раскапры́зіцца.
**Раскапывание**—раскопваньне.
**Раскапывать, раскопать**—раскопваць, раскапáць, параскопваць.

**Раскармливание**—раскормліваньне, гадоўля.

**Раскармливать, раскормить**—раскормліваць, раскармíць; гадаваць, вы́гадаваць.

**Раскаряка**—раскірэка.

**Раскарячивать,-чить**—раскірэчваць, раскірэчыць.

**Раскат**—раскáт, покат; *грома*—гру́кат.

**Раскатать**—*см.* **Раскатывать.**

**Раскататься**—раскатáцца, разьéзьдзіцца.

**Раскатистый**—раскоцісты, закáтны (сьмех).

**Раскатный**—покатны, спáдзісты.

**Раскатывание**—раскочваньне.

**Раскатывать,-тать,-тить**—раскочваць, раскачáць, раскацíць; разьвінáць,разьвіну́ць(палáтно).

**Раскачивание**—раскáчваньне.

**Раскачивать,-чать**—раскалы́хваць, раскалыхáць; раскáчваць, раскачáць; разгойдаць, расхістáць.

**Раскашляться**—раскáшляцца.

**Раскаяние**—кáяньне.

**Раскаяться**—*см.* **Раскаиваться.**

**Расквартирование** (*войск*)—расквартэравáньне; разьмяшчэньне па кватэрах.

**Расквартировывать,-ровать**—расквартэроўваць, расквартэравáць; разьмяшчáць, разьмéсьціць па кватэрах.

**Расквасить** *физиономию*—разьбíць, расквáсіць твар.

**Расквитаться**—расквітáцца.

**Раскидистый**—вілавáты, разложысты, разгáты.

**Раскидной**—раскідны́.

**Раскидывание**—раскíдваньне, раскідáньне.

**Раскидывать, раскидать**—раскíдваць, раскідáць, параскідáць.

**Раскидываць, раскинуть**—раскíдваць, раскíнуць; **раскинуться** (*о месте*)—разьлéгчыся; (*о дереве*)—разьвíснуць.

**Раскисать, раскиснуть**—раскісáць, раскíснуць, параскісáць.

**Расклисление**—уквáшваньне.

**Раскислый,-сший**—раскíслы, уквáшаны.

**Раскислять,-лить**—уквáшваць, уквáсіць; раскісляць, раскíсліць.

**Раскладка**—расклáдка, разьмеркавáньне.

**Раскладывание**—расклáдваньне, раскладáньне.

**Раскладывать, раскласть, разложить**—расклáдваць, раскладáць, расклáсьці, разлажы́ць; распáльваць, распалíць (агонь); разгортваць, разгарну́ць (кнíгу).

**Раскланиваться,-няться**—вітáцца, павітáцца; прашчáцца, папрашчáцца.

**Расклёванный**—разьдзёўбаны.

**Расклёвывать, расклевать**—разьдзёўбваць, разьдзяўбáць, разьдзю́баць; выдзёўбваць, вы́дзеўбаць.

**Расклеивание**—расклéйваньне, разьлéпліваньне.

**Расклеивать,-ить**—расклéйваць,расклéіць; разьлéпліваць, разьляпíць;**-иться**—расклéіцца.

**Расклёпывать, расклепать**—разьнітоўваць, разьнітавáць.

**Расклинивать,-нить**—раскліньваць, расклінíць.

**Расковеркать**—паперакру́чваць, параскідáць, паперaварочваць.

**Расковка**—раскавáньне.

**Расковывать, расковать**—раскоўваць, раскавáць, раску́ць.

**Расковыривание**—раскалу́пваньне.

**Расковыривать,-рять**—раскалу́пваць, раскалупáць; разварочваць, разьвярну́ць.

**Раскозыряться**—расказырáцца.

**Раскол**—раскол, схíзма; адшчапéнства; рошчап.

**Расколачивать, расколотить**—разьбівáць, разьбíць.

**Расколебать,-ться**—расхістáць,-цца, разгойдаць, разгойдацца.

**Расколка** (*дерева*)—расколвáньне.

**Расколоть**—*см.* **Раскалывать.**

**Расколупать**—раскалупáць.

**Расколыхать,-ться**—раскалыхáць, раскалыхáцца; разгойдаць, разгойдацца.

**Раскольник**—раскольнік, старавéр, схізмáтык, адшчапéнец.

**Раскольница**—раскольніца, старавéрка, схізматы́чка, адшчапéнка.

**Раскольнический,-чий**—раскольніцкі, старавéрскі.

**Расконопачивание**—расканапáчваньне.
**Расконопачивать,-патить**—расканапáчваць, расканапáціць.
**Раскопать**—*см.* **Раскапывать.**
**Раскопка**—раскопка.
**Раскормить**—*см.* **Раскармливать; -мленный**—раскормлены, разжыраваны.
**Раскоряка,-чить**—*см.* **Раскаряка, -чить.**
**Раскосина**—распорка (косая).
**Раскосый**—касавокі, касавýры.
**Раскошеливаться,-литься**—раздобрывацца,-рыцца (на грошы)
**Раскрадывание**—раскрáдваньне, раскрадáньне.
**Раскрадывать, раскрасть**—раскрáдваць, раскрадáць, раскрáсьці, параскрадáць.
**Раскраивать, раскроить**—раскройваць, раскроіць, параскройваць; разьбівáць, разьбíць (гагавý).
**Раскрасавица**—красýня, красýля.
**Раскраска**—*см.* **Раскрашивание.**
**Раскраснелый**—зачырванéлы.
**Раскраснеть,-ться**—расчырванéць, расчырванéцца.
**Раскрасть**—*см.* **Раскрадывать.**
**Раскрашивание**—размалёўваньне.
**Раскрашивать, раскрасить**—размалёўваць, размалявáць;**-рашенный**—размалёваны.
**Раскритиковать**—раскрытыкавáць, ахáяць, агýдзіць.
**Раскрычаться**—раскрычáцца, разьлемантавáцца.
**Раскроить**—*см.* **Раскраивать.**
**Раскромсать**—падрáць, парвáць, парэзаць.
**Раскрошенный**—раскрышаны, расьцярýшаны.
**Раскрошивать,-шить**—раскрышваць, раскрышыць, параскрышваць; расьцярýшваць, расьцярушыць, парасьцярýшваць.
**Раскрученный**—раскрýчаны, разьвінýты.
**Раскручивание**—раскрýчваньне разьвінáньне.
**Раскручивать, раскрутить**—раскрýчваць, раскруцíць, параскрýчваць; разьвінáць, разьвінýць, паразьвінáць.
**Раскручиниться**—затужыць, зажурыцца, засмуціцца, засумавáць.
**Раскрывать, раскрыть**—раскрывáць, раскрыць; расчыняць, расчынíць (дзьвéры); расхінáць, расхінýць (адзéньне); выяўляць, выявіць (дýмку);**-рыть** *рот*—разьзявіць;**-рыть** *грудь*—расхлістáцца.
**Раскрытие**—раскрыцьце, расчынéньне, расхінáньне, выява, выяўлéньне.
**Раскудахтаться**—раскудáктацца.
**Раскупание**—роскуп, раскуплянньне.
**Раскупать,-пить**—раскупляць, раскупíць, параскупляць.
**Раскупоривать, раскупорить**—раскаркоўваць, раскаркавáць; *ящик*—распакоўваць, распакавáць.
**Раскупорка**—раскаркоўваньне, распакавáньне.
**Раскуражиться**—расфардыбáчыцца
**Раскуривать,-рить**—раскýрваць, раскурыць; запáльваць, запалíць (люльку).
**Раскусывание**—раскýсваньне.
**Раскусывать,-сать,-сить**—раскýсваць, раскусáць, раскусíць, параскýсваць.
**Раскутывание**—раск(х)ýтваньне, разгортваньне, размотваньне.
**Раскутывать,-тать**—раск(х)ýтваць, раскýтаць; размотваць, размотáць; разгортваць, разгарнýць; расхінáць, расхінýць.
**Распад**—распáд.
**Распадаться, распасться**—распадáцца, распáсьціся, параспадáцца; развáльвацца, развалíцца, паразвáльвацца.
**Распаянный**—адлітаваны.
**Распаивать, распоить**—распойваць, распаíць, параспойваць.
**Распаивать, распаять**—адлітоўваць, адлітавáць, паадлітоўваць.
**Распаковка**—распакоўка, распакавáньне.
**Распаковывание**—распакоўваньне.
**Распаковывать,-ковать**—распакоўваць, распакавáць, параспакоўваць.
**Распалзывание**—распаўзáньне.

**Эластичность**—пругкасьць, гнуткасьць.
**Элеватор**—элеватар.
**Элегантно**—элегантна, шыкоўна, прыгожа, чапурна.
**Элегантность**—элегантнасьць, шыкоўнасьць; чапурнасьць.
**Элегантный**—элегантны, шыкоўны, прыгожы, чапурны.
**Элегический**—элегійны, жаласьлівы.
**Элегия**—элегія.
**Электризация**—электрызацыя, электрызаваньне.
**Электризованный**—электрызаваны.
**Электризовать**—электрызаваць.
**Электрический**—электрычны.
**Электричество**—электрычнасьць, электрыка.
**Электровозбудительный** (*физ.*)—электраўзбуджальны.
**Электрогальванический**—электрагальванічны.
**Электрод** (*физ.*)—электрод.
**Электролит** (*хим.*)—электраліт.
**Электромагнетизм**—электрамагнэтызм.
**Электрометр** (*физ.*)—электраметар.
**Электротехник** электратэхнік.
**Элемент**—элемэнт, пярвестак (л. т.), складнік (м. т.).
**Элементарный** элемэнтарны, пачатковы, пярвястковы.
**Эликсир**—эліксыр.
**Эллинский**—элінскі.
**Эллипс**—эліпс.
**Эллипсоид** (*геом.*)—эліпсоід.
**Эллиптический**—эліптычны.
**Эллювий** (*геол.*)—элюві, змытак.
**Эмалевый**—эмалёвы
**Эмалировать**—эмаляваць, паліваць.
**Эмаль**—эмаля, шкліво (ан. т.), паліва.
**Эмансипация**—эманцыпацыя, вызваленьне.
**Эмансипировать,-ться**—эманцыпаваць,-цца.
**Эмблема**—эмблема, азнака.
**Эмблематический**—эмблематычны.
**Эмбриологии**—эмбрыялёгія.
**Эмбрион**—эмбрыён, зародак.
**Эмбриональный**—эмбрыянальны, зародкавы.
**Эмеритальный,-ная** *касса*—эмэрытальная каса.
**Эмеритура**—эмэрытура.
**Эмигрант**—эмігрант, высялёнец.
**Эмиграция**—эміграцыя, высяленьне, выезд.
**Эмигрировать**—эміграваць, высяляцца.
**Эмир**—эмір.
**Эмиссионный**—эмісійны.
**Эмиссия**—эмісія, выпуск грошай.
**Эмоциональный**—эмацыянальны, пачуцьцёвы.
**Эмоция**—эмоцыя, пачуцьцё, пачуваньне.
**Эмпирический**—эмпірычны, дасьвядчальны (пс.-л. т.).
**Эму** (*зоол.* Dromaeus)—эму.
**Эмфизема** *лёгких* (*мед.*)—расьцяг лёгкіх.
**Эндотелий** (*анат.*)—нутраткáнка (ан. т.).
**Энергически,-гично**—энэргічна.
**Энергический,-гичный**—энэргічны, моцны, заўзяты, дзейны.
**Энергия**—энэргія.
**Энтузиазм**—запал (л. т.).
**Энтузиаст**—энтузыясты, запаленец.
**Энциклика**—энцыкліка.
**Энциклопедист**—энцыкляпэдысты.
**Энциклопедический**—энцыкляпэдычны.
**Энциклопедия**—энцыкляпэдыя.
**Эоловый** (*геол.*)—эолевы, навейны (г.-м. т.).
**Эоцен** (*геол.*)—эацэн.
**Эпигенезис**—адраджэньне.
**Эпиграмма**—эпіграма.
**Эпиграф**—надпіс (л. т.), напіс.
**Эпидемический**—пошасны, паморкавы.
**Эпидемия**—пошасьць, паморак.
**Эпидермис**—скурка (б. т.), надскурка.
**Эпизод**—выпадак (л. т.), падзея.
**Эпизодический**—выпадковы (л. т.).
**Эпизоотия**—пошасьць на жывёлу, паморак, падзеж.
**Эпик**—эпік.
**Эпилепсия** (*мед.*)—падучка.
**Эпилептик**—хворы на падучку.
**Эпилог**—эпілёг, дасказаньне (л. т.), дасказ.
**Эпистола**—ліст.
**Эпистолярный** (*стиль*)—лістоўны (л т.).
**Эпитафия**—надмагільны надпіс (л. т.).

**Эпителий**—канчáтак; пакрытніца (ан. т.).
**Эпитет** (*грам.*)—прысловак (л. т.).
**Эпитимия**—пакýта; *отбыть* **-мию**—адпакýтаваць.
**Эпитрахиль**—эпітрахíль.
**Эпифиты** (*бот.*)—расьлíны-жывароcты (б. т.).
**Эпицентр**—надасяродак (г.-к. т.).
**Эпициклы**—надакрýжыны (г.-м. т.).
**Эпический**—эпíчны.
**Эполет**—эпалéт.
**Эпопея**—эпапэ́я.
**Эпос**—э́пас.
**Эпоха**—эпоха; *составлять* **-ху**—рабíць эпоху.
**Эра**—эра, часазьлічэньне.
**Эрекция** (*физиол.*)—эрэ́кцыя, напружэ́ньне.
**Эрмитаж**—эрмітáж.
**Эрозия**—эрозія, выядáньне (г.-к. т.).
**Эрос** (*миф.*)—Эрас, бажок кахáньня.
**Эротический**—эратычны, любоўны.
**Эротика**—эрóтыка.
**Эрудиция**—эрудыцыя, асьвéчанасьць, вучонасьць.
**Эскадра**—эскáдра.
**Эскадрилья**—эскадрылія.
**Эскадрон**—эскадрóн.
**Эскадронный**—эскадрóнны.
**Эскиз**—нáрыс, рысýнак.
**Эскимос**—эскімóс.
**Эскорт**—эскóрт, канвой.
**Эспаньолка**—бародка.
**Эспланада**—эсплянáда.
**Эссенция**—эсэ́нцыя, цымус.
**Эстамп**—эстáмп.
**Эстафета**—эстафэ́та.
**Эстезиометр**—чуламéр (пс.-л. т.).
**Эстет**—эстэ́т.
**Эстетика**—эстэ́тыка.
**Эстетический**—эстэтычны.
**Эстония**—Эстóнія.
**Эстонец**—эстóнец.
**Эстрада**—эстрáда, узвышша.
**Этаж**—павéрх; *дом в три* **-жа**—дом на тры павéрхі.
**Этажерка**—этажэ́рка.
**Этак**—гэтак, вось так.
**Этакий,-кой**—гэтакі, такí.
**Этап**—этáп, прыпынак.
**Этапный**—этáпны.
**Этика**—этыка, марáль.
**Этикет**—этыкéт, прыдворны парáдак.
**Этил** (*хим.*)—этыл.
**Этимологический**—этымалягíчны.
**Этимология**—этымалёгія.
**Этический**—этычны, марáльны.
**Этнический**—этнíчны.
**Этнограф**—этнóграф.
**Этнографический**—этнаграфíчны.
**Этнография**—этнагрáфія.
**Этнолог**—этналёг, народавéд.
**Этнологический**—этналягíчны, народавéдны.
**Этнология**—этналёгія, народавéданьне, народазнáўства.
**Этот, эта, это**—гэты, гэта(я), гэта; гэны, гэна(я), гэна(е); **этого** *года*—сёлета; **этою** *дорогою*—сюдою.
**Этюд**—нáрыс (л. т.).
**Эфемерный**—зданьнёвы, нядоўга трывáлы.
**Эфир**—этáр.
**Эффект**—эфэ́кт, урáжаньне, дзéяньне.
**Эффектный**—эфэктóўны.
**Эфиоп**—мýрын.
**Эх**—эх, ых, ат.
**Эхо**—водгалас, водгук, водгульле, пошчак, рэха; **эхо** *раздается*—разьлягáецца; *отдается*—адгýкваецца.
**Эшафот**—эшафóт.
**Эшелон**—эшалён, шалон.

# Ю

**Юбилей**—юбілéй, угодкі.
**Юбилейный**—юбілéйны.
**Юбиляр**—юбіляр
**Юбилярша**—юбілярка.
**Юбка**—спаднíца; *шерстяная домашнего изделия*—андарáк.
**Юбочник**—бабздыр.
**Юбочный**—спаднíчны.
**Ювелир**—юбэлíр.
**Ювелирный**—юбэлíрны.
**Юг**—поўдзень; вырай (аб птýшках); *на* **юге**—на поўдні.
**Юго-восток**—паўднёвы ўсход (г.-к. т.).
**Юго-восточный**—паўднёва-усходні.
**Юго-запад**—паўднёвы зáхад (г.-к. т.).
**Юго-западный**—паўднёва-заходні.
**Юдоль**—далíна, падол.
**Южанин**—паўднёвік, жыхáр поўдня.
**Южный**—паўднёвы.

**Юла́**—турок, юрок, цыга́нчык; жэўжык.
**Юлианский**—Юлія́нскі.
**Юлий**—Юлі, Юлья́н.
**Юлия**—Юля, Юлька.
**Юлить**—круці́цца, запабяга́ць.
**Юмор**—гу́мар.
**Юмореска**—юмарэска.
**Юморист**—гумары́сты.
**Юмористический**—гумарысты́чны, сьме́шны, сьмяхотны.
**Юнга**—ю́нга.
**Юнеть**—маладзе́ць.
**Юнец**—юна́к, маладзён, хлопец, дзяцю́к.
**Юница**—дзяўчы́на.
**Юнкер**—ю́нкер.
**Юнкерский**—ю́нкерскі.
**Юнона** (*миф.*)—Юнона.
**Юность**—юна́цтва, маладосьць.
**Юноша**—юна́к.
**Юношеский**—юна́цкі, малады́.
**Юношество**—юна́цтва; юнакі́.
**Юпитер**—Юпі́тэр.
**Юридически**—пра́ўна.
**Юридический**—пра́ўны, юрыды́чны.
**Юрий**—Юры, Юрка, Юра́сь.
**Юрисдикция**—юрысды́кцыя.
**Юрисконсульт**—юрысконсульт, пра́ўны ра́дца.
**Юриспруденция**—правазна́ўства, прававе́даньне.
**Юрист**—пра́ўнік, юры́сты.
**Юрк!**—шмыг!
**Юркать, юркнуть**—шмы́гаць, шмы́гнуць.
**Юркий**—рухавы, жва́вы, спры́тны, порсткі.
**Юрко**—руха́ва, жва́ва, спры́тна.
**Юркость**—руха́васьць, жва́васьць, спры́тнасьць.
**Юродивый**—сьвяты́ бяз розуму, блазнава́ты, бла́зен, дурны́, недапе́чаны, бажавольны (В. Ласт.).
**Юродство**—бажавольле.
**Юрок** (*зоол.* Fringilla montifringilla) —юрок.
**Юрский** (*геол.*)—ю́рскі.
**Юрта**—ю́рта, шацёр.
**Юстиция**—юсты́цыя, правасу́дзьдзе.
**Ютиться**—тулі́цца, знаходзіць прыту́лак.
**Ютландия**—Ютля́ндыя.
**Юфть**—ю́хта.
**Юфтяный**—юхтовы.

# Я

**Ябеда**—набрэх, паклёп, ка́верза, злосная намова.
**Ябедник**—брахун, паклёпнік, ка́верзьнік, намоўнік, жыгу́н.
**Ябедница**—брахуха, паклёпніца, ка́верзьніца, намоўніца, жы́жка.
**Ябедничать**—набрэхваць, кляпа́ць, рабі́ць паклёпы (ка́верзы).
**Ябеднический**—брахлі́вы, паклёпны, ка́верзны, намоўны.
**Ябедничество**—браха́ньне, кляпа́ньне, намаўля́ньне.
**Яблоко**—я́блыка, я́блык.
**Яблонища**—вялі́кая я́блыня.
**Яблонный**—я́блыневы.
**Яблоня** (*бот.* Pirus Malus)—я́блыня, я́блына.
**Яблонька**—я́блынька, я́блынка.
**Яблочко**—я́блычка, я́блычак.
**Яблочный**—я́блычны; **-ная** *настойка*—яблыноўка.
**Явка**—я́ўля, пака́з.
**Явление**—зья́ва, зья́вішча, зьяўле́ньне, аб'яўле́ньне; *театр.* я́ва.
**Явленный**—я́ўлены, пака́заны
**Являть, явить,**—выяўля́ць, вы́явіць; яўля́ць, яві́ць; пака́зваць, паказа́ць.
**Являться, явиться**—зьяўля́цца, зьяві́цца; яўля́цца, яві́цца; аб'яўля́цца, аб'яві́цца; пака́звацца, паказа́цца; прыходзіць, прыйсьці́; ста́віцца, стаць (пе́рад кім).
**Явно**—я́ўна, уя́ве, увачаві́дкі, вачаві́ста, нетае́мна.
**Явноязычный,-ные** (*зоол.* Phaneroglossa)—языка́тыя (з. т.).
**Явность**—я́ўнасьць, відавочнасьць, нетае́мнасьць, выра́знасьць, вачаві́стасьць.
**Явный**—я́ўны, відавочны, нетае́мны, выра́зны, вачаві́сты.
**Явор** (*бот.* Acer pseudoplatanus L.) —я́вар.
**Яворина**—я́варына.
**Яворовый**—я́варавы.
**Явочный**—я́вачны (т. пр.).

**Явственно**—вырáзна, выразьлíва, я́сна.
**Явственность**—вырáзнасьць, выразьлíвасьць, я́снасьць.
**Явственный**—вырáзны, выразьлíвы, я́сны.
**Явствовать**—выяўля́цца, відáць з чаго; відáць, што.
**Явь,** *в* **яве**—уя́ве, на сáмай рэчы.
**Яга**—Ягá, Югá.
**Ягдташ**—паляўнíчая торбачка.
**Ягель** (*бот.*)—*см.* **Лишайник.**
**Ягнение**—акочваньне.
**Ягнёнок**—ягня́.
**Ягнёночек**—ягня́тка.
**Ягниться**—кацíцца.
**Ягнятник** (*зоол.* Gypaëtos barbatus) —ягня́тнік.
**Ягнячий**—ягня́чы.
**Ягода**—я́гада; *варенье из* **ягод**—канфітýры.
**Ягодица**—галíнка я́гады.
**Ягодицы** (*анат.* Nates)—крумя́нкі (ан. т.), гáлы, ля́жкі, гузно.
**Ягодичный**—крумянковы, гузновы.
**Ягодка**—я́гадка.
**Ягодный**—я́гадны.
**Ягодообразный**—падобны на я́гаду.
**Ягташ**—*см.* **Ягдташ.**
**Ягуар** (*зоол.* Felis onca)—ягуáр.
**Яд**—атрýта, труцíзна, трýíзна, труць; *сильно-действующий* **яд**—моцная атрýта.
**Ядение**—ядзéньне.
**Ядерный**—я́дравы.
**Ядовито**—атрýтна.
**Ядовитость**—атрýтнасьць.
**Ядовитый**—атрýтны, трýйны.
**Ядоносный**—*см.* **Ядовитый.**
**Ядреный**—я́драны, моцны.
**Ядристый**—я́драны (аб збожжы).
**Ядро** 1) *бот.* nucleus—ядро, костачка, зéрне, зéрнейка; 2) *в пушке*—кýля, ядро; 3) *перенос.*—сýтнасьць, зьмест; **ядро** *древесины*—стры́жань (лс. т.).
**Ядроносный** (*бот.*)—ядраносны.
**Ядрообразный** (*бот.*)—ядравáты.
**Ядрышко**—я́дзерка, ядзéрца.
**Язва**—баля́чка, рáна, я́зва (Нс.); шчарбíна, раскéпіна; мор, пошасьць.
**Язвенник** (*бот.* Anthyllis vulneraria L.)—фералёт (б. т.), паралётнік жоўты.
**Язвенный**—рáнены.
**Язвина**—рáнка; шчарбíнка.
**Язвительно**—кусьлíва, зласьлíва, ушчы́пліва, уразьлíва.
**Язвитель**—кусьлíвец, зласьлíвец.
**Язвительность**—кусьлíвасьць, зласьлíвасьць, ушчы́плівасьць.
**Язвительный**—кусьлíвы, зласьлíвы, ушчы́плівы, уразьлíвы.
**Язвить**—рáніць, кусáць; уражáць.
**Язык** 1) *анат.*—язы́к; 2) *речь*—мова; 3) *в колоколе*—сэрца; *площадной* **язык**—бры́дкая мова; *невоздержный на* **язык**—язы́кáты.
**Языковед**—мовазнáвец.
**Языковедение**—мовазнáўства.
**Языкознание**—*см.* **Языковедение.**
**Языкообразный**—падобны на язы́к.
**Язычески**—папагáнск(у)і, як пагáныя.
**Языческий**—пагáнскі.
**Язычество**—пагáнства.
**Язычище**—вялíкі язы́к.
**Язычковый**—язычковы; **-вый** *цветок* (*бот.*)—язычкавáтая квéтка (б. т.).
**Язычник**—пагáны, пагáнін.
**Язычница**—пагáная.
**Язычный**—язычны, языковы.
**Язычок**—язычок.
**Язь** (*зоол.* Idus melanotus)—язь.
**Яйцевидный**—яйкавáты.
**Яйцевод** (*анат.*)—яйцавод, мáцічная трубá.
**Яйцепровод** (*анат.*)—яйцаход.
**Яйцеродный,-ные** *животныя* (*зоол.* Monotremata)—птушказьвéры (з. т.).
**Яйцо**—яйцо, я́йка; кока (дзіцяч.); *острый конец* **я.**—насок; *тупой*—пухá; *с крепкой скорлупой*—мацáк; *с битой скорлупой*—бíтка; **я.** *недоношенное*—вы́лівак; **яйцо** *расписанное*—пісáнка; *бить* **яйца** *на пасху*—гуля́ць у бíткі.
**Яичко**—яéчка.
**Яичник** (*анат.*)—яéчнік.
**Яичница**—яéчня.
**Яичный**—яéчны.
**Як** (*зоол.*)—як.
**Якание**—я́каньне.
**Яко**—як.

**Якобинец** (*ист.*)—якубінец.
**Якобинский**—якубінскі.
**Яков**—Якуб, Якаў.
**Якорный**—якарны.
**Якорь**—якар.
**Якут**—якут.
**Якшаться** (*с кем*)—зьлягацца, вадзіцца з кім, знацца, калегаваць, сябраваць.
**Ялик**—чоўнік.
**Яловая**—ялаўка.
**Яловеть**—ялавець.
**Яловый**—ялавы.
**Яма**—яма, яміна; **яма** *выкопанная с водой*—копанка; *где берут глину*—глінішча; *волчья*—ваўкаўня.
**Ямайский** (*ром*)—ямайскі.
**Ямб** (*лит.*)—ямб.
**Ямбический**—ямбічны.
**Ямина, ямица**—яміна.
**Ямка**—ямка, ямачка; **ямки** *на лице*—рабізна.
**Ямской**—фурманскі.
**Ямщик**—фурман, вазак.
**Январьский**—студзенскі.
**Январь**—студзень.
**Янки**—янкі.
**Янтарный**—бурштыновы, бруштыновы, янтарны.
**Янтарь**—бурштын, бруштын, янтар.
**Янычар**—янычар.
**Японец**—японец.
**Япония**—Японія.
**Японка**—японка.
**Японский**—японскі.
**Яр**—яр, круча.
**Яремны**—ярмовы.
**Яриться**—ярыцца, распаляцца, заядацца, разьюшвацца.
**Ярица**—ярыца, ярка.
**Яркий**—яскравы, зыркі; бліскучы, ясны, яркі.
**Ярко**—яскрава, зырка, ясна, ярка.
**Яркость**—яскравасьць, зыркасьць.
**Ярлык**—ярлык.
**Ярлычок**—ярлычок.
**Ярмарка**—кірмаш, торг, ярмарак; *гулять на* **ярмарке**—кірмамашаваць.
**Ярморочный**—кірмашовы, таргова; **-ный** *подарок*—кірмашовае.
**Ярмо**—ярмо.
**Яро**—палка, шалёна гняўліва.
**Яровое**—ярына.
**Яровой**—яравы.
**Ярослав**—Яраслаў.
**Ярославль**—Яраслаўль.
**Яростно**—шалёна, у запале.
**Яростный**—шалёны, гняўлівы, злосны.
**Ярость**—ярасьць (пс.-л. т.), сказ, шал; *привести в* **ярость**—разьярыць, разьюшыць, распаліць.
**Ярус**—паверх; поклад (зямлі), шар.
**Ярусный**—павярховы; пакладовы.
**Ярутка** (*бот.* Thlaspi arvense L.)—торбачнік палявы (б. т.).
**Ярый**—адважны, заўзяты; **ярый** *воск*—чысты воск.
**Ярь**—ярына.
**Ясак**—ясак, падатак.
**Ясельный**—яськевы.
**Ясеневый**—ясяновы.
**Ясень** (*бот.* Fraxinus excelsior L.)—ясен.
**Ясколка** (*бот.* Cerastium arvense L. рагавінка (б. т.).
**Ясли**—яські.
**Ясменник** (*бот.* Asperula odorata L.)—дзерачка пахучая (б. т.).
**Ясмин**—*см.* **Жасмин.**
**Ясненький**—ясьненькі.
**Ясненько**—ясьненька.
**Яснеть,-ться**—ясьнець, ясьнецца, праясьняцца, блішча(э)ць.
**Яснёхонький**—ясьнюсенькі.
**Яснёхонько**—ясьнюсенька, ясьнютка.
**Ясно** *о погоде*—ясна, пагодна; *в общем см.*—ясна, выразна; **ясно**, *что*—відаць, што.
**Ясновельможный**—яснавяльможны.
**Ясновидение**—яснавідучасьць.
**Ясновидящий**—яснавідучы, празарлівы, праніклівы.
**Ясность**—яснасьць, выразнасьць, яснота.
**Яснотка**—(*бот.* Lamium L.)—яснотка.
**Ясный**—ясны, выразны; пагодны; *делаться* **ясным** (*о погоде*)—разьясьняцца, выпагоджвацца, брацца на пагоду.
**Яства**—патравы, стравы, яда.
**Ястреб** (*зоол.* Astur)—коршак, куратнік (з. т.), ястраб, шуляк.
**Ястребинка** (*бот.* Hieracium L.)—ястрабок (б. т.).

**Ятаган**—ятага́н.
**Ятрышник** (*бот.* Orchis L.)—зязю́лька (б. т.).
**Ять**—яць.
**Яхонт**—рубі́н, я́хант.
**Яхонтовый**—рубі́навы, я́хантавы.
**Яхта**—я́хта.
**Ячейка**—я́чка, ячэйка, каморка.
**Ячейный**—я́чкавы, ячэйкавы.
**Ячея**—ячая́, я́чка.
**Ячменный**—ячме́нны.
**Ячмень** (*бот.* Hordeum L.)—ячме́нь; **я.** *толченый*—гру́ца.
**Ячневый, ячный**—я́чны, груцовы.
**Яшма**—я́шма, я́сьпіс.
**Яшмовый**—я́шмавы.
**Ящер** *палеон.*—я́шчар, цмок (г.-м.т.); *зоол.* (Manis)—лускаве́ц (з. т.).
**Ящерица** (*зоол.* Lacerta)—я́шчарка.
**Ящеричный**—я́шчаркавы.
**Ящерогады** (*зоол.* Rhynchocephala) яшчарага́ды.
**Ящик**—скры́ня, скры́нка; **я.** *выдвижной в столе*—шуфля́да, прыстолак; **я.** *на мельнице*—кош; **я.** *в сундуке*—прыскры́нак; *отложить что в долгий* **я.**—адкла́сьці на доўгі час.
**Ящичек**—скры́начка.
**Ящур** (*вет.*)—я́шчур.

# ДАДАТКІ

Дадаткі да слоўніка зроблены на падставе „Віцебскага краёвага слоўніка“, выданага ў 1927 г. (скарачэньне—В. кр. сл.), „Практычнага вайсковага слоўніка“, выд. (1927 г.) Вайсковай Камісіі пры Інстытуце Беларускай Культуры (скар.—Пр. в. сл.), рукапісных слоўнікаў Шпілеўскага (скар.—Шп.) і Мядзведзкага (скар.—Мядз.), якія маюцца ў антэнтыку ў Ленінградзкай Усесаюзнай Акадэміі Навук, „Слоўніка граматычна-лінгвістычнай тэрміналёгіі“ XV в. Беларускай Навуковай Тэрміналёгіі, Менск, 1927 г. (скар.—гр.-л. т.), а таксама выпускаў навуковай тэрміналёгіі, скончаных апрацаваньнем ўжо пасьля друку адпаведных аркушаў слоўніка. Дададзены таксама словы, пропуск якіх наагул заўважаны аўтарамі.

## А

**Аббревиатура**—скарачэньне (мз. т.).
**Аборт**—вы́кід.
**Абрис**—абры́с, абводак.
**Авдотка** (*зоол.* Oedicnemus)—паля́нік (з. т.).
**Автократия**—самаўла́дзьдзе (т. гр.).
**Аглютинирующий** (*строй языка*)—англютынацы́йны.
**Аграрий**—абша́рнік.
**Агрессивный**—захопны, зачэпны.
**Азотистый**—азатнава́ты.
**Ай-ай** (*зоол.* Chiromys)—рукамы́шка (з. т.).
**Аистник** (*бот.* Erobium cicutarium L.)—дажджоўнік (В. кр. сл.).
**Акколада**—ду́жка (мз. т.).
**Аккордный**—акордавы.
**Актиния** (*зоол.* Actinia)—акты́нія.
**Алименты**—алімэнты, утрыма́ньне.
**Альбатрос** (*зоол.* Diomedea)—альбатрос.
**Альбит** (*полевой шпат*)—альбі́т, палявí́к (х. т.).
**Альвеола** (*анат.*)—мí́сачка (зубна́я), пухірок (лёгачны) (ан. т.).
**Альмикви** (*зоол.* Solenodon)—шчыліназу́б (з. т.).
**Амбарный**—сьві́рнавы, сьвіронны.
**Амбарчик**—сьвіронак.
**Аммиак**—аманя́к.
**Аммиачный**—аманяковы.
**Аммоний**(*хим.*)—амон.
**Ампулла** (*анат.*)—гарла́чык (ан. т.)
**Анимизм**—анімі́зм, удухаўле́ньне (т. гр.).
**Аннексировать**—анэксава́ць.
**Аннексия**—анэксія.
**Антабка** (*воен.*)—стрэмечка (Пр.в.сл.)
**Антена**—антэна.
**Аорист** (*грам.*)—ао́рыст.
**Арендатор,-рка**—пасэсар,-рка.
**Арендный,-ная** *торговля молочным хозяйством*—пакт (Мядз.).
**Арьетта** (*муз.*)—арые́та, мале́нькая а́рыя (мз. т.).
**Аристократ**—магна́т, пан (т. гр.).
**Аристократия**—можнаўла́дзтва, па́нства (т. гр.).
**Аркан**—за́хлыстка (В. Ласт.).
**Артериальный**—артэрыя́льны, чырвонажы́льны (ан. т.).
**Аршинник** (*сортим.*)—аршыновік (лс. т.).
**Аскарида** (*зоол.* Ascaris)—аскары́да.
**Ассенизатор**—каўшу́р (В. кр. сл.).
**Астрагал** *сладколистный* (*бот.* Astragalus glycyphyllus L.)—аве́чы гарох (В. кр. сл.), журавоў гарох (Мядз.).
**Атлант** (*первый шейный позвонок*)—атля́нт.

## Б

**Баба-Яга**—Каргота-ба́ба (Мядз.).
**Багор**—буса́к.

**Бадяга** (*зоол.* Spongila)—бадзя́га.
**Балочка** (*анат.* trabecula)—кла́дачка (ан. т.).
**Базилиск**—базылі́шак.
**Баллотировка**—лёсы (т. гр.).
**Банный**, *пристал как* **банный** *лист*— прычапі́ўся, як скула́, як мара́.
**Бант**—бант.
**Барабанщик**—бараба́ньнік (Пр. в. сл.), бараба́ншчык.
**Баржа**—віціна (лс. т.).
**Барка**—ла́йба, дуб (лс. т.).
**Батрачка**—маладча́нка (В. кр. сл.).
**Бегать** *от укуса оводов* (*о скоте*)—гізава́ць.
**Беглый** *звук*—выпадны́ гук (гр.-л. т.).
**Бегом** *удирать*—хадала́ дава́ць (В. кр. сл.).
**Бедренный**—бядровы (ан. т.).
**Бедро** (*анат.* femur)—бядры́ца (ан. т.), кульша́ (В. кр. сл.).
**Безбедный**—бязны́дны (Шп.).
**Безвершинник** (*лес*)—безверхаві́ньнік (лс. т.).
**Бездельничать**—дындрава́ць (Шп.), бі́бікі біць.
**Бездетный**—бязьдзе́тнік.
**Бездетная**—бязьдзе́туха.
**Беззубки** (*зоол.* Anodonta)—начовачкі (з. т.), бяззу́бкі.
**Безработица**—безрабоцьце.
**Безработный**—безработны, беспрацоўны, бяспра́цны.
**Безыменный** *палец*—персьцяне́ц (ан. т.).
**Бекеша**—бяке́ша.
**Белка**—скаку́шка (В. кр. сл.).
**Белоусый**—сівавусы.
**Белоглазка** (*зоол.* Abramis sapa. Pallas)—лешч белавокі (з. т.), белавочка.
**Белоглазый**—белазоры.
**Белокрыльник** (*бот.* Galla palustris L.)—какошнік, гу́ска (В.кр. сл.).
**Белокурая**—бяля́нка.
**Беломошник**—беламшэньнік (лс. т.).
**Бензол** (*хим.*)—бэнзо́л.
**Бензоловый**—бэнзо́лавы.
**Белуха** (*зоол.* Delphinapterus)—бялу́ха.
**Берейтор** (*воен.*)—аб'яжджа́чы (Пр. в. сл.).
**Берест** (*бот.* Ulmus suberosa L.)—бе́раст.
**Бесхозяйственность**—безгаспада́рнасьць.
**Бесхозяйственный**—безгаспада́рны, негаспада́рны.
**Бесчерепный** (*зоол.*)—бесчарэпны.
**Бирюза**—бірузá.
**Бить** *челом*—чаломкаць.
**Благородный**—дабрародны.
**Благоустроенность**—дабраладнасьць (т. пр.).
**Бликование**—адсьве́чваньне (х. т.).
**Блин** *пшеничный тонкий*—налі́сьнік; *пресный толстый*—праснáк.
**Блок**—кружа́ла (ан. т.).
**Блокада**—за́мык (т. гр.).
**Блоковый**—кружа́льны (ан. т.).
**Богиня**—багаві́ца.
**Богомол** (*зоол.* Mantis religiosa L.)—багамол.
**Богомолка**—багамолка.
**Боеспособность**—баява́я здольнасьць (Пр. в. сл.).
**Бой-баба**—гой-ба́ба (В. кр. сл.).
**Боковой**—бакавы́;**-вая** *линия* (*родства*)—стрэчная лі́нія.
**Бокс** (*спорт*)—бокс.
**Боксер**—баксэр.
**Болезнь** *желёз*—за́ва́лка.
**Болеть** *перцодами* (*слегка*)—прыхва́рваць.
**Болт**—ніт.
**Большеберцовый** (*анат.*)—вялікагалёнкавы (ан. т.).
**Большой** *палец*—адзіне́ц, пе́ршы па́лец (ан. т.).
**Борный,-ная** *кислота*—борны квас (х. т.).
**Бородавка**—дзі́ч (В. кр. сл.).
**Бороздник**—баразёньнік (лс. т.).
**Босиком**—басяком, басячком.
**Ботаника**—расьлiназна́ўства.
**Ботанический**—расьлiназна́ўчы.
**Боцман**—боцман.
**Бочевка** (*сортимент*)—бачкоўка (лс. т.).
**Бравурный**—браву́рны, сьмелагу́чны (мз. т.).
**Браконьер**—браканье́р, самапра́ўны паляўні́чы.
**Браунинг**—бра́ўнінг.
**Бревно** *нижнего венца в постройке*—падру́ба.
**Бредить**—дрыві́ць.
**Брикет**—цаглі́на.

**Бронза**—мосенз.
**Бронх**—дыхнік (ан. т.).
**Бронхиальный**—дыхніковы (ан. т.).
**Бронхиолы**—дыхнічкі (ан. т.).
**Бросать** *на произвол судьбы*—пакідаць на самога сябе.
**Бросить** (*со звуком от падения*)—бразнуць, грымнуць, чмякнуць.
**Брыжжейка**—аточынка (ан. т.).
**Брюки,** *имеющий широкие обтрепанные* **брюки**—калашман.
**Брюшина**—брухавіна (ан. т).
**Брюшко**—жываток, чэраўца (ан. т.).
**Брюшной**—жыватовы (ан. т.).
**Бугристость**—грудаватасьць.
**Бугристый**—грудаваты.
**Будировать**—узварушваць.
**Будра** (*бот.* Glechoma hederacea L.)—разгон (В. кр. сл.).
**Буерак**—роў (лс. т.).
**Быстрее**—ганчэй (В. кр. сл.).
**Бюргерство**—мяшчанства (т. гр.).

## В

**Вакантный,** *быть*-**ным**—вакаваць.
**Вал** *в ткацком станке*—навой.
**Валеж**—павал.
**Валить**—вурганіць.
**Валиться,** *у него работа из рук* **валится**—ён робіць (працуе), як мокрае гарыць.
**Валка** *леса*—павал лесу (лс. т.).
**Ванчес** (*сортим.*)—ванчас (лс. т.).
**Варакушка** (*зоол.* Cyanecula)—сіняшыйка (з. т.).
**Вдвое**—удвая, удубальт.
**Вдребезги**—уцуркі (В. кр. сл.).
**Ведьмина** *метла* (*лес*)—віхрова мятла (лс. т.).
**Венозный**—вэнозны, сіняжыльны (ан. т.).
**Веретенник** (*зоол.* Limosa melanura)—грыцук чарнахвосты (з. т.).
**Веретенница** (*зоол.* Anguis frangilis)—сьлівень звычайны (з. т.).
**Веретено** *с пряжей*—пачынак, ручайка.
**Верк** (*инж.*)—вэрк.
**Вермишель**—мешаніна.
**Вероника** *щитковая* (*бот.* Veronica scutellata L.)—вужоўнік (В. кр. сл.).
**Веротерпимость**—веразносьлівасьць (т. гр.).
**Верещатник** (*бор*)—верасьняк.
**Вертел** (*анат.*)—крупяк (ан. т.).
**Вертлявый**—увароткі.
**Верхушечный**—вяршочны (ан. т.).
**Верхушка**—вяршок, шчыт.
**Вершинник**—верхаўё (лс. т.).
**Весло**—грабло.
**Веснушка**—ластавінка (Шп.).
**Ветер** *северный*—сеўрук (В. кр. сл.)
**Ветровал**—вывараць.
**Ветролом**—ветралом (лс. т.).
**Ветроупорность**—ветратрываласьць (лс. т.).
**Вешалка** *у одежды*—гітліц, гіцаль.
**Вешка**—тычка, точка (лс. т.).
**Веялка**—гарфа, арфа.
**Веяние**—веяньне, павеў, падыханьне
**Взрыхлитель**—пухнач (лс. т.).
**Визирная** *линия*—візірка, візір
**Вилия** (*река*)—Вяльля.
**Виноградный** *сахар*—глюкоза (х. т.)
**Височный,-ная** *кость*—скроньніца, скроневая косьць (ан. т.).
**Витиеватый**—напышлівы
**Вица**—вітка (лс. т.).
**Вколачивание**—укліненьне (ан. т.).
**Внебрачное** *дитя*—крапіўнік, бансюк.
**Вноска**—дапіска.
**Водка** *хлебная*—варануха (Шп.).
**Водолюб** (*зоол.* Hydrophilus)—вадалюб.
**Водоплавающий,-щие** (*зоол.*)—плывуны (з. т.).
**Водород** (*хим.*)—вадарод; *перекись* **в.**—надтленьнік вадароду (х. т.).
**Водослой**—вадаслой.
**Водоснабжение**—забесьпячэньне вадою.
**Водянистый**—вадзяністы.
**Возка** (*снопов*)—важэньне.
**Войлочная** *шапка*—магерка.
**Воитель**—ваеўнік,ваяўік.
**Волны**—валы (Мядз.).
**Волокнистый**—валаконісты (ан. т.).
**Волокуша**—каркі, падкаркі (лс. т.).
**Волосатик** (*зоол.* Gordius aquitanus)—валасень вадзяны (з. т.).
**Волошить**—*см.* **Холостить**.
**Воронка** *от снаряда*—лейкавіна (Пр. в. сл.), ямка.
**Воротный,-ная** *вена*—варотная вэна.
**Ворсинка**—паўсьцінка.

**Ворсинчатый** (*анат.*)—паўсьцёвы.
**Воспламенитель**—запальнік.
**Восходящий**—узьнімны (ан. т.), узьбёжны.
**Вотум** *доверия*—выказ давер‘я (Пр. в. сл.).
**Всеобщий**—усеагульны.
**Всесоюзный**—усесаюзны.
**Второстепенный** *член предложения*—дадáны член скáзу.
**Втройне**—утрая́.
**Выгарка** жу́жка (х. т.).
**Выгачивать, выгатить**—загáчваць, загáціць.
**Выдвиженец**—вылучэнец.
**Вызывной**—выклікáльны.
**Выпалывать, выполоть**—выполваць, вы́палаць.
**Выращивать, вырастить**—вырадоуваць, вы́гадаваць; узгадоўваць, узгадавáць, падгадавáць, загадавáць.
**Вырубка**—вы́сечка, вы́руб, вáлка, вы́цераб;**-бленное** *место*—пáсека.
**Выспаться** *(пренебр.)*—вы́тухнуцца.
**Выступ** (*анат.* recessus)—зáварань.
**Выходец**—вы́хадзень, высялéнец.
**Выщелачивание** *дерева*—выпалосканьне дрэва (лс. т.).
**Вьюнок** *полевой или березка* (*бот.* Convolvulus arvensis L.)—паўзу́н, (В. кр. сл.).
**Вьюрок** (*зоол.* Fringilla)—юрок.
**Вязанка**--вясло, вязáнка.
**Вязаный,-ный** *платок*—вязёнка (В. кр. сл.).

## Г

**Гавиал** *(зоол.* Gavialis)—гавія́л.
**Газоубежище**—схованка ад гáзаў.
**Гараж**—гарáж.
**Гаял** *(зоол.* Bos frontalis)—бык лабáн (з. т.).
**Гетры**—калычы́ (В. кр. сл.).
**Глазница** *(анат.* orbita)—вакаві́ца (ан. т.).
**Глазничный**—вакаві́чны (ан. т.).
**Глиняный,-ная** *чашка*—глінянка.
**Глисты**—рабакі́.
**Гниловатый**—гнілавáты.
**Гниль**—гнілінá (лс. т.).
**Гнусный**—агі́дны.
**Голенастый**—падгалёністы;**-стые** *(зоол.)*—цыбáтыя (з. т.).
**Голец** *(зоол.* Nemachilus Hasselt.)—сьліж (з. т.).
**Голик** *(истрепанный веник)*—галéнь, дзяркáч.
**Головоногий,-гие** *(зоол.)*—галаваногія.
**Голосоведение** *(муз.)*—вядзéньне голасу (мз. т.).
**Голубика** *(бот.* Vaccinium uliginosum L.)—п‘яні́ца (В. кр. сл.).
**Гомофония**—гамафонія, аднагалосьсе (мз. т.)
**Гонтина**—ганці́на.
**Гонщик** *плотов*—плы́тнік.
**Горихвостка** *(зоол.* Ruticilla)—чарнагру́дка (з. т.).
**Горожанин**--мястовец (т. пр.).
**Гортанный**—гарля́чны (ан. т.).
**Гортань**—гарля́к (ан. т.).
**Горчак** *(зоол.* Rhodeus)—гарчáк.
**Греметь** *(о громе)*—перунавáць (Шп.).
**Гриб** *черный* (Boletus scaber)—ляднік, ляднічок, абáбак, падабáбак.
**Гривенник**—гры́ўня.
**Гроб**—гроб.
**Гробница**—магі́льня (т. гр.).
**Грузила**—патапéц (В. кр. сл.).
**Грязевой**—гразявы́.
**Грязный** *о дороге*—грáзкі.
**Губа**—ву́сьніна (В. кр. сл.).
**Гумно**, *приспособление на* **гумне** *для просушки снопов*—азярод; *место за*-**ном**—загумéньне.
**Гуртом**—гу́ртам.
**Густера** *(зоол.* Blicca björkna L.)—цяроха (з. т.).
**Густота**—гусьцéль (В. кр. сл.).

## Д

**Дама** *(в картах)*—пáнфіль, дáмка, крáля.
**Даман** *(зоол.* Hyrax)—дамáн.
**Двенадцатиперстный,-ная** *кишка*—дванáстка, дванаццаціпáлая кі́шка (ан. т.).
**Движущийся**—рухомы.
**Двор**, *крытый, обнесенный надворными постройками*—даржэнь, даржні́к (Мядз.).
**Двуокись** *(хим.)*—двохтлéньнік (х. т.).
**Двусложный**—двохскладóвы.

**Двуустка** *(зоол.* Distomum)—маты*лі*ца (з. т.).
**Двухаршинный**—двохаршынóвы.
**Двухчертный** *(муз.)*—двурысны.
**Двуязычие**—двумоўнасьць (гр.-л. т.)
**Дендрология**—дэндралёгія, дрэвазнаўства.
**Дендрометр**—дрэвамéр.
**Дентин**—дэнтына, зубн*і*ца (ан. т.).
**Деревянный**—драўляны.
**Дерзить**—éнзаць (В. кр. сл.).
**Дернина**—дзярн*і*на.
**Деряба** *(зоол.* Turdus viscivorus L.)—дрозд шэры.
**Десятка** *(в картах)*—дыска.
**Десять,** *более* **-ти**—скольканáццаць.
**Диапазон**—дыяпазон, ахвáт.
**Диартроз** *(анат.)*—сустáва (ан. т.).
**Диафрагма**—перагародка (ан. т.).
**Диафрагмальный**—перагародачны (ан. т.).
**Директива**—дырэктыва, кіраўн*і*чае паказáньне.
**Дирижировать**—дырыгавáць, дырыжавáць.
**Дирижер**—дырыжэр.
**Дистальный** *(анат.)*—далéйшы (ан. т.).
**Дока**—мэт, док, дук.
**Долинка**—дал*і*нка, лажок.
**Дом** *терпимости (публичный)*—дом распусты.
**Доминанта**—дамінáнта.
**Домоправитель**—дамавéр, дамавéрнік.
**Домоправительница**—дамавéрка, дамавéрніца.
**Донос**—выказка (В. кр. сл.).
**Доносчик**—удавáла.
**Допризывник**—дапрызыўнік.
**Дощечка**—дошчачка.
**Дразниться**—пацыкáцца.
**Дрань**—дор, лучына (лс. т.).
**Древообрабатывающий**—дрэваапрацоўчы.
**Дрок** *(бот.* Genista tinctoria L.)—чысьцік (В. кр. сл.).
**Дубль-бемоль** *(муз).*—падвойны бэмóль (мз. т.).
**Дубль-диез** *(муз.)*—падвойны дыéз (мз. т.).
**Дубонос** *(зоол.* Coccothraustes vulgaris. Pallas)—тоўстадзюб (з. т.).
**Дубильный,-ное** *вещество*—гáрбнік (х. т.).
**Дубровка** *(бот.* Veronica Chamaedrys L.)—кандрáцікі (В. кр. сл.).
**Душегрейка** *(безрукавка)*—шнуроўка (В. кр. сл.).
**Душегубство**—душагубства.
**Душистый**—духмяны (В. кр. сл.).
**Дыхательный,-ное** *горло*—дыхніца; **-ные** *бронхи*—дыхнікі (ан. т.).
**Дятел** *зелёный (зоол.* Gecinus viridis L.)—зялёная жаўнá.

## Е

**Единоплеменник**—радáк.
**Еж, ежы** *морские (зоол.* Echinoidea)—яжоўцы (з. т.).
**Елец** *(зоол.* Leuciscus leuciscus)—яльчык (з. т.).
**Емельян**—Амяльлян, Амéлька.
**Есть**—гáмаць (дзіцячае).

## Ж

**Жаба**—варопаўка (з. т.), вярэпаўка.
**Жаворонок** *хохлатый (зоол.* Alauda cristata L.)—чубáрык (В. кр. сл.).
**Жажда**—прáга.
**Жалобщик**—жáльбіт (т. пр.).
**Жвачный,-ные** *(зоол.)*—жуйкавыя (з. т.).
**Жгут** *из соломы для связки снопа*—вязьмо, вясло, пярэвясла.
**Жгутиконосцы** *(зоол.* Flagellata)—бізуньнікі (з. т.).
**Железа,** *болезнь* **-лёз**—зáвалка (В. кр. сл.).
**Желудок** (ventriculus)—стрáўнік (ан. т.).
**Желудочек**—страўнічок (ан. т.).
**Желчный** *(анат.)*—жаўцёвы (ан. т.); **-ный** *пузырь (анат.)*—жаўцяк, жаўцёвы пух*і*р (ан. т.).
**Жемчужница** *(зоол.* Avicula)—жамчугоўка (з. т.).
**Жердневый** *лес*—жардняк (лс. т.).
**Жереха** *(зоол.* Aspius Agassiz)—бял*і*зна (з. т.).
**Жерлянка** *(зоол.* Bombina bombina L.)—жарлянка.
**Жертвенник**—ахвярны аўтáр (т. гр.).
**Жестянка**—манéрка (В. кр. сл.).
**Живая** *изгородь*—жываплот (Пр. в. сл.)
**Живучка** *(бот.* Ajuga reptans L.).—разрыўнік (В. кр. сл.).

**Житье**—жытло, жы́тка.
**Жница**—пастаця́нка (В. кр. сл.).
**Жук-олень** (*зоол.* Lucanus cervus L.) —рага́лік-але́нь (б. т.).
**Журавленник** *кровокрасный* (*бот.* Geranium sanguineumL.)—воўчая ступня́ (В. кр. сл.).

## З

**Заболонина**—абалона (лс. т.)
**Заболонник**—абалоньнік, ша́шаль (лс. т.).
**Забор** *бревенчатый*—заме́т, замёт (В. кр. сл.).
**Забронировать**—забранава́ць, замацава́ць, забясьпе́чыць.
**Заварка**—запа́ра.
**Завершать,-шить**—завярша́ць, завяршы́ць.
**Завирушка** (*зоол.* Accentor)—ты́наўка (з. т.).
**Завистник**—заглоба (В. кр. сл.).
**Завитушки** *шерсти*—су́кры (Мядз.).
**Заводчик**—заводнік.
**Загнанный**—1) загна́ны; 2) заху́каны, пры́туканы.
**Загорелый** – загарэлы.
**Заградительный** (*огонь*)—заслонны (Пр. в. сл.).
**Загробный** *свет*—(па)замагі́льны сьвет (т. гр.).
**Заделка** *семян*—запа́шка (агр. т.)
**Задерневший**—зьдзірване́лы.
**Задернеть**—зьдзірване́ць.
**Задышка**—задышка.
**Заедчивый** – зая́длівы.
**Заживляющий**—гаю́чы.
**Зазнаться**—развашэціцца (В. кр. сл.)
**Закись** (*хим.*)—падтле́ньнік (х. т.).
**Заклад**—закла́д, заста́ва.
**Заклёпка**—за́клепка.
**Заколка** *для волос*—тарканок (В. кр. сл.).
**Закоржаветь**—закаржэць.
**Закорина**—зачос (лс. т.).
**Закоулок**—завугольле.
**Залебезить**—залісі́ць.
**Заливное** *место у реки*—абалоньне (В. кр. сл.).
**Залюбезничать**—замілава́цца.
**Замедлитель** (*воен.*)—затрыма̀ч (Пр. в. сл.).
**Замерещиться,-лось**,—здалося, пака́залася, прывярзлося.
**Замужество**—заму́ства.
**Замысловатый**—заця́місты (Шп.).
**Запамятовать**—забы́ць, запомніць.
**Запирательный** (*анат.*)—заслоначны (ан. т.).
**Заповедник**—зарочнік (лс. т.).
**Запрессовать**—запрасава́ць.
**Запястье** (*анат.*)—прыдалоньне (ан. т.).
**Зарыскать**—загойсаць, загайса́ць.
**Заряжающий** (*ружье*)—набіва́льнік (Пр. в. сл.).
**Застрельщик**—пачына́льнік.
**Затаить** *дыхание*—прытаі́ць дух.
**Затемненный**—зацёмнены.
**Затемнеть**—зацямне́ць, сьцямне́ць.
**Затока**—вотлынь (Калін. р.).
**Затруднять**—утрудня́ць.
**Заусеница**—за́ўшыца (В. кр. сл.).
**Захламленность**—зава́ленасьць ламаччам (лс. т.).
**Захожий**—заходзень, за́хадзень.
**Захотеть** *немного* **захотелось**—заману́лася.
**Зачелюстный** (*анат.*),—заскі́вічны.
**Защитный** *лес*—заслонны лес (лс.т.); **-ный** *цвет*—табачковы колер.
**Защищать**—захішча́ць (Слон. пав.)
**Заявочный,-ные** *знаки* (*юрид.*)—капцы́.
**Звезда,-ды** *морские* (*зоол.* Asteroidea)—зорачніцы (з. т.).
**Звездчатка** (*бот.* Stellaria graminea L.)—зоркаўка (лс. т.).
**Звукоряд**—гукара́д (мз. т.)
**Здравоохранение**—ахова здароўя.
**Зебу** (*зоол.* Bos indicus)—бык індыйскі.
**Зеленушка** (*зоол.* Chloris)—зеляну́шка.
**Землеройка** (*зоол.* Sorex)—землярыйка.
**Земноводный,-ные** (*зоол.* Amphibia) —вадазе́мнікі, амфі́біі (з. т.).
**Зеркало** – глядзе́лка (В. кр. сл.).
**Зияние**—розьзяў (гр.-л.т.).
**Злой**—пага́ны.
**Змеевик** (*хим.*)—зьмейкаві́к, вужаўні́к (х. т.).
**Знаменательный,-ное** *слово* (*грам.*) —называ́льнае слова (гр.-л. т.).
**Зобный,-ная** *железа*—вілаві́ца, вілава́тая залоза (ан. т.).
**Зоологический**—жывёлазна́ўчы.
**Зоология**—жывёлазна́ўства.

**Зоркий**—глядкі (Шп.).
**Зорянка** (*зоол.* Erithacus rubecula)—чырвонашыйка (з. т.).
**Зуб** *мудрости*—позьні зуб, зуб мудрасьці.
**Зубной,-ная** *коронка* (*анат.*)—зубны вяночак;**-ная** *мякоть*—зубны мякіш (ан. т.).
**Зубоскалить**—выскаляцца.
**Зубчик**—зубочак.
**Зудеть** (*болезненно*)—шчымець.
**Зябнуть**—зябнуць, зімнець.

## И

**Игрунка** (*зоол.* Hapale)—весялушка (з. т.).
**Избранник**—выбраньнік (т. гр.).
**Известковый** *раствор*—вапна-мулярка (х. т.).
**Известь** *белильная* (*хлорная*)—хлёрка, хлёрная вапна; *добывающий* **-сть**—вапеньнік.
**Изгородь** *поперек реки для рыбной ловли*—яз, ез; **и.** *живая (воен.)*—жываплот (Пр. в. сл.).
**Излишек** замерак.
**Изморозь**—аблой (В. кр. сл.).
**Изреженный**—прарэджаны.
**Изреживать**—прарэджваць.
**Иконоборец** (*ист.*)—вобразаборац.
**Иконоборство,-борчество**—вобразаборства (т. гр.).
**Икра** *лягушачья*—крокат.
**Икроножный** (*анат.*)—лыткавы (ан. т.).
**Икс**—ікс (літара *x.*).
**Иммунитет**—непарушнасьць, незачэпнасьць (т. гр.).
**Иноплеменник**—чужаплемец (т. гр.).
**Интродукция**—інтрадукцыя, уступ (мз. т.).
**Инфузория,-рии**—налівнікі; **-рии** *ресничные* (*зоол.* Ciliata)—мігаўнікі (з. т.).
**Ископать**—пакапаць.
**Испарина** *тела*—воміг (Мядз.).
**Испортить**—згадзіць, падгадзіць, згнюсіць.
**Истомиться** *от работы*—увера-дзіцца, спрацавацца; *от хобьбы*—падбіцца.
**Итти** *на перерез*—ісьці на пярэсьціг(к)і.

## К

**Каблук**—падбор.
**Каверна** (*анат*)—пячора (ан.-т.)
**Кавычки**—лапкі (гр.-л. т.).
**Кадка** *дубовая*—дубоўка; *из-под селедок*—селядоўка.
**Казуар** (*зоол.*)—казуар.
**Кайма**—шляк (лс. т.).
**Кайман** (*зоол.* Alligator)—алігатар.
**Калужница** (*бот.* Caltha palustris F.)—лапуха, лапух (В. кр. сл.).
**Кальций**—вапень (х. т.).
**Камертон**—камэртон.
**Камышница** (*зоол.* Gallinula chloropus)—зялёнаножка (з. т.)
**Каналец** (*анат*)—ходзік (ан. т.).
**Канун**—канон.
**Кап** (*лес*)—наплыў (лс. т.).
**Капилярный** *сосуд*—валасьнік (ан. т.).
**Капуцин** (*зоол.* Cebus)—капуцын.
**Кипяток**—укроп.
**Касатик** (*бот.* Iris pseudacorus L.)—кардоўнік (В. кр. сл.).
**Катище** (*место склада*)—рум (лс. т.).
**Катушка** (*зоол.* Planorbis)—скрутка (з. т.).
**Качаться**—гушкацца.
**Кедровка** (*зоол.* Nucifraga)—арэхаўка (з. т.).
**Киви** (*зоол.* Apteryx)—бяскрыл.
**Кивсяк** (*зоол.* Iulus terrestris)—тысячаножка (з. т.).
**Кизил** (Cornus mas L.)—кізыл, дрон.
**Кислотность**—квасnасьць.
**Китообразный**—кітаваты;**-ные** (*зоол.*)—кітазьвеpы (з. т.).
**Кишечнодышащий,-щие** (*зоол.*)—нутрадышнікі (з. т.).
**Кишечный**—кішочны (ан. т.).
**Кладбище**—жальня (Шп.), мынка (Мядз.), валатоўкі (В. кр. сл.).
**Клавиатура**—клявіятура.
**Клапан**—засланка (ан. т.).
**Клевета**—абэлка (В. кр. сл.).
**Клеймо**—адбой (лс. т.).
**Клитор**—ласкацень (ан. т.).
**Ключица**—раменьніца (ан. т.).
**Кобчик** (*зоол.* Falco vespertinus)—сакол-жулёнак (лс. т.).
**Кое-*что***—тое-сёе.
**Кожеед** (*зоол.* Dermestes)—скураед (з. т.).

**Кожух** (*у пулемёта*)—халадзільнік (Пр. в. сл.).
**Козлобородник** (*бот.* Tragopogon pratenses L.)—казялок (В. кр. сл.).
**Козодой** (*зоол.* Caprimulgus)—ляля́к (з. т.).
**Кокарда**—цэшка.
**Колокольчики** (*бот.* Campanula)—званочкі, калба́нчыкі (В. кр. сл.).
**Колос,-сья** *вымолоченные*—каласавіны.
**Колыбель**—тага́н (В. кр. сл.).
**Кольцевидный**—парсьцёнкаваты (ан. т.).
**Кольчуга**—кальчу́га (Пр. в. сл.).
**Колючеперый** (*зоол.*)—калючапе́ры (з. т.).
**Колючка**—бадзю́лька.
**Комма**—кома, коска.
**Конёк** (*зоол.* Anthus)—стрыка́тка (з. т.).
**Конечность**—канцавіна (ан. т.).
**Консультант**—кансульта́нт, дара́днік.
**Конфискация**—заскарбава́ньне (т. гр.).
**Конфисковать**—заскарбава́ць (т. гр.).
**Кон'югата** (*анат.*)—канью́гата, злу́чніца (ан. т.).
**Копошиться**—ке́шкаць, ке́шкацца, шалпата́цца.
**Копчиковый**—хвастковы (ан. т.).
**Копь** *извести*—ва́пнішча.
**Кора** *с молодого липового ствола*—лу́цьце (лс. т.).
**Корбат**—вугля́к (х. т.).
**Корм** *из овса для лошадей*—абрачок (Шп.).
**Кормежка** *лошадей в дороге*—папа́ска.
**Корневые** *мочки*—каранёвыя махра́чыкі (лс. т.).
**Коробейник**—каробачнік.
**Короед** (*жук*)—швэд.
**Король** (*в картах*)—вы́шнік, кароль.
**Коромысло**—пачапе́нь (В. кр. сл.); (*зоол.* Aeschna grandis L.)—ба́бка звыча́йная (з. т.).
**Корыто,** *конец* **корыта**—пе́лесьць.
**Корюшка** (*зоол.* Osmerus)—сты́нка (з. т.).
**Космы**—касьмацьцё.
**Косогор**—пака́т.
**Косослой**—касаслой (лс. т.).
**Костерь** (*бот.* Bromus arvensis L.)—жы́ціца (В. кр. сл.).
**Костномозговой,-вая** *полость*—шпікавішча, шпікава́я поласьць (ан. т.).
**Костный** *мозг*—шпік.
**Кость** *безыменная* (os coxae)—лягвіца, лагвовая (сьцягновая) косьць (ан. т.).
**Косуля** (Cervus cabreolus L.)—дзікая каза́.
**Котловина**—катліна (лс. т.).
**Кочерга**—кулды́га (Шп.).
**Кошачая** *лапка* (*бот.* Antennaria dioica)—залату́шнік (В. кр. сл.).
**Крайний,-няя** *плоть* (*анат.* praeputium)—скуравінка (ан. т.).
**Краснокрыл** (*зоол.* Phoenicopterus)—чырвонакры́л (з. т.).
**Крачка** *черная* (*зоол.* Hydrochelidon)—рыба́лка (з. т.).
**Кремень**—крамзе́ль (Мядз).
**Кремневый,-вое** *ружьё*—скалкоу́ка.
**Кремнезем**—крамёнка (х. т.).
**Крен** (*корабля*)—нахіл.
**Крепнуть**—крапчэць.
**Кресло**—крэсла.
**Крестины,** *другой день* **крестин**—муравінкі.
**Крестоносец** (*зоол.* Anisoplia crucifera Herbst)—грача́нік крыжавы́ (з. т.).
**Кроншнеп** (*зоол.* Numenius)—кулён.
**Крот** *сумчатый* (*зоол.* Notoryctes)—торбакро́т (з. т.).
**Крохоборствовать**—1) зьбіра́ць па крупінцы; 2) жабрава́ць.
**Крупномерный,-ное** *дерево*—тоу́стае дрэва (лс. т.).
**Крупнослойность** (*лес.*)—буйнаслойнасьць (лс. т.).
**Крушить**—лама́ць, руйнава́ць, кру-шы́ць; *на мелкие части*—тру́шчыць, дру́жчыць, крышы́ць.
**Крыжовник** (*бот.* Ribes grossularia L.) а́грэст, агрэст, а́груст.
**Крыша,** *место под крышей*—падстрэшша.
**Крючок**—гак.
**Кряж** (*сортимент*)—каржа́к (лс. т.).
**Кряква** (*зоол.* Anas boschas)—ка́чка-крыжа́нка (з. т.).

**Кувшинка белая** (Nymphea candida. Press)—булдоўка (В. кр. сл.).
**Кукушкин** *цвет (бот.* Lychnis Flos cuculi L.)—смолка балацяна̀я (В. кр. сл.).
**Кукша** *(зоол.* Garrulus infaustus)—сойка тайговая (з. т.).
**Кулик** *болотный* (*зоол.* Limosa melanura)—грыц (В. кр. сл.).
**Кулички,** *пошел к чорту на* **кулички**—пайшоў сабáкам сéна касíць.
**Купальщик,-щица**—купáльнік,-ніца.
**Купорос,-снос** *масло*—вітрыёль (х. т.).
**Курган**—валатоўка (В. к.р. сл.)
**Куролесник**—бабадýр.
**Куропатка** *белая* (Tetrao Lagopus)—пáрдва.
**Курятник**—катýх.
**Кутор** *водяной (зоол.* Neomys*)*—вадашчýр (з. т.).
**Куча** *древесного хлама*—лоўж (лс. т.).
**Кучность**—гушчыня́.
**Кучный**—густы́.

## Л

**Ладонный**—далонны (ан. т.).
**Ладьевидный,-ная** *кость*—чаўнавíца (ан. т.).
**Лазоревка** *(зоол.* Cyanistes)—блакíтніца (з. т.).
**Лазурь**—лазýрак (х. т.), лазýрка.
**Лакуна** *(анат.)*—затока, запáдзіна, праход (ан. т.).
**Ланцетник** (*зоол.* Amphioxus lanceolatus)—лянцэтнік тонкі (з. т.).
**Лань** (*зоол.* Dama)—даніéлька (з. т.).
**Лапша**—локшаны (Мядз.).
**Ласка** (*зоол.* Mustela nivalis L.)—белагрýдка (В. кр. сл.).
**Ластоногий,-гие** (*зоол.*)—плаўняногія (з. т.).
**Лебеда** *свиная* (*бот.* Chenopodium hybridum L.)—**гусíньнік** (В кр. сл.).
**Лесовозращение**—лесаўзрашчэньне (лс. т.).
**Лесозаготовительный**—лесазагатоўчы.
**Лесоматериал**—лясны́ матар'ял.
**Лесопользование**—лесакарыстáньне
**Лесопользователь**—лесакарыстáльнік.
**Лесопотребитель**—лесаспажывéц.
**Лесоразведение**—загадавáньне лéсу (лс. т.).
**Лесорубочный** *(билет)*—лесасéчны (лс. т.)
**Лесоупотребление**—лесаўжываньне.
**Лесоустройство**—лесаўпарáдкаваньне.
**Лестница**—лáзілка (В. кр. сл.).
**Лещина** (*бот.* Corylus Avellana L.)—ляшчы́на.
**Летяга** *сумчатая (зоол.* Petaurus) —лятунéц (з. т.).
**Лимфа**—пáсака (ан. т.).
**Лиственница**—мудрадрэва (В. кр. сл.).
**Лиственный** *лес*—чарналéсіца, лісьцяны́ лес (лс. т.).
**Листоблошка** (*зоол.* Psylla)—лістаскочка (з. т.).
**Листовертка** *дубовая* (Tortrix viridana L.)—ліставрýт дубовы (лс. т.).
**Листоед** (*зоол.*)—лістаéд.
**Лихорадка**—калатýха.
**Лицо**, *выражение* **лица**—мíна (добрая, благáя).
**Личинка** (*жука*)—лярва (лс. т.).
**Лишить** *жизни дитя во время сна матерью*—**прыспáць.**
**Ловкий**—хíжы, лоўкі.
**Логово**—гайно.
**Локтевой,-вой** *отросток*—лакцéнь; **-вая** *кость*—лакцявíца (ан. т.).
**Лопатка** *в сохе*—наполак (В. кр сл.).
**Лососи** (*семейство* Salmo)—**стронга** (з. т.).
**Лоханка** (*анат.*)—мíсачка (ан. т.).
**Лука** *у седла*—кульбáка.
**Луночка**, *зубные*-**чки**—зубны́я мíсачкі (ан. т.).
**Луночковый** (*анат.*)—мíсачкавы (ан. т.).
**Лунь** *(зоол.* Circus)—мышалоў (з. т.).
**Лупа**—люпа, павялічáльное шкло.
**Луч**—касá.
**Лучевая** *кость* (*луч*)—прамéньніца (ан. т.).
**Лысуха** (*зоол.* Fulica)—лысýха.

**Люди**, *сделаться подобным на* **людей**—палюднéць.
**Лютик** *ползучий* (*бот.* Ranunculus repens L.)—зару́жа (В. кр. сл.).

## М

**Магия**—чарнакнíжжа (т. гр.).
**Мазь**—шмаравíдла (х. т.).
**Мак**, *ботва* **мака**—макоўнік; *поле после снятого*-**ку**—мáкавішча.
**Макáка** *(зоол.* Macacus*)*—макáка.
**Малоберцовый** *(анат.)*—малагалёнкавы.
**Мальчик** *надутый и упрямый*—поўпрык.
**Манжетка** *(бот.* Alchemilla vulgaris L.)—гáрнік, расíчка (В. кр. сл.).
**Манжеты**—каўнярцы́ (В. кр. сл.).
**Маркий**, *это платье* -**кое**—гэта сукéнка хýтка пэцкаецца.
**Маршрут**—падарожня (т. пр.).
**Маслобойка**—яндоўка (В. кр. сл.).
**Машина** *корчевальная*—карчавáлка (лс. т.).
**Медведица** *Большая (созвездие)*—Ільлёў воз (В. кр. сл.).
**Медведка** *(зоол.* Gryllotalpa vulgaris)—тýркаўка (Мядз.), мядзьвéдзік (з. т.).
**Медляк**-*вещатель (зоол.* Blaps mortisaga L.)—смуроднік чорны (з. т.).
**Медовед** *(зоол.* Indicator)—медавéд.
**Медянка** *(зоол.* Coronella austriaca. Laur.)—мядзя́нка.
**Междольковый**—міждолькавы (ан. т.).
**Междуселенный**—міжпасéлішчны.
**Межкостный**—міжкосны.
**Межмыщелковый** (*анат.*)—міжгузовы (ан. т.).
**Межхрящевой**—міжхрастковы.
**Межчелюстный**—міжскíвічны.
**Мелеть**—плытчэць.
**Мелколепестник** *(бот.* Erigeron canadensis L.)—калатоўка (В. кр. сл.).
**Мелкослойность**—дробнаслóйнасьць.
**Мельничка** *ручная (небольшая)*—млынок (Мядз.).
**Мергель**—глíнавы вапня́к (х. т.).
**Мерный,-ная** *вилка*—клюба, мéрная вíлка (лс. т.).
**Мертвоед** (*зоол.* Necrophorus vespillo L.)—хаўтýрнік (з. т.).
**Мизинец**—кокаць (Шп.).
**Мило** міла, мілосна.
**Минога** (*зоол.* Lampetra planeri Bloch)—верацянíца (з. т.).
**Митинг**—мíтынг, сход.
**Молекула**—малéкула (х. т.).
**Молоко** *полузакисшее*—абрызклое; *сладкое* **м.**—пастаялка (В. кр. сл.).
**Молоть** *языком*—мянцíць, лáхціць, лýхціць.
**Молочай** *(гриб* - Agaricus subdulcis*)*—бяля́нка (В. кр. сл.).
**Молчание** *в разговоре*—прамоўчка.
**Молюски** *(зоол.* Mollusca)—мякуны́ (з. т.).
**Морда** *острая*—пы́са, пы́ска.
**Морковь**, *ботва* **моркови**—маркоўнік.
**Мороз** *в начале зимы до выпаду снега*—галéц (Мядз.).
**Морозобоина**—марозная шчы́ліна, марозіна (лс. т.).
**Моча**, *испускать* **мочу**—бýрыць; *испускающий*-**чу** бруй, бруль.
**Мочалка** *банная*—рахотка (В. кр. сл.).
**Мочеполовый**—мачародавы, мачаплоцьцевы (ан. т.).
**Мухоловка** *(зоол.* Muscicapa)—валася́ніца (з. т.).
**Мухомор** (*бот.* Amanita muscaria L.)—мухамора.
**Мускул**—цяглíца (ан. т.).
**Мыт**—залоза, зáлаза; *болеть* **мытом**—залавáць (В. кр. сл.).
**Мышечный**—цяглíчны (ан. т.).
**Мышь**—падмосьніца (В. кр. сл.).
**Мыщелок** *(анат.* condylis)—узгýз.
**Мямлить**—мя́мліць.
**Мямля**—мя́мля.
**Мятель**—крутýха (В. кр. сл.).
**Мяукать**—курня́ўкаць.

## Н

**Набожность**—набожнасьць.
**Набожный**—набожны.
**Наборщик**—наборнік.
**Набухнуть**—набрыня́ць.
**Навиду**—надозірку (В. кр. сл.).

**Навскач**—наўгрýнь, наўскачкá, наўскапы́та (В. кр. сл.)
**Надгортанник**—надгорлік (ан. т.).
**Надгортанный**—надгорлічны (ан. т.).
**Надкостница**—накосьніца (ан. т.).
**Надоедливый**—агáзны, агáзьлівы (В. кр. сл.).
**Надпочечный**—надны́ркавы.
**Надхрящница**—нахрáсьніца (ан. т.).
**Наловчиться**—налажы́цца, налаўчы́цца.
**Наперсток** калéц (В. кр. сл.).
**Нарвал** (*зоол.* Monodon monoceros)—шыланос (з. т.).
**Насекомоядный,-ные** (*зоол.*)—казюлькаéдныя (з. т.).
**Насильно**—сіламоцьцю (Калінін. р.)
**Наследить**—нарабíць сьлядоў.
**Настеж**—нáпіта (В. кр. сл.).
**Натеребливать,-бить**—смы́каць, насмы́каць; рваць, нарвáць; драць, надрáць.
**Нахохлиться**—надубы́рыцца.
**Негодяй**—басалáй.
**Неделя** *Фомина*—Задýшная нядзéля (Шп.); *страстная*—бéлая нядзéля (Мядз.).
**Недоверие**—бязьвéрыца.
**Недоумевать**—дзівíцца.
**Недоумение**—сумнéньне.
**Нейзильбер**—новае срэбра (х. т.).
**Некогда** *бывший*—калíшні.
**Нелюдим**—нéлюдзь (В. кр. сл.).
**Неолитический** *(век)*—новакамéнны, нэалітычны.
**Неотёса**—неачосаны, грубíян.
**Непогрешимосгь**—неабмы́льнасьць (т. гр.), непамы́льнасьць.
**Непослушный**—агýра, агýрлівы.
**Неприглядный**—няўзорысты.
**Непьющий**—няп'юшчы.
**Неразвязный**—сьціскл*і*вы.
**Нераспорядительный**—нераспарáдчы.
**Несвязно**—нязьвя́зла.
**Нетопырь** (*зоол.* Pipistrellus)—скурлáт (з. т.)
**Неудобный, ная** *земля*—няўжы́так, няўдобіца (лс. т.).
**Нехватка**—брак, нястáча.
**Никотин**—нікаты́на.
**Нитка**, *промокнуть до последней* **нитки**—прамокнуць да апошняга рубцá.
**Нога**, *длинные* **ноги**—цы́блы.
**Нож** *тупой для грубых работ*—чапéль (Мядз.)
**Ноздреватый**—прахонаваты.
**Носитель**—нас*і*цель.
**Носительница**—нас*і*целька.
**Носовой,-вая** *кость*—насавáя косьць, насав*і*ца (ан. т.).
**Носонебный**—носападнябéнны (ан. т.).
**Носослезный**—носасьлёзны (ан. т.).
**Нотопечатание**—нотадрукавáньне (мз. т.).
**Ночесветка** (*зоол.* Noctiluca)—начасьвéтлік (з. т.).
**Нумеровщик**—нумаравáльнік.

## О

**Обвес**—абвáжваньне.
**Обжим** (*у ружья*)—пры́ціск (Пр. в. сл.).
**Обзаведение**—абзаводак.
**Обзол** (*необрезанная часть бруса доски*)—абзá (лс. т.)
**Обиняки**—бяня́кі; *говорить*-**ками**—бяня́кацъ.
**Область**, *в*-**сти** *живота* у абся́гу жыватá.
**Облегчение**—ýльга.
**Облесение**—залясéньне (лс. т.).
**Облеченный,-ное** *ударение* (*грам.*)—дугавы́ нáціск (гр.-л. т.).
**Облический**—ускосны (Пр. в. т.).
**Обложение** *налогами*—ападаткавáньне.
**Ободочный,-ная** *кишка*—абводніца (ан. т.).
**Оболонь**—абалона (лс. т.).
**Оболочка**—балона (ан. т.).
**Обруч** *железный на втулке*—рэхва.
**Обрывистый** *берег реки*—узвáльле (В. кр. сл.).
**Общественник** (*учитель*)—грамадазнáвец.
**Обязательство**—заабавязáньне.
**Овечье** *мясо*—барáніна.
**Овин,** *пристройка к овину*—заёвіньне, прыасётак.
**Овсянка** (*зоол.* Emberiza citrinella)—жаўтаўбрýшка (з. т.).
**Овца** *молодая*—я́рка.
**Оглобля** *в сохе*—вобжа, абжá.
**Огонь** багáч (*стар.*).

